## ПАЭЗІЯ ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ

Многа паэтаў на свеце.

Як пазнаюць, як адрозніваюць іх чытачы адзін ад аднаго?

Мала ўцехі, калі толькі па прозвішчах.

Бо як бы ні гаварыў паэт сам пра сябе і нават як бы ні хвалілі або ні лаялі яго крытыкі, ён уваходзіць у памяць, у пачуцці людскія творамі — няхай некалькімі вершамі, няхай адной песняй, нават адным радком, калі гэта ўласнае, вынашанае, выбаленае, запаветнае — вось яго пашпарт і візітная картка, па якой мы пазнаём аблічча аўтара, яго манеру, стыль, адметнасць слова, засведчанага ўласным лёсам.

Сяргей Грахоўскі пазнаецца па творах. У паэта многа чытачоў, сяброў і прыхільнікаў яго таленту. Пэўна, перш за ўсё таму, што ён заўсёды ішоў і ідзе да свайго чытача, як да блізкага субяседніка, з якім гаворыць шчыра і даверліва — адкрытым сэрцам, як адкрытым тэкстам, без ускладненага метафарычнага шыфра і сінтаксічнай закадзіраванасці радка. Рытмічнай кардыяграме яго верша не ўласцівыя нечаканыя перапады і галаваломныя кручы. Гэта майстар строгай формы, верны лепшым традыцыям і вопыту сваіх папярэднікаў не толькі ў пашай, беларускай класічнай паэзіі.

Для пацвярджэння гэтай думкі спашлюся па прыклад з творчай практыкі паэта — яго пераклад Аляксандра Блока.

Вобразна кажучы, адзін з самых дасканалых майстроў па архітэктоніцы, па кампазіцыі, па гучанню рускага верша вельмі доўга чакаў і выбіраў сабе перакладчыка на беларускую мову і не памыліўся, выбраўшы Сяргея Грахоўскага, які пераклаў і такія паэмы, як «Дванаццаць» і «Салаўіны сад» — рэчы выключнай вобразнай; насычанасці і яго лірычныя шэдэўры, дзе гранічна скандэнсаваны эмоцыі незвычайнай выбуховай сілы і святла такога азарэння, калі раптам адначасна бачыцца нам і глыбінныя таямніцы душы чалавечай, і неабсяжныя далягляды цэлых гістарычных эпох. Інтанацыйная структура блокаўскага верша з яе асаблівай адметнасцю тонка адчута і ўдала ўвасоблена беларускім паэтам у сваёй мове сродкамі ўласнага вопыту.

Як чытач, я заўсёды і без подпісу пазнаю Сяргея Грахоўскага па радках, у якіх пульсуюць думка і пачуццё, пазначаныя яго асабістай перажытасцю, радасцю і смуткам паэта.

Такой бачыцца і чуецца мне гучаннем высокага эмацыянальнага напружання яго «Паэма дарог» і многія рэчы, што здабываліся нялёгкай цаной, вывяраліся суровай праўдай жыцця і нясхіснай верай у чалавека на ўсіх тых дарогах, якія давялося прайсці паэту ў гады і ў тым узросце, калі талент, падараваны прыродай, асабліва вымагае не толькі чуласці і падтрымкі, а і актыўнага самавыяўлення і няспыннага творчага ўдасканалення.

Свой першы верш, які называўся «На змену Ільічу», ён апублікаваў у часопісе «Беларускі піянер». Пад вершам стаяў подпіс: «піянер Сяргей Грахоўскі».

Падумаць толькі, у якім узросце нараджаюцца паэты!

Але шлях у паэзію не просты і гладкі. Я сустрэў

Грахоўскага ў Бабруйску на дрэваапрацоўчым камбінаце, дзе мы працавалі з ім у адным цэху, дзе нашы станкі стаялі побач.

Наша сяброўства пачалося з нашага юнацтва, з маладосці ўсёй краіны, з духоўнага ўздыму роднай рэспублікі. Нездарма першыя выданні, у якіх мы друкавалі свае вершы, называліся «Вясна» і «Уздым». Пачыналася першая гераічная пяцігодка. Бабруйскі лесакамбінат быў яе буйнейшай будоўляй.

Мабыць, па добрых законах юнацкай еднасці, мы, хто паспеў ужо скласці свае першыя вершаваныя радкі, надрукаваць у газеце або ў часопісе селькораўскую нататку, з цікаўнасцю цягнуліся адзін да другога, лучачыся ў нейкае вельмі жаданае і прывабнае для кожнага з нас літаратурнае брацтва. Не дзіва, што напрыканцы ўскраіннай вуліцы — Мінскай, якая вяла на дрэваапрацоўчы камбінат, нас, пачынаючых паэтаў, рабочых камбіната, сабраўся аж цэлы гурт. У доме Барыса Мікуліча і яго сясцёр знайшлі гасцінны прытулак Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі і я, насупраць, цераз вуліцу, жыў Аляксей Зарыцкі. Пазней на камбінат прыйшлі Пімен Панчанка, вядомы цяпер літаратуразнаўца Янка Казека. Усіх нас яднала вясна жыцця і «Вясна» як літаратурны асяродак, душой якога быў Міхась Лынькоў. Між нашай сябрыны хораша і самабытна загучалі тады апавяданні тэлеграфіста Хвядоса Шынклера, настаўніка Міколы Лобана, вершы Алеся Жаўрука, Рыгора Суніцы, Міколы Аўрамчыка.

Што гэта быў за час? Сказаўшы адным словам — шчаслівы, час не толькі пераўтварэння ўсяго народнага жыцця, але і нечуванага духоўнага адраджэння, не зважаючы на цяжкасці, якія і нам, і ўжо нашым дзецям хіба што прыйшлося яшчэ раз пабачыць і перажыць у дні Вялікай Айчыннай і ў першыя пасляваенныя гады.

Холадна і голадна было нашаму юнацтву. У самай пары маладыя хлопцы і дзяўчаты, якім толькі б набірацца сілы, мы жылі падгаладзень.

У нас, у рабочых, была хіба толькі адна перавага перад сваімі равеснікамі — утрыманцамі бацькоў і тымі, што вучыліся,— мы елі хлеба ўдвая болей: ажно восемсот грамаў. Гэта на дзень. Але рэдка калі ўдавалася падзяліць норму ні то што на тры, а і на два разы: пачаўшы есці, цяжка было ўтрымацца, каб не падабраць і апошнія крошкі. А бывала ж, у нашым заводскім ларку, каб не ўсухамя, да хлеба далучыш яшчэ і бутэльку морсу — смакатоцце, што не выказаць словам! А на начной змене ў цэхавай сталовай можна было пражывіць душу ну калі не гарачай, дык цёплай напэўна стравай: на першае — суп, на другое — каша. Праўда, з адных-адзіных круп. Тады гораду Бабруйску шанцавала па ячную сечку, а яшчэ — на конскую каўбасу, таўшчынёй у добрае бервяно, якое распілоўвалі кругамі. Сталавальні свае не магу забыцца па вельмі строгаму парадку і дысцыпліне. Туды заходзілі толькі атрымаўшы пры ўваходзе алавяную лыжку, выйсці назад без лыжкі ты ўжо не мог. Пільная варта ахоўвала ў дзвярах таз з алавянымі прасекамі. І цяпер гудзе ўвушшу родная наша карміцелька: звіняць, бразгаюць міскі і лыжкі, а ў патыліцу дыхае чарга. Сам выстаяў, каб сесці, а і па табе ўжо занята. Ніхто не паспяваў нагрэць месца. Пасля я ўсё жыццё заўважаў за сабой звычку — нават

у гасцях есці прыхапкам.

Чаму я прыгадваю ўсё гэта? Таму што пішу пра свайго сябра, жыццёвая дарога якога пачыналася з тых дзён. Не так лёгка было юнаку адстаяць ноч пры станку. Аднойчы з Сяргеем здарылася бяда. Падаючы дошку ў фугавальны станок, ён незаўважна, механічна падсадзіў пад пажы палец.

Піянер Грахоўскі апублікаваў першы верш, калі яму было трынаццаць год. Першую сваю кнігу пад назвай «Дзень нараджэння» паэт выдаў, калі яму споўнілася сорак пяць.

Паэма жыццёвых дарог, яе радкі складаліся і выпрабоўваліся на самых крутых паваротах і пераломах часу, пакуль прыйшлі, вярнуліся ў родную паэзію.

Піянер Сяргей Грахоўскі... Не зважаючы на гады, на паважаны ўзрост, ён і цяпер для новых сваіх чытачоў і для нас, яго сучаснікаў,— піянер у поўным значэнні гэтага слова: пачынальнік, завадатар, разведчык і вястун новага.

Гэта — паэт заўсёды актыўнага, няўрымслівага грамадзянскага тэмпераменту, у творчасці якога знаходзяць непасрэдны водгук важнейшыя падзеі ў жыцці савецкіх людзей, у грамадскім асяроддзі, у якім жыло і жыве чуйнае сэрца паэта.

Памятаю адзін з юнацкіх яго вершаў ці, дакладней сказаўшы, нагоду і абставіны, якія выклікалі гэты верш да жыцця. Гэта было яшчэ на дрэваапрацоўчым камбінаце, калі мы аднойчы апынуліся перад небяспекай спынення работы ўсяго прадпрыемства: прарвала падземныя трубы, што жывілі вадой кацельную электрастанцыю. Толькі кемлівасць і адвага двух рабочых Мадорскага і Савіча ўратавалі завод ад аварыі. Пра гэта малады паэт напісаў амаль цэлую паэму, якую надрукаваў самы папулярны на той час літаратурны часопіс «Маладняк» (№ 7-8, 1931 г.). Праўда, здарылася так, што калі прыйшоў гэты нумар, Грахоўскі апынуўся ў бальніцы, захварэўшы на брушны тыфус. Часопіс мы перадалі яму ў палату тайком праз фортачку. Галоўны ўрач, заўважыўшы недазволеную перадачу, абурыўся, але адгарнуўшы вокладку, на першай старонцы ўбачыў імя і прозвішча свайго хворага, што ляжаў у вельмі цяжкім стане. Чулы і добры чалавек, ён не адыходзіў ад хлопца, пакуль не ўратаваў, не падняў яго на ногі.

За спагаду і чуласць паэт усё жыццё нясе людзям шчырую душэўную ўдзячнасць, засмучаючыся іх горам, радуючыся іх шчасцю.

Грамадзянская чуйнасць асабліва да клопату і трывог, якімі жыве наш малады і самы юны сучаснік — гэтыя якасці ўласцівыя яму не толькі як паэту, але і празаіку, і публіцысту.

Ён напісаў аповесць, якая прывабіла чытача незвычайнасцю падзей і праўдай гераічных людскіх характараў,— «Рудабельская рэспубліка».

У пачатку шасцідзесятых гадоў Сяргей Грахоўскі тыднямі, месяцамі жыве і працуе на будоўлі Полацкага нафтавага завода, піша вершы, друкуе нарысы.

Прагны да цікавых людзей, да новых мясцін, ён не абмінуў у рэспубліцы, пэўна, ніводнага раёна.

Па незабыўных ўражаннях яму блізкія і родныя бясконцыя прасторы ўсёй Радзімы, велічныя вобразы якой увайшлі ў яго вершы і паэмы, апавяданні і

аповесці.

Хай не лёгка, але светла і хораша было нам з ім у юнацтве, шчаслiва і ўцешна, калі абодва ўжо ў дзедаўскім узросце стварaлі мы часопіс для дзяцей «Вясёлка», першы нумар якога пачынаўся яго звонкімі, сонечнымі радкамі:

Распраўляе крылцы пчолка,
Зелянее збажына.
Загарэлася вясёлка —
Будзе добрая вясна.

Пэўна, гэтак заўсёды: ад вясны і да вясны ішла і ідзе, перадавалася і перадаецца эстафета жыцця, эстафета маладосці і паэзіі.

*Васіль Вітка*

# ДАЛЁКАЯ ВЯСНА
***Вершы 1929-1969***

## АСЕННІЯ АЗЁРЫ

На азёрах сініх — белыя лілеі,
Восенню азёры засцілае сум,
У чаротах плачуць ветры-буйнавеі,
Атрасаюць долу дымную расу.

Вышыла мне маці зрэбную кашулю,
Выткала чырвоны маці паясок.
Капае з рабіны на ніты і шпулю
Сонечным узорам пераспелы сок.

Вецер, буйны вецер атрасае лісце,
Падаюць з адчаем чайкі на ваду.
Што адкрасавала, што сплыло калісьці,
Я ўжо ніколі болей не знайду.

На азёрах сініх — белыя лілеі,
І на развітанне трубяць жураўлі,
Узыходзіць сонца светлаю надзеяй
На пагодны ранак і красу зямлі.

**ЧАЦВЁРТАЯ ВЯСНА**

Вось і лес пачарнеў,
Набрынялі старыя таполі,
Да азёраў і рэк ручаі пацяклі —
За аселіцай рунню ўкрылася поле,
Гром ударыў, і лівень пабег на зямлі.
Пачынала хрысціцца старая бабуля;
«Загрыміць на аголены лес —
Будзе голад і будзе няўрод»,
Але дождж не змаўкаў,
У маланках, у громе і гуле
Пачынаўся чацвёрты калгасны год.
Дождж ішоў, і, здалося, зямля закіпае,
Беглі весела дзеці на лужах уброд.
А ў хаціне шаптала бабуля старая:
«Будзе голад, пабачыце, будзе няўрод».
Загулі ручаіны, вясёлка устала над светам,
І пад ёю дадому буслы паплылі.
«Будзе сонечны год, ураджайнае лета»,—
Гаварыў аграном, размінаючы жменю зямлі.
На світанні курыліся луг і папары,
Узнімалася рунь, наліваліся мёдам сады,
Адплывалі на захад барвовыя хмары,
Усміхалася сонца ў калюжынах цёплай вады.
Вось і ліпень настаў.
Залаціўся ячмень за ракою,
Хваляваласся жыта,
Шумелі аўсы.
Іх старэнькая гладзіла кволай рукою
І паціху шаптала: «Не тыя часы».
1934

**КРЫНІЦА**

Бруіцца каля берага крыніца
То ціха, то звініць на ўсе лады,
Сюды ідуць у спёку, каб напіцца
Сцюдзёнае празрыстае вады.
А снег пад голым полем заіскрыцца,
Ударыць нечакана халады,—
Пульсуе заінелая крыніца
Струменямі празрыстае вады.
Ні ў спёку, ні ў мароз, пі ў навальніцу
Не вычарпаць бяздоннай глыбіні,
А ёй самой ніколі не спыніцца:
Яна ж пароду нашаму здрадні.
1955

**БЕЛЫЯ ЛІПЫ**

Сонечны горад юнацтва майго
Кветкамі скверы усыпаў,
І па праспектах і плошчах яго —
Белыя, белыя ліпы.
Белыя ліпы здалёку прыйшлі,

Іх напаілі жывыя крыніцы
Сілай і водарам шчодрай зямлі,
Вецце раскінулі і расцвілі
Белыя ліпы сталіцы.
Тут прызначае юнацтва сустрэчы,
Мараць пра заўтрашні дзень юнакі,
Ліпы усім закаханым на плечы
Сыплюць і сыплюць з пялёсткаў вянкі.
Моцна сплятуцца гарачыя рукі
Юных і самых шчаслівых людзей,
Так, каб ніколі не ведаць разлукі,
Так, каб любіць, як не любяць нідзе,
Так, каб сагрэтыя дружбай далоні
Нават гады астудзіць не змаглі б,
Так, каб і ў старасці белыя скроні
Толькі нагадвалі з амеці ліп.
1955

**ПЛЫНЬ**

Вецер насустрач, насустрач імклівая плынь.
Хлопец у чоўне, смуглявы і рослы,
Прагна глядзіць і плыве ўдалячынь —
Толькі рыпяць і згінаюцца вёслы.
Сонца насустрач і сіні прастор,
Неба і хмары — ў вясёлкавай браме.
Вёслы, як дужыя крылы, прасцёр —
Хлопец спяшаецца ўслед за сябрамі.
У далячынь, што расчынена насцеж,
Голасам сэрца і буйнай крыві
Кліча цябе неспакойнае шчасце,
Толькі хутчэй да яго даплыві.
Шчасце у кожнай тваёй перамозе,
Шчасце — адолець і вецер і град,
Шчасце — нідзе не спыняцца ў дарозе,
Спынішся — плынню адгоніць назад.
1955

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ**

Я ўсё спазнаў: і радасці, і гора,
Я з сотні рэк пакаштаваў вады,
І ноч у ноч мне сніўся светлы горад
І не даваў спакою ўсе гады.
Ён клікаў, уставаў цудоўнай явай,
Далёкі, але блізкі мне такі.
На ўсіх шляхах, за кожнай пераправай
Яго успаміналі землякі.
Я у сустрэчу верыў і не верыў,
І вось іду між пасталелых дрэў
І нечакана у асеннім скверы
Адзінага знаёмага сустрэў.
І прыгадаў пра першае спатканне,
Калі яго чароўная рука
Вяла мяне, малога пастушка,
Па здзірванелым дзедаўскім кургане

І прывяла тады ў дзівосны свет.
А праз гады па бальшаках Палесся
З кійком ішоў няўрымслівы паэт
Да першых камунараў на Арэсе.
Вось ён стаіць, пад ім звісае вецце,
Шуміць праспект, гамоніць людны сквер,
І ён, здаецца, зараз усміхнецца
І прачытае свой натхнёны верш.
Над ім яшчэ і лісце не апала,
Асмужыў бронзу сонечны прамень.
А ён маўчыць. Задумаўся Купала.
Я шапку зняў, сказаўшы: «Добры дзень!»

**ЖОНКА**

Калісьці самаю прыгожай
З усіх дзяўчат яна была,
І ты за ёю асцярожна
Хадзіў па вуліцах сяла.
Здавалася, у цэлым свеце
Такіх яшчэ не сустракаў,
І у пралескавым букеце
Ты ёй запіскі пасылаў.
Чакаў яе і спадзяваўся,
Здалёк у вокны паглядаў,
На роўным месцы спатыкаўся
І песні пра яе складаў.
Спяваў аб харастве дзявочым,
А ў змроку восеньскіх начэй
Табе яе свяцілі вочы,
Што прыгажэй за ўсіх вачэй.
Яна цябе назвала любым,
І у апошні мірны год
Яе ты песціў і галубіў
І піў гарачых вуснаў мёд.
Яна ў паход цябе збірала,
Як толькі грымнула вайна,
Яна касіла, жыта жала,
Лісты табе на фронт пісала,
Табой жыла, цябе чакала,
І дачакалася яна.
Прыйшоў дамоў.
У кожнай хаце
Ты быў для ўсіх жаданы госць —
Знайшоў сяброў, ды толькі страціў
Сваю былую маладосць.
І песень не складаеш болей,
Знаходзіш сотні іншых спраў
І топчаш тыя кветкі ў полі,
Што толькі для яе збіраў.
І у асенні змрочны вечар
Яна дамоў ідзе адна,
Бо ты забыў пра ўсе сустрэчы,
Бо стала жонкаю яна.
1955-1956

## АЙЧЫНА

Твайго цяпла, твайго святла, і хлеба,
І шчырасці на кожнага стае.
Шчаслівы я, што пад высокім небам
Пралеглі сцежкі першыя мае,
Што ты люляла і складала казкі,
Што за руку ў дарогу павяла,
Што дабрату, і клопаты, і ласку,
І шчодрасць, і суровасць нам дала.
Ты гадавала, ты давала сілу,
Ад гора берагла сваіх сыноў,
А ў дні вайны над кожнаю
Схілялася, але вяла ізноў
Праз гора, праз пажары і пакуты
Вяла ў суровы, справядлівы бой
І як нам ні даводзілася крута,
Былі мы неразлучныя з табой,
А ты была ласкавай і суровай,
І клопаты у нас былі адны,
Калі ты часам і нахмурыш бровы,
На маці не пакрыўдзяцца сыны.
Табе заўсёды ў будні і у святы,
У дні трывог і ў шчасныя гады
Усё аддаём, чым кожны з нас багаты,
Каб харашэла і дужэла ты.
1956

## ПЕСНЯ БУДЗЕ ЖЫЦЬ

*Памяці Якуба Коласа*

Сягоння журацца бары на Беларусі,
Прыбіты сцежкі кроплямі расы,
Замоўкла песня на асеннім лузе,
І падаюць на пожню каласы.
Над Нёманам схіліліся рабіны,
Маўчаць над Сожам пушчы і сады.
Мой родны кут, якога сына,
Якую песню страціў ты!
Маўчаць палі у кроплях буйных рос,
Бары маўчаць, а сэрца плача ўголас.
Мой родны кут, упаў буйнейшы колас,
Што на тваёй зямлі узрос.
Ён не паспеў аб нашым слаўным часе
Ўсяго сказаць, усіх паэм злажыць.
Пайшоў пясняр, а песня засталася,
Памёр паэт, а песня будзе жыць.
1956

## МАЛЯР

Цвітуць да замаразкаў астры.
На ціхі сонечны бульвар
У крэйдзе, вапне, алебастры
Выходзіць з вёдрамі маляр.
За ім па вуліцах пасёлка

Ляціць празрысты лёгкі пух,
Усімі фарбамі вясёлкі
Яго распісаны фартух.
Сярод асенняй пазалоты
Таполяў, клёнаў і дубоў
Падняўся дом яго работы,
Адметны ад усіх дамоў.
Яшчэ пі штораў, ні фіранкі
Няма ні ўнізе, ні ўгары,
Бо, мабыць, толькі заўтра зранку
Пачнуць з'язджацца жыхары.
Маляр нарваў бярэма кветак
I ўсе паставіў за акном,
Каб увайшло адразу лета
У гэты неабжыты дом.

**НОЧ НАД МІНСКАМ**

Ясныя, зорныя ночы над Мінскам.
Што ж ты блукаеш адзін уначы?
Чуеш, спявае каханая блізка,
Пэўна, насустрач табе ідучы.
Сад закіпае блакітнаю пенай,
Месяц плыве у вясновай вадзе.
I па завулку, закончыўшы змену,
Тая, што сэрца трывожыць, ідзе.
Лёгкі туман праплывае над Мінскам,
Хутка асыплюць пялёсткі сады.
Ты не хвалюйся — каханая блізка:
Песню пачуеш і знойдзеш тады.
1956

* * *

Прощай, свободная стихия!

*А. Пушкін*

Я Чорнае мора зялёным назваў бы,
Як толькі зацiхнуць і буры і шторм.
Сюды мяне змалку і клікаў і вабіў
Бязмежны, жывы, неспакойны прастор.
Крылатыя чайкі мяне прывіталі,
Спыніла на беразе мора мяне,
А хвалі бягуць, захлынаюцца хвалі
I б'юцца, як біліся, пэўна, даўней,
Калі развітацца з марскою стыхіяй
Прыходзіў паэт да крутых берагоў...
Хвалюецца мора, і стогне, і вые,
Нібыта шукае і кліча яго.
1956

**САМШЫТ**

На галышах, на стромкай кручы,
Расце самшыт з каравым суччам.
Зялёны мох звісае з веццяў,
Бо сонца вельмі рэдка свеціць

І зноў хаваецца за горы.
А ён у векавой пакоры
Расце у засені халоднай
І летам і зімой галоднай.
Граніт і голае каменне
Свідруе тонкае карэнне,
Каб дацягнуцца да крыніцы
І свежае вады напіцца.
Каб перад бураю не гнуцца,
Самшыту трэба дацягнуцца
Да самай стромкае вяршыні,
Дзе столькі сонца, столькі сіні.
Ён на скале расце вякамі,
І цвёрды сам, як горны камень.

**АРЛЫ**

Сышліся горы ушчыльную
Над прорвай гулкае імглы,
І, як дазорныя, пільнуюць
Спакой світальныя арлы —
Плывуць у вышыні кругамі,—
Над імі — сонечны прастор,
Унізе чыстымі снягамі
Гараць хрыбты спрадвечных гор,
А хмары наплывуць над імі,
Віхор сагне вярхі чынар,—
Здаецца, крыламі тугімі
Маланку выкрасаюць з хмар.
Арлы з маланкай, як блізняты,
Пад чорнай хмарай зіхацяць.
І неўзабаве арляняты
Услед за імі паляцяць.
1956

* * *

*Валянціне*

Я цябе прыгадаў
Басаногаю, шустраю, тонкай.
Пад нагамі рассыпала
Раніца зерні расы,
І тады, у далёкія тыя часы,
Я цябе уяўляў
Залатою сасонкай,
І здавалася будзеш такою заўжды
Маладою, іскрыстаю, крышачку колкай.
Ды хіба ж загадаеш,
Каб вечна квітнелі сады
І ніколі на небе не гаслі вясёлкі?
Ды хіба ж загадаеш каму,
Каб гады
Над табою і мною улады не мелі,
Каб спынілася плынь веснавое вады,
Каб да старасці скроні у нас не сівелі?
Пасівелі, а сэрца не хоча старэць —
Мабыць, вызнала мала і зроблена мала.

Мы гарэлі ў агні, але нам не згарэць,
Навальніца прайшла, але нас не зламала.
Ты заўсёды была клапатліваю жонкай,
Ты суровай была міласэрнай сястрой.
Я цябе і цяпер уяўляю сасонкай,
Што яшчэ палымнее вячэрняй зарой.
1956

* * *

Не пойдзем сёння ні ў кіно, ні ў госці —
Такая ноч, такая ў небе сінь!
І уздыхаць, каханая, пакінь,
Што больш ужо не вернеш маладосці.
А лепш паходзім па старым бульвары,
Дзе да вясны не падмятаюць снег,
Дзе толькі ходзяць закаханых пары,
Нібыта ў казцы ці ў дзівосным сне.
У іх марозам пабяліла скроні,
А нашы — ўжо завеялі гады.
Дык пойдзем, любая, няхай і сёння
Сябе адчуе кожны маладым.
Не будзем больш з табою уздыхаць.
Зірні, як ноч дарогі снегам мосціць,
І будзем так да старасці кахаць,
Як некалі кахалі ў маладосці.
1956

**ДАКОР САБЕ**

Жыццё даецца толькі раз,
А я, бывае, марна трачу
І сілы лепшыя, і час
І не лічу за недастачу
Усё, што некалі згубіў,
Усё, што мог, а не зрабіў
І што, магчыма, заўтра страчу.
Бо, што прайшло, таго не вернеш,
Не скажаш часу: «Пачакай».
Тым часам нехта сее зерне,
А нехта на пярэдні край
Ідзе няходжанаю сцежкай,
У штармавую ноч не спіць,
На новай трасе ставіць вешкі,
Каб Каракумы напаіць.
І не адкладвае нічога,
Нідзе нічога не міне,
Нялёгкай зморанаы дарогай
Касцёр распаліць і засне.
Няхай блішчаць ад поту твары,
Хай плечы муляе рукзак —
Шчаслівы той, хто змалку марыў,
Што жыць патрэбна толькі так,
Каб быць заўсёды у дарозе,
Прайсці, дзе следу не было,
Каб у надзённай нашай прозе
Здабыць паэзіі святло.

Каб, узышоўшы на вышыні,
Руку таварышу падаць
І побач стаць на той вяршыні,
Адкуль наступны дзень відаць.
Каб зазірнуць у тыя далі,
Куды нам суджана дайсці,
І, не спыняючыся, далей
Дарогу пэўную знайсці,
Спазнаць цану любой хвіліны
І кожным крокам даражыць:
Шукаць, знаходзіць,
быць няспынным,
По проста існаваць,
а жыць.

## НА ТАЁЖНАЙ ДАРОЗЕ

Вецер вые ў заломах рудое кугі,
Завіруха шляхі замятае дазвання.
Па дарогах блакітнай сібірскай тайгі
Ледзьве чутна рыпяць адзінокія сапі.
Ад сяла да сяла каля сутак язды —
Ні жывое душы, толькі вецер калматы
Замятае пры самай дарозе сляды,
Што прабіў праз сумёт адзінокі сахаты.
Пры дарозе гудуць ледзяныя слупы,
Вецер тонкую пражу снуе на сумёце.
Завіруха лютуе. Ідзеш, як сляпы,
І здаецца, на конях прымерзлі аброці.
Завіруха лютуе, мяце і мяце —
Закавала асіннік у белыя латы.
Але ў змроку на доўгай трыццатай вярсце
Мільгануў аганёк заінелае хаты.
Над высокім сумётам пакатай страхі
Нахілілася голае шэрае вецце,
І у мораку гулкай бязлюднай тайгі
Два акенцы да самае раніцы свецяць.
Увайшоў, пагукаў і — нікога нідзе,
На камінку агеньчык яшчэ дагарае;
Каля печы — карэц у крынічнай вадзе,
Соль у шклянцы і свежага хлеба акраец
На шырокім і чыстым піхтовым стале,
На паліцы газеты за першае снежня.
Нехта печ напаліў і паехаў далей,
І сляды прападаюць у замеці снежнай.
Нехта хлеба пакінуў і трэсак насек,
Запаліў каганец, каб у змроку не збіўся
Незнаёмы, ды блізкі яму чалавек,
Што за ноч перамёрз і дарэшты змарыўся.
Вось і я, абагрэўшыся, дровы прынёс,
Хлеб паклаў на стале, пастаяў ля парога.
Завіруха сціхае, мякчэе мароз,
І далёкая болей не страшыць дарога.

**МАЁ ПАКАЛЕННЕ**

І я ў дзяцінстве не ведаў калыскі,
Не ведаў бацькоўскае цёплае хаты,
Замест калыханкі, схіліўшыся нізка,
Спяваў у цяплушцы салдат барадаты:
«Віхуры варожыя веюць над намі...»
І ў нашай цяплушцы свісталі вятры,
Смяяліся хлопцы: «Пакончым з папамі,
Як толькі усе даядзім сухары».
І мне аддавалі шурпаты і горкі
Сухар са свайго франтавога пайка,
А самі круцілі цыгаркі з махоркі
І песню зацягвалі пра Ермака.
Пасля, пасадзіўшы на мулкім калене,
Чырвонагвардзеец пытаўся не раз:
«Ці ведаеш, браце, што думае Ленін
І што еп гаворыць пра нас?»
І я, ашчаперыўшы шыю худую,
Услед паўтараю за ім:
«Мы наш, мы новы свет збудуем,
Хто быў нічым, той стане ўсім!»
Салдацкія вочы адразу цяплелі
І бачылі заўтрашні дзень прад сабой.
Матросы балтыйскія весела пелі,
Што гэта апошні рашаючы бой.
Вось так у цяплушках, у дымных бараках
І я і мае аднагодкі раслі,
Не ведалі мы, што ужо аб рабфаках
Ільіч клапаціўся ў Крамлі,
Што ён ужо бачыў агні Днепрагэса,
Адзначыў на карце Кузбас
І марыў, што ў нетрах сібірскага лесу,
За горадам горад устане для нас.
І разам з бацькамі маё пакаленне
Валіла тайгу і драбіла каменне,
Закладвала домны, капала каналы —
Лажылася позна, а рана ўставала,
Дрыжала ў палатках у сцюжы і ў буры,
Каб горад узняўся хутчэй на Амуры,
Стаяла на варце дзяржаўнай граніцы
Т помніла: трэба вучыцца, вучыцца.
Трымала вінтоўку, кайло і лапату
І слухала лекцыі па сапрамату,
Ішло вечарамі ў партыйную школу
І ворагаў біла каля Халхін-Гола.
Маё пакаленне, мае аднагодкі,
Пачуўшы трывогу, надзелі пілоткі
І ў цеснай зямлянцы кляліся ўрачыста:
— Лічыце
мяне
камуністам!
І кожны быў братам,
І кожны быў другам
Ля сцен Ленінграда,
У пекле над Бугам.
Куды б ні вяла нас крутая дарога,
За намі заўсёды ідзе перамога —

У льды Антарктыды, у неба прасторы,
Дзе ўсходзяць яшчэ не адкрытыя зоры.

**МЛЕЧНЫ ШЛЯХ**

У зорным небе — Млечны Шлях.
Па ім ляцяць у вырай гусі,
І мне здаецца, кожны птах
Крычыць: «Вясной дамоў вярнуся!»

Ляцяць у вырай жураўлі,
Ляцяць буслы у зорным небе,
А вось да роднае зямлі
І Млечны Шлях ім не патрэбен.
1957

**НАРОДНАЯ НАСТАЎНІЦА**

Дакошаны лугі, адшапацела жыта,
На сцежкі падаюць пажоўклыя лісты,
Пра што ты думаеш і марыш,
раскажы ты,
Куды ідзеш, каго шукаеш ты?
Ці зноў сяброў сваіх успамінаеш
І думаеш, што тут зусім адна?
Чаму начамі роснымі блукаеш,
Чаму не спіш да самага відна?
Усе заснуць,
а ты святла не гасіш,
У шыбу стукае асенні матылёк,
Ты доўга думаеш,
якім у першым класе
Твой будзе першы у жыцці урок,
Якім святлом, якім гарачым словам
Дарогу к сэрцу кожнаму знайсці,
Каб гэтым хлапчукам белагаловым
Патрэбнай быць у школе і ў жыцці,
Каб кожны стаў сумленны і шчаслівы,
Каб з імі ты шчаслівая была...
За вокнамі шумяць паціху слівы,
І месяц стаў над стрэхамі сяла.
А раніцаю ясна сонца свеціць,
Сланечнікі даспелі па градзе,
І ціха шэпчуць за парканам дзеці:
«Вунь новая настаўніца ідзе».
Настаўніца! А ці даўно самую
Вяла у школу мама за руку?
Яна і сёння па табе сумуе
У ціхім прыдняпроўскім гарадку,
Яна штодня лістоў тваіх чакае
І журыцца:
«Ну як яна адна?»
Але цябе, як маці, сустракае
Ласкавая лясная старана —
Шумлівыя бары, рачныя кручы
І белыя лілеі на вадзе,

І хлапчукі бягуць табе насустрач
І соты раз гавораць:
«Добры дзень!»
Ты узышла па ганак новай школы,
Ты гэтым дзецям блізкая, свая,
І ўжо сябе не лічыш навасёлам,
Бо тут твой дом і ўсе — твая сям'я.
Тух будуць слёзы, тут і шчасце будзе
І — першыя маршчынкі на ілбе.
А ўжо і сёння называюць людзі
Народнаю настаўніцай цябе.
1957

**ПЕРШАЯ ПЕСНЯ**

*Адаму Русаку*

Я не апошні і не першы
Складаў крадком калісьці вершы.
Дазнаўся нехта, стаў строіць кпіны,
Я чырванеў, казаў: «Пакіну»,
Казаў: «Не буду». А праз гадзіну,
Узяўшы кошык, блукаў па лесе,
Шукаў арэхі, шукаў маліну,
Але знаходзіў радкі для песні.
Знайшоўшы слова, баяўся страціць,
Нёс асцярожна, нібы расінку,
Зірнуўшы ў кошык, казала маці:
«Ты, мабыць, збіўся з дарогі, сынку.
Вунь колькі ягад прыносяць людзі,
З цябе ж, як бачу, дабра не будзе.
Ну, хоць бы жменьку, хоць бы для смеху
Прынёс ці ягад, ці тых арэхаў».

Я кожным ранкам хадзіў далёка
Па росных сцежках у чарналессе —
Шукаў арэхаў, спяваў, галёкаў,
І раптам выйшла такая песня,
Што сам здзівіўся, пачуўшы рэха
Канца той песні. А дзесь дзяўчаты,
Што абіралі з кустоў арэхі,
Ужо спявалі яе пачатак.
Я чуў, як песня ішла паволі
Праз нашу вёску, паўз нашу хату,
Па пералесках, па жытнім: полі
Яе панеслі у свет дзяўчаты.
Ляцелі гусі ў далёкі вырай,
Вятры арэхі даўно атрэслі,
А вечарамі спявалі шчыра
У кожнай хаце ўсё тую ж песню.
Яна хадзіла ў лугах зарэчных,
Па вечарынках, па сенажацях,
Яе у доўгі зімовы вечар
Спявала разам з усімі маці.
1957

**НА ВОЛЗЕ**

На Волзе непагадзь.
Ляцяць на бераг пыркі,
Над Волгай не змаўкае ветру свіст.
Завулкамі купецкага Сімбірска
Ідзе па стромкі бераг гімназіст.

Яму ад нараджэння дарагая
Вялікая расійская рака.
Ён бачыць, як у змроку дагарае
На тым баку агеньчык рыбака,

Ён бачыць, як у непагадзь і ў спёку
На узбярэжжах бурлакі снуюць,
І чуе, як над Волгаю шырокай
Няшчасныя «Дубінушку» пяюць.

Ён бачыць вочы гнеўныя і шыі
У пісягах ад мулкага ярма.
Яму здаецца, што уся Расія
Сышлася тут,
і ёй канца няма;

Няма канца і краю цяжкім стратам
І песням пра пакуты і бяду,
Няма канца і тым, што брат за братам
У турмы і на катаргу брыдуць.

Ідуць гасцінцам, скутыя у пары,
Але з высока ўзнятай галавой…
Гарцуюць захмялелыя жандары,
Прыспешвае прыкладамі канвой.

Глядзіць хлапчук па горкі шлях пракляты,
І бліскаюць агеньчыкі ў вачах.
Ён паўтарае сам сабе, як клятву:
«Мы адшукаем самы пэўны шлях».

Над Волгаю заняўся золак сіні,
Над Волгай непагадзь,
імжа і ветру свіст…
Глядзіць і бачыць заўтрае Расіі
Пакуль што невядомы гімназіст.
1957

**МАМА**

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «мама»
Таму часцей не называў ніяк.

А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А на жніве зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай наспіць сынок»

І зноў адна збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як колісь, мамаю назваў».

...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.
1957

**ВЕЧНЫ САЛДАТ**

Тут цішыня.
Пад хвояю пахілай
Стаіць без каскі
Бронзавы салдат,
Як вартавы,
над брацкаю магілай.
Яго сякуць дажджы
І хвошча град.
Зімою снег завейвае пагоны,
А ён глядзіць на простыя імёны,
Нібы вядзе паверку,
Ці ў нарад
Гатоў паслаць таварышаў па роце,
Ці затрубіць пад'ём, як прыйдзе час.
Ён тут стаіць не па сваёй ахвоце.
Яго ніхто не звольніць у запас.
Яго сябры, як ён,
Навек салдаты,
На іх магілах
прозвішчы і даты.
Апошнюю дату паставіла куля...
А недзе пад Каневам плача матуля,
Суседскага сына убачыць здалёку,
А здасца, што гэта яе яснавокі,
Што прыйдзе з вячорак, пастукае ў раму
І скажа паціху: «Прачніцеся, мама».
Цыгарку закурыць, адмовіцца есці

І будзе да рання ўздыхаць аб нявесце…
Хоць маці не верыць, хоць маці чакае,
Спрадвечная матчына доля такая:
Сыноў гадаваць, выпраўляць у дарогу…
Пачуць, што нявестка ідзе за другога,
Насіць пачастункі маленькаму ўнучку,
Вадзіць, як ягонага бацьку за ручку
Калісьці вадзіла у жытняе поле
І зычыла самую шчасную долю,
Паказваць суседкам партрэт на сцяне
Таго, што застаўся на клятай вайне,
Што болей не прыйдзе у матчыну хату,
Чый вырасце сын, не прамовіўшы «тата».
Растуць непрыкметна салдацкія дзеці.
Ім хопіць работы на нашай планеце,
Ім хопіць зямлі і блакітнага неба,
Крынічнай вады і духмянага хлеба.
Для шчасця растуць і мужнеюць яны,
Каб болей ніколі не ведаць вайны,
Каб болей не плакалі маці і ўдовы,
Каб іх не сівелі дачасна галовы,
Каб мір, што крывёю бацькі здабылі,
Ніхто не парушыў на нашай зямлі,
Каб слухалі дзеці, як песню, як казку,
Пра подзвіг салдата, што, скінуўшы каску,
Нязменным стаіць вартавым на пагосце
У вечнай красе баявой маладосці.
1957

**НЕРЫС**

Лісты ападаюць, і верас
Шуміць і шуміць каля ног,
Плыве задуменная Нерыс
І новых шукае дарог.

Падмыла карэнні і гліну,
Плюскоча ў пажоўклай траве,
Над рэчкаю ключ жураўліны,
Здаецца, па хвалях плыве.

Да стромкае кручы дзяўчынка
З вяслом па сцяжынцы ідзе,
Чырвоны каснік і касынка
Гараць у празрыстай вадзе.

Сукенка, як ветразь, бялее,
Лісты ападаюць наўкол…
Дзяўчынка плыве — і лілеі
Збірае сабе у прыпол.

Звязаўшы лілеі і верас
Сваім касніком у букет,
Вялікай настаўніцы Нерыс
Аздобіць маленькі партрэт.

Дзяўчынка уголас не ўмее
Выказваць пачуцці свае,

Ды ўжо і цяпер Саламеяй
Сябры называюць яе.

## РАВЕСНІЦА

Ужо не лета і яшчэ не восень,
А павуцінне ў кропельках расы
Плыве, трымціць і туга заплялося
Табе у залатыя валасы.

Яшчэ цвітуць і дзяцельнік, і мята,
А плечы зводзіць першым халадком.
Ці помніш ты, як покалі ў трыццатым
Хадзілі мы з табою у райком?

З далёкай камсамольскае ячэйкі
Паслалі нас даведацца сябры,
Калі і як і на якія рэйкі
Перавядуць сялянскія двары.

А нашы сходы, першыя лікбезы,
Пытанняў і адказаў вечары,
Калі на нас дзесяткамі абрэзаў
Кулацкія глядзелі хутары.

І па сяле хадзілі пагалоскі,
Што мы нібыта дзеці сатаны,
Тады яшчэ не вельмі дружна вёскі
Ішлі на свята першай баразны.

Мы першыя ўставалі да світання,
Аралі менш кулакам назло,
Збіралі сходы, толькі пра каханне
Пагаварыць нам часу не было...

Ты ганарышся сталымі сынамі,
Ты замуж аддаеш сваіх дачок,
Але і сёння побач з ардэнамі
Ляжыць маленькі кімаўскі значок.

## БАБІНА ЛЕТА

Ты часта казала, што песенька спета,—
Вясна мінавала, а бабіна лета
Цябе замятае сухімі лістамі,
Што болей ніхто не трывожыць лістамі,
Ніхто не чакае цябе на спатканне,
Ніхто, як калісьці, не спыніць, не гляне.
А колісь глядзелі, а колісь чакалі,
Спачатку ля школы, пасля на вакзале.
Ты ночы не спала, лічыла мінуты,
Калі ён прыедзе дамоў з інстытута.
Да рання сядзелі у скверы, ля клуба,
І доўга смылелі гарачыя губы.
Ты шчасцю свайму пазірала у вочы,
Ты чула, як соладка сэрца стукоча,

Вы разам любілі пад ліўнямі мокнуць,
Хадзіць, аж пакуль салаўі не замоўкнуць,
Глядзець, як знікае каханы ў тумане,
І думаць: «А колькі гадзін да спаткання?»
Вы разам чыталі, купаліся, пелі,
І ўсе гаварылі, што хутка вяселле,
А ты жартавала: «Ніколі не позна»
І бегла дахаты сцяжынкаю роснай.
Цяпер ты шкадуеш, што ў майскія ночы
Залішне сумленна заплюшчвала вочы,
Што сцерлася ў памяці нейкая рыса,
Што болей нікому не скажаш: «Вярніся».
Другога не стрэнеш, другіх не шукаеш,
Калі аднаго назаўжды пакахаеш.
Табе нічыёй не патрэбна спагады,
Што бабіна лота, што час лістападу,
Што косы завеяла першая замець,
Што нумар застаўся на целе па намяць.
А памяць, яна не старэе ніколі:
Дарога ў Майданак, і голае голле,
І сівер насустрач, і тысячы босых,
Скаваныя рукі, абрэзаны косы.
Курродым, як хмара, вісіць пад парканам:
«Як хутка мяне разлучылі з каханым,
Нявестай была, а зрабілі ўдавою...»
Ды свішча бізун пад тваёй галавою.
Цябе бессаромна салдаты раздзелі —
Дакладна лічылі радзімкі на целе,
У вочы глядзелі і з нейкаю мэтай
Запісвалі доўга імя і прыкметы.
Ты тройчы ўцякала ад смерці і згубы.
Свістала завея ў жалобныя трубы,
Як здані, стаялі касцёлы, фальваркі,
І рвалі дзявочае цела аўчаркі.
Цябе на світанні вялі ў крэматорый,
Апошняя хмарка плыла пад табою...
Ды раптам аднекуль чырвоныя зоры
Ляцелі насустрач, як выбухі бою.
Чырвоныя зоры, знаёмыя твары,
Ласкавыя вочы глядзелі з-пад каскі,
Засмяглыя губы шапталі: «Таварыш»,
І падалі слёзы ад братняе ласкі.
Чамусьці сягоння ты ўспомніла гэта —
У час лістападу, у бабіна лета.
Не ведаеш ты, ты паверыць не хочаш,
Што вернуцца зноў салаўіныя ночы,
Што познім каханнем зардзеюцца шчокі,
Калі ты пачуеш знаёмыя крокі.
Каханне ніколі нідзе не знікае,
Каханы каханую скрозь адшукае.
Ты чуеш,— вясной і асенняю ноччу
Ляцяць самалёты і поезд грукоча,
У дзверы твае нечакана, нясмела
Твой любы пастукае, ледзь пасівелы.
Ты скажаш, што песня яшчэ не прапета,
Што сёння вясна, а не бабіна лета.
1958

## ЧАКАННЕ

Над Іртышом гудзе завея,
Шляхі і сцежкі замяла,
І пасмы белыя, як змеі,
Паўзуць па вуліцы сяла.

Растуць калматыя сумёты,
Прысады гнуцца да зямлі,
За тыдзень нават самалёты
Ніяк прабіцца не змаглі.

Мароз усё яшчэ лютуе,
Да клямкі прыстые рука,
А каляндар нібы жартуе,
Што ўжо канец сакавіка.

А недзе ж вербы ў завушніцах
Стаяць па плечы у вадзе,
А тут вясна мне толькі сніцца,
Але падоўгу не ідзе.

Прыходзіць пошта раз па тыдзень,
Ад лютага маўчыш і ты.
Калі вясна не хутка прыйдзе,
Хоць бы прыйшлі твае лісты.
1958

## ПРЫЗНАННЕ

Ты ходзіш мяне у дарогу праводзіць,
На месяц, на тыдзень, на некалькі дзён.
Стаіш і глядзіш, як цягнік адыходзіць
І ў змроку знікае апошні вагон.

А потым па плошчах і вуліцах гулкіх
Ідзеш, не сустрэўшы нікога нідзе,
І толькі чуваць, як у вузкіх завулках,
Нібыта у трубах, завея гудзе,

Грыміць у дарожныя гулкія знакі
І голыя ліпы хістае і гне,
Ты ўпоўнач мінаеш двары і баракі
І з гэтай хвіліны чакаеш мяне.

Пытаеш, чаму мне з табой не сядзіцца,
Чаму, завітаўшы на некалькі дзён,
Я зноў выязджаю з утульнай сталіцы
У самы далёкі палескі раён.

Чаму я хаджу пехатой у завею,
Чаму не такі, як мужы у людзей.
Ты думаеш — я ад вандровак сівею,
А я адчуваю сябе маладзей.

Я чую, як пахне смаловае вецце,
Як стукае дзяцел па звонкай сасне,

Я чую начамі, як студзеньскі вецер
Скуголіць і снегам шуміць па сцяне.

Я невад на бераг цягну з рыбакамі,
Начую на Куршскай пясчанай касе,—
Хачу да змяркання сваімі рукамі
Адчуць асалоду і цяжкасці ўсе:

У полі на золку сустрэць агранома,
Заснуць пад дубамі на мокрай траве,
Плысці пад дажджом на дняпроўскім пароме,
Пачуць, як дзяўчаты пяюць на жніве,

І думаць з усімі аб сонцы і хлебе,
І толькі адзіную песню зложыць.
Калі ты камусьці хоць трошкі патрэбен,
Дык хочацца шчодра і радасна жыць.

Я новых вандровак маршрут і кірунак
На карце, прыехаўшы, зноў правяду,
Вясёлку табе прывязу ў падарунак
І ў светлыя косы твае запляту.
1958

**НАЧЛЕГ**

Ці многа патрэбна старому каню?
Наскубся і спутаны стаў ля агню.
Касцёр дагарае, і прысак ачах,
Мільгае агеньчык у цьмяных вачах,
На доўгую грыву раса асядае,
І нават чуваць, як трава маладая
З зямлі прабіваецца, цёплай і волкай,
І пахне сасоннік празрыстаю смолкай.
Курыцца туман над палянай лясною,
І дрэмлецца добра у лесе вясною.
На цёплым кажусе, на першым начлезе
Мне сніцца — лясун на алешыну лезе,
Трымае ў руках сукаватую палку
І з возера кліча дадому русалку.
У лёгкім тумане, пад месяцам сінім,
Яна азываецца крыкам гусіным,
На бераг выходзіць, расчэсвае косы,
А з іх, нібы ягады, падаюць росы.
Скаціліся кроплі, як дзве журавіны,
На белыя грудзі суседскай дзяўчыны,
І голас знаёмы я чую спрасоння,
Што піць паскакалі да возера коні.
Я вочы расплюшчыў — пад дзікай ігрушай
Даспелыя косы начлежніца сушыць.
— Каму ты шаптаў і ўсміхаўся спрасоння?
Пытае яна і глядзіць з-пад далоні.
1958

**ЗАЎСЁДЫ Ў ДАРОЗЕ**

Да нас па воўну, па пяньку і сала
Калісьці прыязджалі з-за мяжы,
Дубовыя вывозілі кражы,
Калі ж было і гэтага ім мала,
Захопнікаў Еўропа пасылала,
А тут па іх паставілі крыжы.

Купцы дружылі з рускімі панамі,
Ад гэтай дружбы плакалі бабры,
Хіліліся і падалі бары,
Стаеннікаў за мора табунамі
Вывозілі ад нас і дзікунамі
Лічылі рускіх з даўняе пары.

Расія пахла дымам, і аўчынай,
І молатаю горкай лебядой,
А славілася горам і бядой,
Хоць і глядзела яснымі вачыма,
Як тая беспасажніца — дзяўчына,
Што ходзіць незалежнаю хадой.

Хадзіла па жалезе і па медзі,
Сама ж стаўляла хаты без цвіка,
У дзверы ноччу грукалі мядзведзі,
А сын архангельскага рыбака
Ў Маскву ішоў і прымасціўся недзе
Вучыцца ў манастырскага дзяка.

Не правіць службу, не пісаць іконы,
І не псалмы хаўтурныя спяваць,
І не грахі злачынцам даравацц,
Не біць перад ігуменам паклоны.—
Ішоў пісаць трактаты і законы,
Якіх ніколі ўжо не скасаваць.

Свістала завіруха на дарогах,
Заходзіліся ў стэпах ямшчыкі,
І прыстывалі слёзы да шчакі
У вязня, што з Вілюйскага астрога
Глядзеў па Русь і бачыў перамогу
Нашчадкаў у наступныя вякі.

Рос у Сімбірску хлопчык яснавокі,
Хадзіў на Волгу, бегаў па траве,
Але ніхто не знаў, што ўжо жыве
Вялікі геній, што ўвесь свет шырокі
Яго пачуе ўпэўненыя крокі,
Правадыром і другам назаве.

А сёння мы, што елі хлеб з мякіны,
Парабчукі з-пад Глуска і Кармы,
Што ў школу бегалі ад сілы тры зімы,
Будуем ледаколы і машыны,
Штурмуем недасяжныя вышыні,
Бо ленінцы, бо камуністы мы,

Бо нашы сэрцы, розум, нашы рукі

Заўсёды прагнуць працы і навукі.
Усё ў нас ёсць, хіба што часу мала
Адразу ўсе адолець перавалы,
Усё абняць уласнымі рукамі,
Дайсці да зор, што над зямлёй вякамі
Плылі ў тумане змрочнага сусвету.

Але мы дойдзем да любой планеты.
Усё мы зробім: мы заўжды ў дарозе,
Стаім у камунізма на парозе,
Хоць за плячыма і нямнога год.
Усіх нас сонца ленінскае грэе,
Таму душой ніколі не старэе
Народжаны Кастрычнікам народ,
Таму да нас сягоння з-за граніцы
Сябры прыходзяць мудрасці вучыцца.

**БЕЛАРУСЬ**

Беларусь, як шырокая жніўная песня,
Беларусь, як паводка празрыстых крыніц,
Беларусь, Беларусь —
Маладосці прадвесне,
Салаўёў пераклічка і гул навальніц.
Над калыскай тваёй бедавала жалейка,
На дарогах тваіх галасілі жанкі,
Прадавалі тваю прыгажосць за капейку
Радзівілы, Сапегі, паны і панкі.
Гэта чорная плойма цябе пашматала
На маёнткі, фальваркі, здавала ў палон.
Ты да часу сівела, ты ўсё памятала,
Не забыла нічога да сённяшніх дзён.
Ты жыла ў прыгажосці і ў песні дзявочай,
У журбе мацярынскай і ў звоне касы,
Ты ўзяла у азёраў блакітныя вочы,
У даспелага жыта ўзяла валасы.
Ты была плытагонам, сяўцом і аратым,
Ты зубіла сярпы і сталіла кайло.
Ты вякамі чакала збавення, як свята,
Але свята ніколі ў цябе не было.
Ты вастрыла рагаціны, вілы, сякеры —
Сын твой вырас, цябе за сабою павёў,
Але зноў зарыпелі турэмныя дзверы,
І на шыі пятлю зашмаргнуў Мураўёў.
Але хто там ідзе? Падзівіцеся, людцы,
Хто нам шчасце нясе у глухое сяло?
Гэта з дыму і полымя трох рэвалюцый
І на нашую вуліцу свята прыйшло.
Да цябе, падстаўляючы дужыя плечы,
Працягнула гарачыя рукі радня.
Ты вякамі чакала такое сустрэчы,
Прыгажэла штодня і дужэла штодня:
Ты дзялілася хлебам з галодным Паволжам,
У тыфозных цяплушках паўзла на франты.
Партызаніла, спала на чорных астожжах,
І да ранаў тваіх прыкіпалі бінты.
Толькі верыла ты, што ніякая сіла

Не зламае цябе у цяжкія гады.
Ты у бога палёгкі сабе не прасіла,
Бо паверыла толькі у Леніна ты.
І калі прамінула ліхая навала,
Ты вучыла дзяцей, ты дамы будавала,
На работу хадзіла, нібыта на свята,—
Мала часу прайшло, а зрабіла багата.
Ты ішла на завод у спяцоўцы рабочай:
Косы — спелае жыта, блакітныя вочы.
Ты на поле спяшалася чэрвеньскім ранкам,
А пад вечар была Беларусь партызанкай,
На зямлянку змяніла прасторную хату
І чужынцаў касіла агнём аўтаматаў.
Потым клала падваліны з лепшага дуба
І навечна паставіла звонкія зрубы
На зямлі, што сваёй акрапіла крывёю,
Несмяротная маці нязломных герояў.
Ты сагрэла агнямі палескія ночы...
Косы — спелае жыта, блакітныя вочы.
Беларусь дачакалася светлага свята,
У цябе і сясцёр, і сяброўак багата.
Серп і молат, дубовае лісце з пшаніцай
На вякі запляліся у гербе тваім.
Нас не зможа адолець павек навальніца —
Мы заўсёды з табой,
Мы на варце стаім.
1958

## ГОРНАЯ ДАРОГА

Аўтобус ныpae то з хмары, то ў хмару,
То ў пырскі вясёлак, то ў лівень і. гром,
Мінае Ай-Петры, мінае Байдары,
Ляціць і пятляе над безданню стром...

Маўклівыя сосны стаяць на каменні
Ад нізу да самай вяршыні гары.
І як іх трымаюць на скалах карэнні?
І як іх не зваляць у бездань вятры?

Круты паварот, і насустрач — трохтонка
Мільгнула, прапала, і зноў паварот.
Успомняцца маці, і дзеці, і жонка
На страшнай пятлі ля Байдарскіх варот.

Над самаю кручай віецца дарога,
І мы па шафёра глядзім, як на бога.

## САЛДАЦКІ ХЛЕБ

У салдата груз не цяжкі,
Бо ідзе не на кірмаш,—
Скатка, торбачка, біклажка,
Стрэльба, штык і патранташ.

Вось і ўсё яго багацце.

Каптэнармус сухары
Выдае яму не ў хаце,
А на полі ці ў бары.

Не заўсёды ёсць махорка,
Не заўсёды ёсць вада.
Паліняла гімнасцёрка,
Пасівела барада.

Месяц солі еп не бачыў
У палескай старане,
Хоць яна ў баях гарачых
Выступала на спіне.

Не было калі уцерці
Рукавом крывавы пот.
І не раз у вочы смерці
Ён глядзеў за гэты год.

Біў Дзянікіна, Марусю,
Адмірала Калчака,
А цяпер у Беларусі
Стаў разведчыкам палка.

Ён тут ведаў кожны мосцік
Ад Бярозы да Дзвіны…
Застагналі ягамосці,
Закруціліся паны.

Не шукаючы, дзе мелка,
Не пытаючы, дзе брод,
З Мінска, з Глуска, з Рудабелкі
Пакаціўся гэты зброд.

А разведчык той вядомы
З грамадзянскае вайны,
На дзянёк зайшоў дадому,
У мястэчка Курганы.

Пазбіраліся суседзі,
І суседкі, і дзяды.
Далажыў салдат, што едзе
У Маскву на два гады.

— Трэба трохі падвучыцца,
І таму мяне з палка
Пасылаюць у сталіцу,
Аж у школу ЦВК.

Зажурыліся кабеты:
— Гэта ж госць у нас такі,
А у беднае Альжбеты —
Ані круп, ані мукі.

І панеслі, хто што мае:
Скварку, шклянку малака,
Тут і каша прасяная,
Тут і жытняя мука.

Завіхаюцца салдаткі.
Печ гудзе, звіняць нажы.
На сталы нясуць аладкі,
Цеста месяць у дзяжы.

Бохан кмінам пасыпаюць:
Будзе смачны хлеб, круты,
І у печ яго саджаюць
На кляновыя лісты.

Стол накрылі так, як трэба,
Як бывала да вайны.
І запахла свежым хлебам
Над мястэчкам Курганы.

Многа песень праспявалі,
І усе на новы лад,
Хлеб у торбачку паклалі,
І далей пайшоў салдат.

А ў салдата груз не цяжкі,
Бо ідзе не на кірмаш,—
Хлеб, скароміна, біклажка,
Тытуню на тры зацяжкі,
Стрэльба, штык і патранташ.

Дзе пад'едзе, дзе падыдзе,
Дзе задрэмле на траве,
І не болей як за тыдзень
Апынуўся у Маскве.

Тут сустрэлі на вакзале,
Да начальства павялі,
Накармілі і сказалі,
Што служыць яму ў Крамлі.

Вось і Крэмль. Наўкол палацы,
За сцяной цячэ рака.
У каго б яму спытацца,
Дзе тут школа ЦВК.

А насустрач невысокі
Чалавек якраз ідзе.
Паглядзеў, прыжмурыў вока,
І салдат яму здалёку
Крыкнуў:
— Браце, школа дзе?
Незнаёмы усміхнуўся
І гаворыць на хаду:
— Калі так, дык я вярнуся,
Вас да месца давяду.
Вы адкуль, з якога фронту?..
Што там добрага чуваць?
— Добра ўсё. Шкада, што з контрай
Не далі даваяваць.
Кажуць:
«Трэба падвучыцца».
— Так, вучыцца трэба ўсім...

— Але брацца за табліцу
Не з характарам маім:
Гаспадарка ж не ў парадку,
Жонка колькі год адна.
А цяпер — ізноў салдатка,
Хоць канчаецца вайна.
Прыпыніліся ля дома
З нейкай шыльдай на сцяне,
І гаворыць незнаёмы:
— Можа, зойдзем да мяне?
Абмяркуем па парадку,
Як жывуць у вас, і чым
І удовам, і салдаткам
Можна сёння памагчы.
У прасторным кабінеце
Сеў салдат каля стала.
І пра ўсё, што ёсць на свеце,
Лёгка гутарка пайшла.
Пра зямлю, пра хлеб, пра школы
Доўга гутараць яны,
Пра ячэйку камсамола
У мястэчку Курганы.
Увайшла ў пакой дзяўчына,
Азірнулася наўкол,
Чай прынесла і нішчымны
Хлеб паставіла на стол.
— Калі ласка, чым багаты...—
Прапануе гаспадар
І падсоўвае салдату
Хлеб шурпаты, як сухар.
Зняў салдат мяшэчак, скатку,
Аж забыўся, што ў Крамлі,
Хлеб вымае, што салдаткі
На дарогу папяклі,
Незнаёмцу кроіць лусту:
— Не пагрэбуйце і вы,
Можа, прыйдзецца па густу
Хлеб салдацкі, франтавы.
— Хлеб адменны, скажам прама.
Хто такі пячэ і дзе?
А салдат ніяк не ўцяміць,
З кім ён гутарку вядзе.
Твар нібыта і знаёмы,
Але не, не можа быць...
Можна тут сядзець, як дома,
Можна есці, можна піць.
Развітаўшыся гаворыць
Клапатлівы гаспадар:
— Вас чакае ў калідоры
З вашай школы камісар.
Камісар на тратуары
Дакрануўся да пляча
І спытаў:
— Ну як, таварыш,
Гасцяваў у Ільіча?
1958

## СЛЯДЫ

*Памяці Н. А. Войтка*

Месячныя ночы, як тады,
Калі мы, не верачы ў разлукі,
Па сцяжынцы беглі да вады
Удваіх, пабраўшыся за рукі.

Ты пытала: «Ну нашто, зачын
Гэтыя таемныя сустрэчы?»
Але зноў да берага Пцічы
Мы ішлі з табою кожны вечар.

Ты, нібы шукаючы гусей,
Берагам ка мне ішла з усмешкай,
І на дымнай чэрвеньскай расе
Толькі засталіся нашы сцежкі...

...Месячныя ночы на Пцічы
Пахнуць мёдам і мурожным сенам,
Але даўняй сцежкай ідучы,
Я цябе ніколі не сустрэну.

Белыя туманы на Пцічы,
Месяц за дуброваю знікае...
Я адзін блукаю уначы,
Клічу і ніяк не прычакаю.

Дагараюць росы на траве,
Засцілае вочы горкім дымам.
Клічу я, хоць знаю, што табе
Не прыйсці ніколі з Асвенціма.

Пад вярбой ля самае вады
Двое незнаёмых абняліся,
Дзе твае маленькія сляды
На пяску вільготным засталіся.
1958

## ПАЧАТАК ДАРОГІ

Я ў кажушку, што колісь маці
У спадчыну пакінуў дзед,
Апошні раз прайшоў па хаце
І першы раз пайшоў у свет.

Мне маці ў торбачку паклала
Ручнік, кашулю з палатна,
Скрылёк пазычанага сала
І жменьку цёплага шпана.

І навучала, як умела:
— Глядзі ж, сыночак, не зблудзі,
Распытвай пра дарогу смела,
Ласкава на людзей глядзі.

І не лянуйся, не ад працы

У бацькі быў кароткі век.
Пачнеш вучыцца і старацца,
Глядзіш — і выйдзе чалавек.

І рукі матчыны худыя,
Што учарнелі ад зямлі,
Упершыню мяне за шыю
З такой пяшчотай абнялі.

І павяла мяне дарога
У новы дзень, у новы свет,
Хоць я тады зусім нічога
Яшчэ не ўмеў рабіць як след.

Майго умельства і навукі
Адным пасведчаннем былі
З вясны парэпаныя рукі
І на далонях мазалі.

Былі маёй пуцёўкай' мары
Пра тысячы работ і спраў.
І на паўстанку Камунары
Я ўпершыню заначаваў.

І не пытаючы парады,
Ісці далей ці, можа, не,
А папрасіў, каб у брыгаду
Прыпялі хлопцы і мяне.

Мы секлі лес, часалі шпалы,
Калолі тоўстыя камлі,
І к дваццаці гадам нямала
Зрабіць паспелі па зямлі.

І грузчыкам, і лесарубам,
І грабаром быў кожны з нас.
Ад сцюжы трэскаліся губы,
Але ў душы агонь не гас.

Так пачыналася дарога
У новы невядомы свет.
Я не цураўся анічога,
Каб на зямлі пакінуць след,

Каб шпалы сто гадоў звінелі
І словы, што ў радок ляглі,
Са мною разам не старэлі,
А каб мяне перажылі.
1950

## ПАТРЭБЕН ЧАЛАВЕКУ ЧАЛАВЕК

Заўжды хто-небудзь некага чакае,
Заўжды хто-небудзь некага шукае —
Патрэбен чалавеку чалавек,
Што прыйдзе ў бядзе на дапамогу,

Што пракладзе падзейную дарогу
Над стромамі і над вірамі рэк,
Што стане часткай сэрца і сумлення,
Што прыйдзе, як высокае натхненне,

І цеплыню і ласку прынясе.
І я яму аддам усё дазвання:
Агонь душы, любоў, і хваляванне,
І радасці, і клопаты усе.

Хай свята дружбы будзе лепшым святам,
Хай векам дружбы наш завецца век,
Хай другу друг заўсёды будзе братам
І другам — чалавеку чалавек.
1959

**ПАЛАЧАНКА**

Неба вясновае сіняе, сіняе,
За Палатою — высокія травы.
Некалі Полацкаю Ефрасінняю
Тут называлі манашкі Прадславу.

Тут пасваволілі некалі княжычы,
А палачане дрыжалі ад страху.
Стражнікі, рукі вяроўкамі вяжучы,
Прадзедаў нашых цягнулі на плаху.

А неба было і тады залатое,
У чыстай расе прачыналіся ранкі,
Ды плакалі горка над Палатою,
Ломячы рукі ў бядзе, палачанкі.

Па Полацк ішлі чужаніцы вайною —
Коп'і ламалі, ўзрываліся танкі,
А горад стаяў і стаіць над Дзвіною,
І песні сягоння пяюць палачанкі.

Свечкі каштанаў гараць пад бульварамі,
Свецяцца вокны, рэкламы, вітрыны,
Вечарам ворным спяшаюцца парамі
Зноў у Задзвінне нашчадкі Скарынкі.

Ночы над Полацкам сінія, сінія,
А пад Дзвіною ружовыя ранкі…
Чуецца ў змроку: «Ты дзе, Ефрасіня?»
Ціха смяецца ў адказ палачанка.
1959

**УСПАМІН**

Да поўначы стаіць гарачыня,
І маладзік — пад белым пылам.
Палеглі травы, ім да дня
Устаць ужо не хопіць сілы.

Зачахла лісце ў гаях,
І хвалі на Дзвіне замёрлі,
Адна расінка ў салаўя
Ледзь чутна булькае у горле.

Трызніць самлелая зямля.
Аб росах, аб дажджы і громе,
Ды толькі чутна, як здаля
Трашчыць лябёдка на пароме.

Трымціць начная цішыня,
Над лесам бліскаюць зарніцы.
Пачатак леташняга дня
Табе то мроіцца, то сніцца.

Каля Дзвіны блакітны лён
І ветразі сямі палатак —
Табе дасюль яшчэ відзён
І першы след, і твой пачатак

Яшчэ няходжаных дарог
І непачатае работы,
Калі ў гразі з маленькіх ног
Спаўзалі кірзавыя боты.

Трашчала на спяцоўцы соль,
Рыпелі па жарстве лапаты,
Ты першы ўспомніла мазоль
І радасць першае зарплаты.

Ты чуеш? Чуеш? Дождж ідзе.
Гарачыня адразу спала,
А ты і спала і не спала,
Пачатак свой успаміната
І сустракала новы дзень.
1959

**КРАНАЎШЧЫЦА**

*Кранаўшчыцы*
*Полацкага нафтабуда*
*Валянціне Забаронька*

Над лесам занялося ранне
У буйных кроплях дымных рос,
А ўжо гайдаецца на кране,
Нібы струна, нацяты трос.

Гукаюць знізу: «Майна!», «Віра!»
І лёгка, як узмах крыла,
Ўслед за рукою брыгадзіра
Плыве сталёвая страла,

Нібыта залатую пражу
Снуюць лябёдкі угары,
І зверху кранаўшчыца кажа:
— Усходзіць сонейка, сябры.

Сягоння дзень яшчэ прыбудзе,

А сонца вось — рукой падаць.
Яно у пас, па Нафтабудзе,
Заўсёды першай мне відаць.

Відаць, як за Дзвіной пшаніца
Згінае долу каласы...
А за плячамі ў кранаўшчыцы
Ляжаць тугія дзве касы,

Заплеценыя, як у школе,
Блакітным каснікам яны,
Ад іх даспелым пахне полем
І ветрам ранняе вясны.

Маленькая, нібы падлетак,
Яна глядзіць на белы свет.
І у кабіне з першых кветак
Стаўляе з раніцы букет.

Галінкі роснага язміну
Прыносіць з бліжняга сяла,
Зірнеш на Валіну кабіну
І бачыш — ружа расцвіла,

То распусціліся рамонкі,
То браткі ў росным серабры.
Цагліны, як рабіны гронкі,
Здымаюць з крана муляры.

Глядзіць удалеч кранаўшчыца
І часам дзівіцца сама,
Што бачыць тыя камяніцы,
Якіх пакуль яшчэ няма,

Праспекты бачыць і бульвары,
І белы горад над ракой,
Бо не даюць спакою мары,
Бо не вядомы ёй спакой.
1959

**ПРЫГОЖЫЯ РУКІ**

У час сустрэчы і разлукі,
Калі ўдваіх ідзеш на шлях,
Навошта ты хаваеш рукі
У драпінах і ў мазалях?

Заўжды шурпатыя ад тынку,
Парэпаныя ад вады,
Яны не маюць адпачынку
У спёку, ў дождж і ў халады.

Ад цэглы і ад арматуры
Яны ласкавей і дужэй...
За рукі ў модным манікюры
Такія рукі прыгажэй.

Яны ўтрымаюць у палоне
Душу і сэрца юнака,
І ўжо не выкаўзне з далоні
Яго шурпатая рука.

## ТВОЙ ГОЛАС

Тут сонца і ружы у скверы,
Тут спеюць інжыр і хурма,
І цяжка адразу паверыць,
Што недзе ў Сібіры — зіма,

Што хмары, звісаючы нізка,
Дарогі вадой залілі,
Што восень у нас і над Мінскам
Ляцяць і ляцяць жураўлі,

Што голыя мокнуць асіны,
Што з клёнаў апалі лісты,
Ад іх, як ад лапак гусіных,
Наўкол чырванеюць сляды.

Мне так закарцела дадому,
Пакуль не мінуў лістапад,
І раптам знаёмы-знаёмы
Твой голас паклікаў назад.

Даводзіла ты мне старанна,
Што трэба на поўдні пажыць...
Я чуў, што дрыжыць не мембрана,
А радасны голас дрыжыць.

Здалося, нібы ўвачавідку
Мы побач з табою стаім
І провада тонкую нітку
Сагрэлі дыханнем сваім.

Здалося, крануліся скроняў
Гарачыя вусны твае,
Даспеў вінаград на адхоне,
І сонца над намі ўстае.

Бо шчасце не ведае меры,
А шчасця без веры няма.
Няхай жа і ў нашыя дзверы
Не грукае болей зіма.

І раптам, не скончыўшы сказа,
Ты змоўкла: хвіліны прайшлі...
І зноў над хрыбтамі Каўказа
Аднекуль ляцяць жураўлі.
1959

* * *

*Здравствуй, племя младое,*
*незнакомое!*
*А. Пушкін*

Рамонкавым пылам і пахамі жыта
Авеялі горад начныя вятры.
Здаецца, і чвэртка яшчэ не пражыта
Таго, што мінула да гэтай пары.

Іду па праспекце, па бруку Нямігі
Туды, дзе студэнцкі гудзе інтэрнат,
Дзе нас дажыдалі канспекты і кнігі,
А мы на прыпынках чакалі дзяўчат,

Смуглявых і тонкіх, нібы чараціны,
З брывамі, як пара разгорнутых крыл.
Праходзіла ноч, і трамвай на прыпынкі
Прыносіў расу і рамонкавы пыл.

Нас клікала лета на дымныя сцежкі,
Дзе наша дзяцінства прайшло басанож,
Дзе першае гора было, і усмешкі,
І першыя слёзы, як чэрвеньскі дождж...

Часамі заныюць суставы і косці,
Душа забаліць ад трывогі і страт,
Тады па дарогах сваёй маладосці
Іду вечарамі у свой інтэрнат.

Мне ўслед углядаюцца ясныя вочы
З адчыненых вокан і вузкіх двароў.
У спрэчках хлапечых і ў песнях дзявочых
Мне чуецца голас далёкіх сяброў.

Цяпер я чужы і ні з кім не знаёмы,
Прыблудны дзівак і няпрошаны госць,
Хаджу вечарамі ля гэтага дома,
Каб збоку зірнуць на сваю маладосць.

Рамонкавым пылам і жытам даспелым
Павеюць на горад начныя вятры...
Я ведаю: буду і я пасівелы
І толькі ніколі не буду стары.
1959

## ПАВОДКА

Учора ноччу хрусткі іней
Яшчэ лажыўся па лугі,
А сёння у празрыстай сіні
Крутыя тонуць берагі.

І толькі макаўкі парэчак
Тырчаць з імклівае вады.
Разводдзе самых ціхіх рэчак
Платы зрывае і плыты,

Шпурляе тоўстыя бярвенні
На ледарэзы і быкі,
Галіны, трэскі і карэнні
Нясе вада на ўсе бакі.

І сцежар леташні на мелі
Тырчыць, як мачта карабля,
І набрыняла горкім хмелем
За дзень самлелая зямля.

Мы зноў, як у юнацтве, марым,
І я паказваю табе
Дажджынку першую на твары
І першы коцік на вярбе.

Нас і узрост не патачыў:
За рукі ўзяўшыся, праз сад,
Па лужах, каб ніхто не бачыў,
Бяжым, як дваццаць год назад.
1959

**ХВАЛЯВАННЕ**

Мяне хвалюе вецер мая
І радуе дзявочы смех,
Хоць часам я адпачываю,
Калі іду на свой паверх.

Мне раіць доктар не стамляцца,
Пасаду лёгкую знайсці,
Забараняе хвалявацца
І працаваць пасля шасці.

Мяне ж хвалюе новы скверык,
Што зашумеў на пустыры,
Хвалююць негры дзвюх Амерык,
Хвалююць даўнія сябры.

Мяне хвалюе, што ў суседа
Яшчэ ўсяго адзін пакой,
Што хтосьці грошы на «Пабеду»
Здабыў нячыстаю рукой.

Мяне хвалюе — недзе ў багне
Загрузлі ноччу цягачы.
Мяне туды сумленне цягне,
Дзе я магу дапамагчы,

Дзе трэба адшукаць дарогу,
Пракласці сцежку ці шашу...
Лепш быць сляпым або бязногім,
Чым мець халодную душу.

Мой добры ўрач, адну папраўку
Я ўношу ў ісціну тваю,
Хоць сэрца просіцца ў адстаўку,
А я адстаўкі не даю.

І не прашу ў цябе спагады,—
Хоць кожны дзень мяне калі,
Але пакінь адну пасаду —
Быць Чалавекам на зямлі.

## ЖНІВЕНЬ

Адшумелі ліпеньскія ліўні,
Навальніцы ў полі адгулі,
Пасівелі раніцы у жніўні,—
Блізка ходзіць восень па зямлі.

Пахне хмелем, і дарожным пылам,
І салодкай вільгаццю раллі,
Бусляняты ўжо спрабуюць крылы,
Што у іх за лета адраслі.

Выбіраюць зорную дарогу
Да чужой далёкае зямлі,
Трубяць развітальную трывогу
У халодным небе жураўлі.

А мяне заўсёды цешыць восень,
Яблык і грыбоў салодкі пах,
І тугое спелае калоссе,
Цішыня і сонца у снапах,

Вабяць ледзь прыкметныя сцяжынкі,
Радуюць жытнёвыя вянкі,
Песні, што спяваюць на дажынкі
Самыя вясёлыя жанкі.

Вось і ржэўнік пасівеў на ніве,
Верасень стаіць каля двара,
А ў маім жыцці пачаўся жнівень —
Самая багатая пара.

## ПЕРАМОГА

Цяжэй за ўсё сябе перамагчы,
Стаць над сабой бязлітасным суддзёю
Судзіць удзень, уранні і ўначы
Свае жаданні і свае настроі.

Жаданне лёгкай славы засудзі
На вечнае выгнанне і пакуты,
Няхай ніхто з дакорам не глядзіць,
Што замінаеш у жыцці яму ты.

Для зайздрасці палёгкі не прасі,
Сваёй віной не вінаваць другога
І сам сабе ніколі не схлусі,—
Нялёгкай гэта будзе перамога.

Другіх не папракай і не вучы,
А паспрабуй сябе перамагчы.

**ПАВЕРКА**

Яшчэ і не развіднела як след,—
Грыміць трамвай на скрыжаванні,
Аўтобусы праклалі росны след
У ціхае асмужанае ранне.

Спыняецца аўтобус на рагу,
З падножкі усміхаецца дзяўчынка,
І следам я за ёй бягу
Да люднага суседняга прыпынку.

Адчуўшы сілу добрае рукі,
Заціснуты шырокімі плячамі,
Я паглядаю ў розныя бакі
Шчаслівымі і прагнымі вачамі,

Спяшаецца ў чарговы рэйс пілот,
Прараб — на будаўнічую пляцоўку,
Хлапец бяжыць на трактарны завод
І на хаду зашпільвае спяцоўку.

Пераганяе дзе-нідзе
І наш аўтобус электрычку,
Кандуктар з раніцы вядзе
На ўсіх прыпынках пераклічку

І выклікае кожны раз
Усім знаёмыя імёны,
А мне здаецца, што на нас
Глядзіць Купала задуменны,

І Колас шэпча новы верш,
Народжаны ў будзённым гуле,
Здаецца, раіцца ідзеш
Да Чорнага або Бядулі.

Яны, як блізкая радня,
Запісаны у нашы сэрцы:
Успамінаюць іх штодня,
Нібы салдатаў на паверцы.

* * *

Ты помніш чэрвеньскія ночы,
Калі глядзелі вочы ў вочы,
Калі звінела цішыня
І мы былі адны да дня?

Блакітны месяц на азёры
Рассыпаў пацеркамі зоры,
І мы над зорамі плылі
Адны з табой па ўсёй зямлі.

Знікалі явары ў тумане,
А мы плылі, плылі, плылі…
Калі прыйшла пара расстання,
Мы развітацца не маглі.

Зліліся сэрцы, вусны, вочы
Ў адным парыве пачуцця.
І сталі чэрвеньскія ночы
Пачаткам новага жыцця.
1960

## НАТХНЕННЕ

Мне ўсе знаёмыя кварталы:
Вось тут вывешваюць «Звязду»,
Там, выйшаўшы з чытальнай залы,
Чытаюць часта на хаду
Заўжды занятыя студэнты
Непаслухмяны сапрамат,
А ў гэтым скверы, каля стэнда,
Чакаюць вечарам дзяўчат.
Непадалёк, за ўзгоркам гэтым,
У светлым, сонечным муры
Жывуць артысты і паэты,
Канструктары і муляры.
Да раніцы не тухнуць лямпы
У гэтым доме, ля ракі,
Тут, мабыць, праектуюць дамбы,
Знаходзяць рыфмы і радкі.
І я пра новыя кварталы
Складаю песню на хаду,
Калі ад вуліцы Купалы
Да плошчы Коласа іду.

## СПАКУСА

Прыйшла паціху, без дазволу
Аловак выбіла з рукі
І, як няўмольная назола,
Усё штурхае пад бакі.

Параскідала ўсе паперы
І запыліла стэлажы,
Завалай заваліла дзверы
І шэпча: «Трохі паляжы».

Пасля, як хлопчыка, раздзела,
Накрыла коўдрай з галавой,
Аблытала душу і цела,—
І навяла парадак свой.

Чаго прыйшла, адкуль і хто ты?
Ну, што ты маеш да мяне?
Ты ж бачыш, колькі тут работы
І колькі клопатаў ці не?

Герой няскончанай паэмы
Прыспешвае: «Хутчэй пішы!»
І новая грукоча тэма,
А ты мне шэпчаш: «Паляжы».

Не, я не ўлежу. Вокны насцеж,
Ад гулу хай дрыжыць пакой,

Хай радуе чужое шчасце,
А не маркотны свой спакой.

Я сам усё пабачыць хочу,—
Паспець усюды за траіх,
І працаваць удзень і ўночы
Без адпускоў і выхадных.

## ЗЯЛЁНАЯ КНІГА

Я з маленства чытаю зялёную кнігу,
За лясамі гартаю лугі і палі,
Што шумяць, шапацяць, і гамоняць паціху,
І складаюць адвечную песню зямлі.

Я гляджу на зялёнае дымнае жыта,
На гаі, на мурожныя ў лузе стагі,
І сябе папракаю, што многа пражыта,
А куды ні зірнеш — застаюцца даўгі.

Колькі я не ўзараў, не скасіў, не пасеяў,
Не прабіў у завею надзейных дарог,
Не пакінуў сцяжынкі на золкай расе я,
І вішуе на поплаве позні мурог.

Мабыць, рана адбіўся ад поля і дому,
Не паверыў адзінаму лёсу свайму,
Можа, песні мае не патрэбны нікому,
І складаю іх толькі сабе аднаму.

## АГЕНЬЧЫК УНАЧЫ

Ідуць дажджы і днём і ноччу,
Апалі мокрыя лісты,
Вада асенняя булькоча,
Старыя зносячы масты.

Размокла на дарозе гліна,
Канавы поўныя вады,
І на гасцінцы ў каляінах
Па трубку грузнуць абады.

Світае днём, і днём змяркае,
Куды ні глянеш — змрок і змрок,
Нібы над енісейскім краем
Замкнулі сонца на замок.

І ночы чорныя, як сажа,
Здаецца, бездань за сцяной.
Ніхто дарогу не пакажа,
Ніхто не пусціць на пастой.

А ты ідзеш, прамок дазвання,
Закляклі ногі, ледзь жывы,
Цябе, нібы на пакаранне,
У воласць кліча станавы.

Збіраўся дабрысці да ночы,
Ды не прайшоў і тры вярсты,

Як змрок заслаў адразу вочы,
Як знікла сцежка і кусты.

Куды ісці?
У чорным полі
Адзін блукаеш, як сляпы,
Табе шыпшыннік шчокі коле,
Малоціць дождж у тры цапы.

На паўаршына грузнуць ногі,
Чыркі размоклі у вадзе,
Ды па загаду станавога
У воласць Пронікаў ідзе.

Кляне і цемрадзь, і парадкі,
Ураднікаў і станавых,
Што за патравы і падаткі
У воласць гоняць ледзь жывых.

Ды болей не ступіць ні кроку,
Прысеў, намацаўшы пянёк,
Зірнуў навокал: дзесь далёка
Мільгнуў, як знічка, аганёк.

Жывы, трапечацца, палае,—
Дажджы яго не залілі,
І ў цемры зорачка малая
Адна гарыць на ўсёй зямлі.

Рукамі расхінуўшы вецце,
Устаў стары, прыбавіў крок,
Ідзе туды, дзе ясна свеціць
Жывы нязгаслы аганёк.

Канавы, зараснікі глогу
Ужо мінуў стары даўно.
Яму паказвае дарогу
Здалёк адзінае акно.

У шыбу стукнуў асцярожна
І кажа:
— Госпадам прашу,
Пусціце ў хату, калі можна,
Ратуйце бедную душу.

— Хутчэй заходзьце, калі ласка...
Усё, усё здымайце прэч,
Чыркі сушыце, апаяску
І світку вешайце на печ.

Сядайце, вось і чай дарэчы,
Кладзіце цукар... ну, ніншто? —
І гаспадар яму на плечы
Сваё накінуў паліто.

І чай гарачы унакладку
Спакойна сёрбае стары,
Вядзе размову пра падаткі

І беззямельныя двары:

— Прапала матухна-Расея,
Жабрачыць з восені сяло.
Такога ў пас на Енісеі
Ніколі зроду не было.

А гаспадар прыжмурыў вока,
Па светлай гладзіць барадзе,
Устаў, прайшоў імклівым крокам
І кажа:
— Не, не прападзе!

Мы не дазволім ёй прапасці,
І вы, і вашы землякі.
У нас такое будзе шчасце,
Настане лад у нас такі,

Што свет Расіі пазайздросціць,
Унукам нашым і сынам.
Патрэбна толькі болей злосці,
І болей сілы трэба нам!

...На дзень займалася патроху
Ў глухой сібірскай старане.
Усім паказвала дарогу
Святло у ленінскім акне.
1960

**МАЛАДОЕ ВІНО**

Пасохлі да восені грады,
Самлела да поту спіна —
Настала пара вінаграду,
Пара маладога віна.

Пульсуе у скручаных жылах
Лазы вінаграднай даўно
Спрадвечная хмельная сіла,—
Заўжды маладое віно.

У кожнай задымленай гронцы,
Празрыстай амаль навылёт,
Зліліся паўднёвае сонца,
Дажджынкі і сотавы мёд.

У белых касынках дзяўчаты
Вялікія носяць кашы,
Усмешкай і спелым мускатам
Частуюць ад шчодрай душы.

Паклічуць на першую спробу
Свайго маладога віна
У госці к сабе вінаробы,
І толькі каб выпіў да дна.

Я шчасця жадаю і сілы,
Віно маладое п’ючы,

Дзяўчыне, што гронкі насіла,
Хлапцу, што кляпаў абручы,

Што клёпкі часаў да змяркання,
Што ставіў дубовае дно,
Жадаю, каб вечна у чане
Гуло маладое віно.

**ЗІМА**

Закітуе вокны зранку,
Ссячэ капусту дацямна,
І вытча тонкую фіранку
На шыбах цёмнага акна.
Платы і веснічкі пабеліць,
Усе калюжыны зашкліць
І за аселіцай пасцеле
Палотны зрэбныя бяліць.
А на дасвецці сырадою
У вёдры звонкія нальє
І свежай, чыстай, маладою
Нячутна пройдзе па сяле.
Празрыстым пухам галубіным
Усе дарогі замяце
І сокам спелае рабіны
Палоску ў небе правядзе.
1960

**КАЛЯНДАР**

Перада мной настольны каляндар.
Успамінаю дні, сустрэчы, даты,
І я, нібыта часу уладар,
І ў буднях бачу толькі святы.

Чырвонай фарбай мечу кожны дзень
У маі, ліпені і ў жніўні,
Калі над полем першы дождж гудзе,
А летам спёку апалошчуць ліўні.

Калі вясна, як урачысты фэст,
Увойдзе ў дзверы кожнай хаты,
І яблыні, як тысячы нявест,
Куды ні глянь, спяшаюцца на свята.

Дачушка, плацце белае надзень —
Хіба ж не свята першы майскі дзень?

Гартаю каляндар наадварот,
І кожны дзень жыве са мною побач
То зарыпіць вазамі ля варот,
То жытам зазвініць вышэйшай' пробы,

Пастукаецца радасным лістом,
Атуліць светлай ласкай маладосці
І нечакана прыйдзе ў кожны дом
Адданым другам і жаданым госцем,

То жаніха нявесце прывядзе.
Хіба ж не свята і будзённы дзень?

Гартаю каляндар. Мінаюць дні,
Пражытыя, але заўжды жывыя:
У вокнах загараюцца агні,
Сыходзяцца дарогі крыжавыя

І не разыдуцца, агні не дагараць,
Да іх святла збяруцца нашы дзеці
І нас яны не будуць дакараць,
Што мы жылі дарэмна на планеце.

Сваёй любові шчодрыя дары
Мы аддаём, не ведаючы меры,
І новы дзень ва ўсе календары
Прыходзіць датай мужнасці і веры.

Зямля чакае сонца узыход.
Хіба ж не свята кожны новы год?

Ідуць, ідуць наступныя гады,
А колькі іх у кожнага ў запасе?
Не меней, каб і нашыя сляды
Убачылі на Месяцы і Марсе.

Напэўна, хопіць сілы, каб дажыць.
І ўсё зрабіць, задуманае намі,—
І дом і песню звонкую зладжыць,
Каб явай сталі сны, а ява — снамі.

Гартаю каляндар. За годам год
Ідуць гады у год васьмідзесяты:
На полюсе растаў адвечны лёд,
І ўся зямля адно святкуе свята.

Унучка, плацце белае надзень:
Сягоння свята. Свята кожны дзень.

## БЫЛЫЯ ХЛАПЧУКІ

У кожным з нас яшчэ жыве хлапчук.
Вясёлы, шчыры і ласкавы,
Хоць пасівеў і вылез чуб
Ад спраў і нечаканай славы.

Мы ж вызначылі дні прыёму
На шыльдзе фарбай залатой,
І самі з дому і дадому
Ужо не ходзім пехатой,

Не пазнаём старога друга,
Забылі матчына імя,
А як прыйдзецца часам туга,
Дык тут ужо і я не я.

Баімся студзеньскага ветру,

На дзверы вешаем замкі,
За дзень не больш як дзесяць метраў
Так-сяк праходзім нацянькі.

А каб агонь душы не згас,
І не для славы, а для справы,
Няхай жыве у кожным з пас
Хлапчук вясёлы і ласкавы.
1961

## ПАЛЕСКІЯ РЭКІ

Мые на світанні часта сняцца рэкі —
Струмень і Стыр, Стаход і Лань, і Цна.
Па іх нібыта шлях з варагу грэкі
Працерабіла звонкая вясна.
Да цнотнай Цны ніяк не падступіцца
Ні нацянькі, ні напрасткі, ні ўброд,
І Лань, нібы свавольная ільвіца,
Накінуцца гатова на Стаход.
А Прыпяць настыраецца са Стырам,
Струмень, як мора грознае, гудзе,
І вербы нахіліся над вірам,
Па плечы пахаваўшыся ў вадзе.
Зліліся рэкі ўсе ў адно разводдзе,
Шумяць, іскрацца, пеняцца, гудуць,
А ўжо дзядзькі на першым параходзе
Пра сенажаці гутарку вядуць.
Спадзе вада, і травы забуяюць,
Шаломамі паднімуцца стагі.
Куды ні глянеш, без канца і краю —
Зарэчныя, прырэчныя лугі,
І туманы курацца над вадою,
І бакены падміргваюць здаля,
А мне здаецца — цёплым сырадоем
Прапахла ўся палеская зямля.
Выводзяць салаўі каларатуру,—
Звіняць і Стыр, і Прыпяць, і Стаход,
А на світанні ў задуменны Тураў
Плыве павольна белы параход.
1961

* * *

Усё ў тваёй душы — і радасць, і туга,
І смех, і боль, і ласкі, і дакоры,
То іскаркі ў вачах, то мітульга
Трывожных дум або салодкай зморы.

А прыцемкам асеннім кожны раз
Ты ціха рукі мне кладзеш на плечы,
І мроіцца, што нават позні час
Не засланіў далёкае сустрэчы,

І толькі сэрца нельга ашукаць,
Хоць ты маўчыш, стаіўшы хваляванне,
І хочаш самастойна адшукаць
Адказ на ўсе трывожныя пытанні

І расказаць аб клопатах сваіх,
Аб мітусні і дробязных турботах.
Ты і сягоння прамяняла б іх
На лёс дзяўчынкі у кірзовых ботах,

Каб толькі зноў спачатку ўсё пачаць,
Жыць на вадзе, на хлебе і павідле,
Каб вечары пад зорамі страчаць,
Каб золкія світанні не абрыдлі.

Калі б ты зноў спачатку ўсё прайшла,
Каго б ты выбрала, каго б ты абмінула?
Каго б сагрэла промнямі святла,
Каму б руку насустрач працягнула?

Чаго ж маўчыш? Я ведаю, што ты
Не рада ні спакою, ні дастатку,
А каб вярнуць даўнейшыя гады,
Ты пачала б ізноў усё спачатку.

Ізноў прайшла б са мною след у след
І сцежкі, і нялёгкія дарогі,
Каб у жыцці усё было як след —
І смех, і боль, і шчасце, і трывогі.
1961

## АФРАДЗІТА.

Начамі быццам калыханку
Пяе пад вокнамі прыбой.
І на вільготны бераг зранку
Я ўслед прыходжу за табой.

Здаецца, ўсе твае абрысы
Саткала сонца на вадзе:
Табе зайздросцяць кіпарысы,
Зайздросцяць ластаўкі ў гняздзе.

Ступаеш басанож на пліты,
І кожны раз дзіўлюся я,
Бо не іначай — Афрадзіта
Тваё сапраўднае імя.

## БЯССОННІЦА

Пішу, хвалююся і рады, як дзіця,
Удалай рыфме, вобразу і слову,
Нібыта ў гэтым сэнс майго жыцця,
Нібыта тут усіх асноў аснова,

І, па лугах туманных ідучы
Асеннім днём ці раніцаю весняй,
У небе жураўліныя ключы
І сустракаю, і праводжу песняй.

Паэзія без фальшу і прыкрае,
Мяняючы кірункі і адценні,
Жыве і будзе жыць у кожным з нас,
У светлай думцы, смелым летуценні.

Нішу, а ў памяці і ў сэрцы ажылі
Усе пачуцці, колеры і гукі —
Цвітуць рамонкі і звіняць чмялі.
І толькі словы не даюцца ў рукі.

Шукаю іх і не знаходжу іх,
Жывых, шурпатых, зыркіх, як маланкі…
Ужо і горад зморана заціх,
Паружавелі лёгкія фіранкі,

А я пішу, і ўсё здаецца мне,
Што тут няма ні складу, ні парадку.
Калі ж мой верш нікога не кране,
Усё закрэслю і пачну спачатку.

## ЛЕТУЦЕННІК

> Да, я возьму тебя с собою
> И вознесу тебя туда,
> Где кажется земля звездою,
> Землею кажется звезда.
>
> *А. Блок*

Спяшаецца ён у кіно, на спатканне,
Ён слухае Баха і любіць балет,
А потым складае да самага рання
Маршруты наступных касмічных ракет.

Усё да апошняй драбніцы знаёма
У цеснай кабіне яго карабля —
Утульна, і светла, і цёпла, як дома,
Ды толькі чамусьці трымае зямля,

Трымае, дрыжыць, нібы маці над сыпам,—
І хоча паслаць, і шкадуе пусціць,
А ён ужо лічыць не дні, а хвіліны,
Калі развітаецца і паляціць.

Ляціць летуценнік у бездань сусвету,
Над ім зіхацяць Арыён, Казярог,
Блакітнаю знічкаю наша планета
Здаецца у замеці зорных дарог,

То знікне, то ў змроку касмічным заблісквае,
То песняй, то словам сагрэе здаля,
Такая знаёмая, родная, блізкая,
Такая далёкая наша зямля.

Касмічныя сцюжы, і слабасць, і стома
Яго не крануць у нямой вышыні,
У цеснай кабіне утульна, як дома,
І свецяць у змроку зямныя агні.

Ляціць летуценнік у бездань сусвету,

У вечнасць ляціць без трывог і турбот
І бачыць за мэтаю новую мэту,
За першым палётам — наступны палёт.
1961

**ПЕРШЫ ПАЛЁТ**

Да Полацка ўсяго гадзіна лёту,
І я ізноў спяшаюся туды,
Дзе воблакі, як першыя сумёты,
І, як аблокі, белыя сады.
Зялёная зямля ляціць пад намі
І хіліцца, нібыта ў буралом,
А вось ужо і поле з валунамі,
І вёскі, і азёры пад крылом.
Успомнілася першая дарога,
Салёны смак дзіцячае слязы,
Калі прасілі літасці у бога
І верылі ў крыжы і ў абразы.
Плылі аблокі белыя кудысьці,
Парэпалася ссмяглая зямля,
Ад спёкі пазакручвалася лісце,
А літасці не меў прарок Ілья.
Трызнілі з голаду закураныя сёлы,
Сатлела жыта, ссохла сенажаць,
А мне здалося: сытыя анёлы
На абразах ад смеху задрыжаць.
Я гэта ўспомніў, можа, недарэчы...
Пілот свідруе хмару напралом.
Чакае нас шчаслівая сустрэча
І самы юны горад пад крылом.
Мы уладарым на зямлі і ў небе,
Хапае нам і сонца, і вады,
І больш ужо не молімся аб хлебе,
Як некалі ў далёкія гады.
Ляцім, ляцім пад полем і пад лесам,
Задзвінне перакрэсліў самалёт.
Па нас глядзіць анёлам сцюардэса,
Нібы Ілья-прарок,— сівы пілот.

* * *

Адсюль да вяршыні Эльбруса,
Здаецца, рукою дастаць...
Да самых аблокаў абрусам
Раскінулася сенажаць.
А ўнізе — замшэлыя скалы,
Блакітны туман і імгла.
На сцежку з палёту упала
Пяро маладога арла.
Рассунуў бы хмары і горы,
Гатовы хоць беркутам стаць,
Каб самыя ясныя зоры
Табе, дарагая, дастаць.

**БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ**

*Брыгадзіру такелажнікаў*
*Нафтабуда — Івану Міхайлавічу Чарненку*

Яны дзяцей пагадавалі,
Бацькамі сталі іх сыны,
Народжаныя на Урале,
Паяснёныя ля Дзвіны.
Ужо здалёку аб нявесце
Завёў гаворку меншы сын,
І што прыйшла пара асесці
Пасля бясконцых пуцявін.
Ад Кемерава да Алтая,
Ад Ішымбая да Чыты
Пад ногі восень залатая
Шыпшыну слала і лісты.
Усе шляхі пазамятала
Завея белая, як дым,
А ўсё здавалася, што мала
Зрабіць яшчэ прыйшлося ім.
І зноў збіраліся ў дарогу,
Складалі кельмы ў руказакі
І праз таежныя бярлогі
Далей ішлі будаўнікі.
Стагнала пад рыдлёўкай гліна,
Зямля пастылая гула,
А нянькай у малога сына
Брыгада муляраў была.
Камбінезон насіла жонка,
З кляймом казённыя пімы,
Але заўжды спявала звонка,
Як салавей сярод зімы.
Так і дзяцей пагадавалі,
Бацькамі сталі іх сыны…
Паездзілі, павандравалі —
І вось прывал каля Дзвіны.
Зірнеш назад, а шлях кароткі.
Калі б усё ізноў прайсці:
Баракі першай пяцігодкі,
Трывогі першыя ў жыцці,
Другога не хацеў бы шчасця,
Другіх бы не шукаў дарог,
Каб толькі лёс уласны скласці
Так, як адразу скласці змог.
Калі ж навальвалася стома,
Нібы на плечы валуны,
Яму зрабіўся родным домам
Зялёны горад ля Дзвіны.
На стол парэпаныя рукі
Паклаў ссівелы брыгадзір…
Пытаюцца у дзеда ўнукі:
«А мы паедзем у Сібір?»
1961

**СУПРАЦІЎЛЕННЕ МАТЭРЫЯЛУ**

Аўтобус «Полацк — Нафтабуд»
Заўсёды поўны пасажыраў:
І хлапчукі ў спяцоўках тут,
І капітаны без мундзіраў,
І маладыя лейтэнанты.
На памяць толькі засталіся канты
І звычка добрая, старая —
Быць першым на пярэднім краі.
Ідзе аўтобус поўным ходам,
Туман курыцца на Дзвіне.
Жартуе хтось: «Замест узвода
Цяпер брыгада у мяне».
Гартаюць ля акна дзяўчаты
Падручнікі па сапрамату:
У кожнае свае разлікі —
Сягоння трэба здаць залікі,
А заўтра новы дом здаваць
У лік наступнага квартала
І кожным нервам адчуваць
Супраціўленне матэрыялу.
А потым зноў усё пачаць
І скрозь паспець, хоць часу мала...
Нашчадкі будуць вывучаць,
З якога мы матэрыялу.
Усыпаны зорамі вечар,
У клубе іграе баян.
Танцуюць усе,
а дыспетчар
Глядзіць на маленькі экран,
Глядзіць на сігналы на пульце,
А пальцы, нібыта на пульсе,—
Пад імі гудуць правады:
«Канчаем адкачку вады»,
«Гатова другая калона»,
«Чаму не падвозяць бетону?»
Дыспетчар хвалюецца, кліча
То Оршу, то Віцебск, то Крычаў,
А ў вокнах, нібы на экране,
Ужо занялося світанне.
Туман над ракою густы,
Буяюць даспелыя травы,
Грукочуць на станцыі Кеты
З цэментам і шчэбнем саставы.
«Бетон адпраўляем і трубы»,—
Пачуўся ў селектары свіст.
Дыспетчар не спіць, а ля клуба
Чакае яе баяніст.
1961

## ДАЛЬНІ ПРЫПЫНАК

Пры дарозе — толькі слуп,
Бо прыпынак дальні,
Але тут заўсёды — клуб,
Школа і чытальня.
Тут і песню запяюць,
Падгартуе майстра,
Тут пытанні задаюць
Пра Фідэля Кастра.
Тут завочнік на пяску
Чэрціць, піша штосьці,
Рада дзеўчына — з Баку
Прыязджаюць госці.
А з-за Новага Двара,
З невялічкай хмары,
Як з дзіравага вядра,
Цёплы дождж ударыў.
Заскакалі басанож
Хлопцы і дзяўчаты —
Спорны дождж, вясёлы дождж
Мые, як на свята,
Прабірае да касцей,
Хвошча, як у душы,
І становяцца чысцей
Маладыя душы.

* * *

Ад сцюжы пасівелі вейкі,
Застылі рукі ад жарствы,
Ты б іх схавала ў рукавы
Старой шурпатай целагрэйкі.

А ты гаворыш, што не вельмі
Яшчэ лютуюць халады.
Вятры ж гудуць на ўсе лады,
А рукі цягнуцца да кельмы.

Начамі зноў гудзе завея
У неабжытым гарадку,
А я дыханнем адагрэю
Тваю настылую шчаку.

Ад шчасця і ад хвалявання
На вейках знікне сівізна,
І сіняй кропляй на світанні
Да нас пастукае вясна.
1961

## НАСЦЯ

Ледзь не задыхаецца ад шчасця
Беленькая, як бярозка, Насця.
Вось ужо і прозвішча змяніла,
І на людзях кажа: «Пойдзем, мілы,

Мы з табою ў Маладзёжным садзе
Побач дуб з бярозкаю насадзім,
Каб раслі, каб заплялі, вецце,
Каб ніколі не зламаў іх вецер.
А калі вышэй узнімуць голле,
Мы пасадзім клёнік і таполю».
Весела шумяць, нібы пад шлюбам,
Белая бярозка побач з дубам.
Іх у спёку полівае Насця,
Каб хутчэй расла «Алея Шчасця».
1961

**ДЗЯЦІНСТВА**

У памяці жыве усё да кроплі:
Маленства горкае, баі, дваццаты год,
Як нас хавала бабка у каноплі,
Убачыўшы варожы самалёт.
А мне карцела, выцягнуўшы шыю
І кулачок падняўшы ўвышыню,
Прыслухацца, як ён трашчыць і вые,
І крыкнуць: «Вось пабачыш, даганю!»
1962

**НОЧ НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ**

Сыходзяцца сцяжынкі і дарогі
Ля Вечнага агню, на плошчы Перамогі.
Сціхае горад, а жывыя сведкі
Прыходзяць з небяспечнае разведкі.
Крыж-накрыж грудзі ў кулямётных лентах
Заслонаўцы сыходзяць з пастамента,
У маскхалатах, белыя, як здані,
Спяшаюцца на новае заданне.
А снег ляціць, і колкі вецер вые,
Стаяць да дня на плошчы вартавыя,
Схіліўся камандзір каля агня,
Сядлае ўзводны вернага каня,
І высякаюць іскры капыты,
Гудуць пад імі плошчы і масты.
Захутаныя замеціце і сцюжай
Ідуць услед за Вераю Харужай
Па Ленінскім праспекце к абеліску
Падпольшчыкі і Обаля і Мінска.
Ідуць танкісты энскага палка
І лётчыкі, што ў небе пасівелі,
Што дапісаць нявесце не паспелі
Апошняга галоўнага радка.
Гарыць агонь, і завіруха вые,
Ідуць на плошчу дужыя, жывыя,
Разведчыкі, сапёры, партызаны,
Яны яшчэ не кончылі вайны,

Пакуль яшчэ баляць старыя рапы,
Байцамі застаюцца і яны.
А на світанні па праспектах Мінска
Ідзе мой сын і партызан кубінскі,
Глядзяць, як сэрца Вечнага агня
Нячутна б’ецца… Цішыня.

**ВЕРА**

*У. Л. Мяжэвічу*

Ты помніш калючыя сінія зімы?
Ты помніш глухія сігналы адбою?
Ты помніш разлукі?
І толькі Радзіма
Была неразлучна са мной і з табою.
Здавалася, ўсё засталося ў мінулым,
І мы анікога на свеце не мелі,
Мы клікалі… Ноч азывалася гулам,
І белыя сосны ў трывозе нямелі.
Мы трацілі ўсё да апошняе піткі
І толькі ніколі не трацілі веры,
Мы чулі здалёку, як білі зеніткі
І білася сцюжа ў настылыя дзверы.
Нам сніліся часта гудкі паравозаў,
Дарога на фронт і свінцовыя буры,
Мы марылі разам прайсці, як Матросаў,
Апошнія крокі к чужой амбразуры.
Ніхто не паслухаў, ніхто не паверыў,
І дзеці забыліся нашы імёны…
Ад рання да ночы грымелі сякеры
І падалі наўзніч бярозы са звонам.
Нас бачылі толькі глухія дарогі,
Сляды замяталі суровыя зімы.
Мы ў дні адступлення і ў Дзень Перамогі
Былі неразлучны з табою, Радзіма.
Мы верылі ў праўду тваю неадступна,
Таму і жылі, і любілі без меры
Трывогі, салюты, і дзень твой наступны,
І сілу тваёй непадкупнае веры.
1961

* * *

Мы ўсё спазналі і прайшлі —
Пакуты, радасці, трывогу,
І жменьку роднае зямлі
Заўсёды бралі у дарогу.

Тае зямлі, што шчодра нас
Частуе і вадой, і хлебам
І што ніколі не аддасць
Нікога ў крыўду без патрэбы.

Зямлі, што не дарue здрад,
Што ад няпраўды халадзее,
Што і ў пару вялікіх страт
Не траціць лепшыя надзеі.

Надзея ратавала нас,
І мы яшчэ мацней любілі
Сваю зямлю ў суровы час,
Калі трывогу пратрубілі.

І на дарогах Калымы
Мы свята помнілі прысягу,
І верылі заўсёды мы
Жывому ленінскаму сцягу.

**ЛАСІНЫ СЛЕД**

На досвітку па хрусткай стыні,
Паміж алешын і асін,
Страсаючы рагамі іней,
Брыдуць мацёрыя ласі

І ловяць мяккімі губамі
Тугія парасткі альхі.
Над пасівелымі гарбамі
Ляціць слупамі снег сухі.

На досвітку у лесе ціха,
Курыцца сіняя імгла,
Але ўстрывожана ласіха
Угору вушы падняла.

І, прыхінуўшыся да вецця,
Глядзіць за снежныя валы,
Здалёк чуваць, як свішча вецер
У варанёныя ствалы.

І лес, і снег у чыстых зорах,
У срэбных пацерках кусты,
Але ласіха чуе шорах,
І скрып, і пах за тры вярсты.

Завея замяла дарогі…
Якочуць недзе ганчакі,
Закінуў лось на спіну рогі,
Бяжыць ласіха ў хмызнякі.

Праз буралом і крутаяры,
Шарпак ламаючы таўсты,
Яны ў гушчар ляцяць у пары
І ў кроў збіваюць капыты.

Гарачы след у змроку тоне.
З густое снежнае імглы
Шуміць шалёная пагоня,
І свішча вецер у ствалы.

Дыміцца сцежка колкім снегам,
Клубамі сцелецца ганяня…
Азваўся лес тужлівым рэхам,
І ўсё замерла. Цішыня.

Адразу стала пуста ў лесе,
Смала іскрыцца на кары,
І толькі след на стылым снезе
Гарыць палоскаю зары.
1961

**ТРЫВОГА**

Вайны няма, магчыма, і не будзе,
Калі зусім не звар'яцее свет,
Вайны няма, а паміраюць людзі
За сотні міль ад выбухаў ракет.

Імкліваю нячутнаю хадою,
Прыкінуўшыся снегам, ці дажджом,
Ці чыстаю крынічнаю вадою,
Прыходзіць смерць неспадзявана ў дом.

Яна ўпаўзае ў ранішнім тумане
Расінкаю, то прагным павуком,
То плешчацца ў трывожным акіяне
Атручаным кетавым касяком.

Нябачная яна даўно свідруе
Крэветку і акулу навылёт,
Збівае з ног рыбачку маладую,
Спыняе незавершаны палёт.

Яна ляціць у снежнай крутаверці,—
Лупатая, сляпая, як сава.
І дзіўна, што дагэтуль востраў смерці
Завецца «Востраў Раждзяства».
1962

* * *

Баліць душа за кожнага калеку.
Сляпога праз ручай перавяду,
Бязногага сустрэну чалавека,—
Гатовы пакланіцца на хаду.

Ідуць на мулкіх мыліцах салдаты
Апошняе сусветнае вайны,
А я пакутую, нібыта вінаваты,
Што за мяне пакутуюць яны.

З іх, мабыць, сніцца кожнаму начамі
Над полем сонца і на градах мак,
І дзеўчына з вільготнымі вачамі,
Што толькі з ім танцуе кракавяк.

І часта сніцца голас камандзіра
І выбухі каля чужой ракі...
Таму хачу, каб дзве мае рукі
Заўсёды працавалі за чатыры.
1962

## ПЛАТЫ

Не раз у змроку я і ты
Напорваліся на платы.
І кожны лаяўся, калі
Плот вырастаў, як з-пад зямлі.
Платы вакол садоў і дач,
Навокал паркаў, хоць ты плач!
Куды ні глянь — платы, платы
З прантоў, з бетоннае пліты,
З цалёвак, а на іх цвікі,
Нацэленыя, як штыкі.
За плотам — кветкі і вішняк,
Звон ланцугоў і брэх сабак.
За плотам — скверык і гарод.
І нават па магіле плот.
Калі б сабраць усе платы,
Праз акіян ляглі б масты,
А з цэглы выраслі б дамы
Ад Камянца да Калымы.
І наш стаіць за плотам дом,
Ды прасла мы здалі на лом,
І кожны ходзіць напрасткі,
Хоць і злуюцца дзівакі,
Што столькі год, нібы краты,
На свет глядзелі праз платы.
Цяпер вясновыя вятры
Ляцяць у нашыя двары,
І сонца свеціць у акно,
І стала нам далей відно,
Праспект бліжэй на паўвярсты,
Хоць і тырчаць яшчэ платы.

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Па начах жаніхі і нявесты
Аціраюць чужыя пад'езды,
То шукаюць у скверы прытулку,
То блукаюць па цёмным завулку.
Іх не дождж і не золкія ночы
Заганяюць у цемень, а вочы,
Што глядзяць падазрона, што судзяць,
Што каханне юначае студзяць.
Кожны вечар у мокрай алеі
Нехта шэпчацца, лашчыцца, млее
Ад гарачай салодкае стомы.
Потым доўга стаяць каля дома
І ніяк развітацца не могуць.
Вось нявеста кусае пазногаць
І на вокны глядзіць час ад часу,
На калючыя церні альясу
У цяпле стометровай кватэры,
Дзе цыратай абітыя дзверы,
Дзе фіранкі, і фікусы ў пыле,
І русалкі у рыначным стылі,
Дзе сталы і серванты з арэху,
Дзе не чутна ні песень, ні смеху,

Дзе «Здоровье» — адзіны часопіс
І «шпіёнскі» зачытаны опус.
Там і люстры гараць і таршэры,
Але кожны там змрочны і шэры.
Маладым бы — маленькі пакойчык,
Каб чужыя не бачылі вочы
Іх трывог, захаплення і шчасця,
Што адразу ніколі не скласці.
Ім бы толькі настольную лямпу
І акно без адзінае плямкі,
Чарцяжамі завалены стол,
І высокую светлую столь,
І праменьчыкі ранняга сонца,
Ледзяную ваду у калонцы,
Цэлы стос непрачытаных кніг,
Ім бы радасць адну на дваіх,
Ім бы, змораным, разам упасці
У абдымкі спякотнага шчасця,
Запрасіць бы паўгорада ў госці
На ўрачыстасць сваёй маладосці.

Ім прыйдзецца на дужыя плечы
Ўзяць і радасць і боль чалавечы..
Вось ідуць маладыя на плошчу,
Я гляджу ім услед і зайздрошчу.
1962

* * *

Нельга ні забыцца, ні адкласці
На наступны, на прыёмны дзень
Нечае маленечкае шчасце,
А самому знікнуць, быццам цень,

Праз другія дзверы на нараду,
Дзе і без цябе ваду стаўкуць,
І спакойна ў доўгую шуфляду
Спадзяванні лепшыя замкнуць.

Нельга абысці і адмахнуцца
Ад чужой трывогі і бяды,
Нельга не пачуць, як сэрцы б’юцца,
Як змаўкаюць сэрцы назаўжды.

Мабыць, сэрца ўзяўшы пад апеку,
Можна адагнаць злавесны цень.
Чалавек павінен чалавеку
Радасці прыносіць кожны дзень.
1962

* * *

Ты, мабыць, добра ведаеш сама,
Што ні ў дарозе, ні ў сваім пакоі
Мне без цябе ні радасці няма,
Няма ні паратунку, ні спакою.
А прыйдзе ж дзень,

і нехта з пас дваіх
Адзін у адзіноце застанецца.
Напэўна ты.
І ўжо да рук маіх
Ніколі аніхто не дакранецца,
Ім больш не дацягнуцца да пяра
І да тваё далоні пры сустрэчы,
І нечакана гора, як гара,
Твае прыцісне вузенькія плечы.
Ніхто цябе не выйдзе сустракаць
Ні ў летні дождж, ні ў лютаўскую замець,
І толькі часам будзе дакараць
Надоўга патрывожаная памяць,
Што не паспела нечага сказаць,
Што нечага спытаць не мела часу,
Што радасць і пакуты не звязаць
І не пачуць ніводнага адказу.
Але пакуль жывецца — будзем жыць,
Задумваць не на дзень, а на стагоддзі,
Каханнем, хоць і познім, даражыць
Пры ветранай і сонечнай пагодзе,
І ўсё, што набалела, расказаць,
Нічога не забыцца, не адкласці,
Сустрэчнаму дарогу паказаць,
А час надыдзе — на хаду упасці.
1962

## ТАБЕ ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ СОНЦА

*Тані*

Твайму юнацтву пазайздросціць сонца,
А радасцей хапае на дваіх,
Табе ужо не трэба абаронцы,—
Ты абароніш і сябе і іх.

Ад зайздрасці і крывадушнай злосці,
Ад чэрствасці, спакусы і хлусні
Па праву непадкупнай маладосці
Ты і сябе і блізкіх барані.

І не прасі ні ласкі, ні апекі,
Ні дапамогі чулае радні.
Ты ж напрасткі пераплываеш рэкі,
Гартуешся на сцюжы і агні.

І не шукай удачы выпадковай,
Што крышыцца і гнецца у руках
Стаптанаю іржаваю падковай,
Пакінутай на пыльных бальшаках.

Лаві губамі пругкі вецер мая
І абдымі асмужаны прастор,
Твая ж рука гарачая трымае
Сцяблінку, што дацягнецца да зор.

Ты перайначыш колеры і формы,

Ты выратуеш кволых, ледзь жывых,
У навальніцы, у завеі, штормы
І горы упадуць да ног тваіх.

Ты сілу сэрца, розуму і цела
Сваёй' зямлі хоць сёння б аддала.
Табе у вочы сонца паглядзела,
Зажмурыўшыся ад твайго святла.
1962

* * *

Жыццё часамі мачахай было:
Сляпіла вочы, шчокі секла,
То праз чысцілішча вяло,
То кідала назад у пекла.

А я не здаўся, не зачах,
Не набрыняў атрутай злосці,
Таму і сёння у вачах
Гараць іскрынкі маладосці,

Таму так прагна я люблю
Жыццё, людзей.
І веру свята:
Што не паспеў зрабіць — зраблю
І пражыву другую рату.

**БЯССМЕРЦЕ**

Ці забываецца навек,
Калі сканае чалавек?
Не знікне ён,
Таму, што ў свет
Вядзе яго нябачны след.
Яго няма, а ён жыве
У даўняй песні і ў траве,
У цвеце веснавых садоў,
У памяці дзяцей і ўдоў.
Няхай яго няма між нас,
Няхай імя закрэсліў час,
А ён жыве ў маёй крыві
І мне загадвае: «Жыві
І за сябе і за мяне,
Каб соль трашчала па спіне,
Каб рукі ў мазалях гулі,
Каб песні звонкія былі».
Я п’ю бярозавік густы,
З таго надрэзу, што і ты
Ашчадна некалі падсек,
Мой прашчур, добры чалавек.
І нада мной шумяць лісты
Прысадаў, што дагледзеў ты,
Галінку кожную і сук
Сагрэў цяплом шурпатых рук.
Гудуць пад коламі масты,
Дзе перакінуў кладку ты,

Красуюць жыта і авёс,
Што ты за пазухай прынёс
На ляды ў даўнюю вясну —
На колішнюю цаліну.
Ты ставіў хаты, дровы сек,
Мой продак, добры чалавек,
Не шкадаваў ні рук, пі жыл,
Бо ўсё умеў, бо прагна жыў,
Твае сагрэлі мазалі
Усё жывое на зямлі.

Ідуць гады, шумяць гады,
Твае ж не сцерліся сляды.
Ты прагна жыў, жывеш, жыві
Крывінкаю ў маёй крыві.
Магчыма ўнукі ўспомняць нас
На віражах касмічных трас.

А чым аздобіць новы век
Адукаваны чалавек?
1962

## ЦІШЫНЯ

Я слухаю начную цішыню:
Чуваць, як б'ецца сэрца птушаняці
І матылёк да зыркага агню
Ляціць кругамі, як на свяце.

Чуваць, як у глухую цішыню
З ліста на ліст скацілася расінка
І як на змену спаленаму пню
Са скрыпам прабіваецца асінка.

Чуваць, як зоркі сінія дрыжаць —
На небе і зямлі спакой і ціша.
І не хачу ні думаць, ні зважаць,
Што ў гэты час сейсмограф піша

Крывыя кожнага надземнага штуршка,
Што днём і ноччу кружацца радары,
Што, можа, засталося паўвяршка
Да самага страшэннага удара.

А ўсё чакае сонечнага дня,
Дрыжыць раса, і роўна сэрца б'ецца.
Хай на зямлі і ў небе цішыня
Заўсёды цішынёю застаецца.
1962

## ДУБОВЫ ЛІСТ

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Ляцяць у вырай жураўлі і гусі,
Дубовы ліст, у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён, нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Злілася з жылкамі маёй далоні.
1962

## СНЫ

Лячу, лячу, маленечкі, бяскрылы,
І, анямелы, сілюся, крычу —
Займае дух і не хапае сілы:
Зрываюся і зноў вышэй лячу.

Заходжуся ад радасці і страху,
І заміраюць гукі на губах,
А я яшчэ таму зайздрошчу птаху,
Што крылы развінуў на поўны мах.

Усё сцярплю — пакуты, боль і кару,
За ўсё жыццём уласным заплачу,
І хоць на метр, але вышэй Ікара
Пад зорамі і сонцам пралячу.

Унізе знікне хмарка залатая,
Адолею і страх і немату...
Гаворыць маці,— калі ў сне лятаю,
Дык, значыць, і сталею і расту.
1962

## «РЭЧАНЬКА»

За снамі сны плылі кругамі,
Ляжаў на шыбах доўгі цень,
Але няўпэўненыя гамы
Грымелі ўвечары і ўдзень.

Няўмелыя хадзілі рукі
Па клавішах то ўніз, то ўверх,
І ўскалашмачаныя гукі
Будзілі часта ўвесь паверх.

Але надоечы нясмела,
У ранішнім салодкім сне,
Пачуў, як «Рэчанька» звінела
І закалыхвала мяне,

Іскрылася і булькатала,
Лілася і плыла, плыла;
Здавалася, што рассвітала
У доме ад яе святла.

Здавалася, трымцяць стракозы
У хвалях чэрвеньскай смугі,
Што пахнуць мятаю пракосы
І — сырадоем берагі...

Усё замоўкла нечакана,
І прамінула, як у сне,

А на карнізах і парканах
Ляжаў вільготны цёплы снег,

Прытоптаны, у цёмных крапках,
Што наслядзілі капяжы.
І я угледзеў — з нотнай папкай
Дзяўчынка сцежкаю бяжыць.

І дзень у дзень без перапынку,
Часамі нават не ў пару
Іграе радасна дзяўчынка
І будзіць раннюю зару.
1962

## СЛОВЫ

Над намі словы уладараць.
Мы чуем і гаворым іх.
Яны то здружаць, то пасвараць
Сяброў і ворагаў маіх.

А словы розныя бываюць.
Адны — агню стрымаюць шквал,
Другія словы забіваюць
Усё жывое напавал.

Ад слова сэрца халадзее,
Праходзіць сон і забыццё,
Ад слова трацяцца надзеі,
Ад слова свеціцца жыццё.

Ад слова вырастаюць крылы,
А ў сэрца стукае любоў,
Ад слова прыбываюць сілы,
Дык не шкадуйце добрых слоў!

А здатным толькі на дакоры
Ці пустасловіцай грымець?
Каб не прыносіць людзям гора,
Было б найлепей анямець.
1962

## РАБІНАВАЯ НОЧ

*Максіму Танку*

Маланка б'е і ўпоперак і ўдоўж
І ўспыхвае, нібы сухое сучча,
Грукоча гром, і спорны дождж
Трысцё ламае, размывае кручы.

Рыпяць крывыя сосны на касе,
Кіпіць і вые ўспененая Нарач,
І пласкадонку лёгкую нясе
У вір ці ў Гатавічы нанач.

Прыстанішча шукаюць рыбакі,

А дождж сячэ бязлітасна і тупа,
Глядзяць мужчыны ў розныя бакі,
Ды не відно ні Мядзеля, ні Купы.

Над Нараччу — рабінавая ноч:
Бушуюць хвалі, дождж і навальніца.
Куды ні павярні, куды ні збоч,
Нічога не відно, нідзе не прыпыніцца.

Да раніцы не разбярэш ніяк,
Ад берага ты блізка ці далёка...
І раптам нечакана, як маяк,
Замільгацеў агеньчык адзінока.

На вёслы налягаюць рыбакі,
А неба крэсляць вольтавыя дугі,
І зіхацяць ад свежае лускі
На рыбаках штармоўкі, як кальчугі.

У пласкадонцы б'юцца шчупакі,
Звіваюцца вугры, як бранзалеты,
Не спяць такою ноччу рыбакі
І неспакойныя паэты.
1962

**ГРУЗАВІКІ**

Ад вечара і да зары
І ад зары да вечара
Грукочуць МАЗы ў Мазыры
І круцяцца дыспетчары:
То адпраўляй па сто мяхоў
Цэменту ў школу новую,
То патрабуе прыстань Пхоў
Разгрузку тэрміновую,
То швелер, бэлькі і слупы
Паслаць патрэбна ў Петрыкаў,—
Нібыта у палёт сляпы
Імчацца МАЗы з ветрыкам.
Наскрозь бензінам пыл працах
І дзяцельніка венчыкі,
Мільгаюць ноччу на шляхах
Чырвоныя агеньчыкі.
Імчацца МАЗы ў белы свет
Ад вечара да раніцы,
І жоўты пыл за імі ўслед
Бясконцым шлейфам цягнецца.
Ляцяць машыны па начах
І рэжуць змрок на сектары,
На скрыжаваннях у плашчах
Стаяць аўтаінспектары.
А побач гулкі шлях курыць
Ад Мазыра да Турава...
Інспектар просіць закурыць,

Хоць сам і мае курыва,
Але выходзіць па шашу,
Запылены і зморваны,
Адвесці трошачкі душу
З вясёлымі шафёрамі.
І так ад змроку да зары
І ад зары да вечара
Працуюць МАЗы ў Мазыры,
І круцяцца дыспетчары.

**СУНІЧНЫ СОК**

Праходзяць летнія дажджы,
Сляпыя, цёплыя, грыбныя.
Ты ногі ў росах палашчы,
І сэрца соладка заные,

Суніцы спелыя збірай,
Няхай палае сок барвовы,
І напраcткі, нібыта ў рай,
Ідзі ў зялёныя дубровы,

Дзе над дажджом і перуном
Іскрыцца мокрае улонне.
Прапахнуць горкім палыном
Твае і шчокі, і далоні.

І я знайду твае сляды
На бегунах і мяккіх травах,
Калі ж ты вернешся сюды
Уся ў вясёлкавых апраўах,

У кроплях сонца і дажджу,
У сініх пырсках навальніцы,
Цябе я болей не пушчу
Адну на спелыя суніцы,

А за табою крок у крок
Пайду збіраць суніцаў прысак
І пакаштую свежы сок,
Што на тваіх губах не высах.

* * *

І мы сварыліся.
Часамі папракалі
Адно другога дзень, і два, і тры.
Здавалася — у гэтакім напале
Агні шугаюць і гудуць вятры.

Здавалася, нябачнаю мяжою
Падзелены даўно і ты і я,
І колкаю, суроваю, чужою
Становіцца каханая мая.

За што сварыліся? Чаго не падзялілі
Мы ўспомніць і пад вечар не маглі,

І на пяшчоту колішніх ідылій
Ад злосці цені чорныя ляглі:

Нікому не хацелася скарыцца
І першаму пераступіць мяжу,
А тут бы нам усмешкай заіскрыцца,
Пайсці насустрач першаму дажджу,

Адно другому паглядзець у вочы
І адгукнуцца сонечнай вясне,
Паслухаць разам, як вада булькоча
І кропелькі сцякаюць па вясле,

Як лопаюцца клейкія пупышкі,
Як гнёзды ўюць увішныя дразды,
І на пяску ля парашутнай вышкі
Знайсці юнацтва нашага сляды.

Хутчэй хадзем! А крыўды і папрокі
Няхай узважыць і закрэсліць час.
Глядзі — плывуць блакітныя аблокі,
Прыслухайся — разводдзе кліча нас,

І белы свет іскрыцца і шчабеча,
Прарэзваюцца першыя лісты.
Мы зноў ідзем, абняўшыся за плечы,
Шчаслівыя ад мудрай дабраты.
1963

**РАСІЯ**

Вясёлкі і ліўні касыя,
Сумёты і замеці зім,
І сонца, і песні Расіі —
Заўсёды у сэрцы маім.

Мне блізкія аж ад маленства
Узвышшы і шум баравы,
Высокія кручы Смаленска,
І гулкія плошчы Масквы,

І плёсы за Волгаю сіняй,
І сцежкі на роснай траве —
Расія, Расія, Расія
Заўсёды у сэрцы жыве.

На ўсходзе яна палымнее,
Світальныя песні пяе.
Як маці, яна разумее
І мову, і думы мае.

Гарац, як праменні касыя,
Пункціры завоблачных трас.
І сонца і шчасце з Расіі
Заўсёды прыходзяць да нас.

## ІГРАЕ РЫБАЧКА

На прыстані Мага[1]
Іграе гармонік,
То шэпча,
То некага слёзна гукае,
Празрыстая хмарка,
Як срэбраны коннік,
За сінюю сопку плыве
І знікае.

Іскрыцца Амур,
А рыбачка іграе,
І ёй не патрэбна
Інакшага раю,
Чым гэтыя плёсы,
Чым гэтыя горы,
Чым звонкіх
І чыстых ладоў
Пераборы.

Рыбачка іграе «Амурскія хвалі»,
А побач стаяць рыбакі
На прычале
І слухаюць моўчкі
Былую салдатку,
Што некалі з гора
Купіла трохрадку.
Вясною і ўлетку,
Увосень і ўзімку
Хадзілі жанкі
Да яе на заімку.
Хадзілі нявесты
І ўдовы сівыя
І песні спявалі
Ўсю ноч франтавыя.
З гаручай слязою
Гучалі ў тым хоры
Надзея, трывога,
І радасць, і гора.
Іграе рыбачка па прыстані Мага.
Зацята маўчаць у штармоўках мужчыны
І слухаюць песню, як слухаюць мага,
Глядзяць на Амур і чакаюць пуціну.
1963

[1] Мага — прыстань на Амуры.

## РАЗМОВА З АМУРСКІМ РЫБАКОМ

Прамокла да рубца цяльняшка
І распаўзлася на спіне.
— Табе, рыбак, напэўна, цяжка?
— Не.

Кіпіць у невадзе гарбуша

І б'ецца ў смаляное дно.
— Ты быў, відаць, даўно на сушы?
— Даўно.

— Тупыя чорныя кунгасы
Вадзіць і ў штормы ты мастак.
А на любоў не маеш часу?
— Так.

— Знайшоў бы зручную прычыну
І быў бы дома лепшы госць.
Напэўна, маеш і дзяўчыну?
— Ёсць.

— Зірні, на пірсе, ў Азерпаху,
Ці не яе бялее стан?
Куды ж ляціш, падобны птаху?
— У акіян.
1963

**ГЕОЛАГ**

То пахне першымі лістамі,
То навальніцай, то дажджом,
Заледзянелымі пластамі,
То мокрым, сіверным плашчом.

То сцішыцца, то раптам грымне
І сінім бляскам секане,
І кроплі буйныя, як грыўні,
Заскачуць глуха па спіне.

То ледзь адольваючы стому,
Не помнячы, што быў сухі,
Ідзе геолаг не дадому,
Не пад страху, а з-пад страхі.

І не шукае больш прытулку,
Пакінуўшы прытулак свой,
Ідзе, хоць холадна і мулка,
І дождж гудзе над галавой.

Не знае большай асалоды,
Як у таежнай цішыні
Каня замшэлае калоды
Заснуць да рання пры агні,

Як адшукаць глухі распадак,
Дзе раптам зазвініць кірка,—
Каб найвялікшае з разгадак
Яго кранулася рука,

Каб зіхацелі ў кожным керне
І каб іскрыліся заўжды
Жывыя, цёплыя, як зерне,
Іскрынкі добрае руды,

Каб не ў ажынніку і хмелі
Яго губляліся сляды,
А каб услед за ім грымелі
І цягнікі, і гарады,

Каб загараліся вясёлкі
Палярнай замеці на зло
І новыя раслі пасёлкі,
Дзе нават следу не было.
1963

**ІЮНЬ-КАРАНЬ**

*Янку Брылю*

Гляджу на леташнія здымкі,
Што паліняслі без пары,
І ўспомніў дальнія заімкі,
І астравы, і плёсы Усуры.

Над ціхай Валачаеўкаю ранне,
Ружовае, як малады фазан.
І мы пaціху на Іюнь-Карані
Спяваем пра амурскіх партызан.

Наўкол палаюць росныя саранкі,
На сонцы стэп і млее і звініць,
А нам здаецца, што ляцяць тачанкі,
Якіх ужо нікому не спыніць.

Чырвоныя істужкі на папахах,
І белыя бінты на галаве…
А табуны стаеннікаў па пахі
Хаваюцца ў някошанай траве…

Ляцяць, ляцяць тачанкі над Біроюю
На Спаек, на Благавешчанск, на Іман…
Знікае ўсё. Пра колішніх герояў
Спявае беларускі партызан.
1963

**НАХОДКА**

Гэта мае і твае аднагодкі
Мерзлі ў бараках ля бухты Находкі
І рэзалі сопкі, гранітныя скалы
На вуліцы, плошчы, завулкі, кварталы.
Быў хлеб па ліміту і спірт па ліміту,
І толькі хапала заўжды дынаміту:
Крышыліся сопкі і падалі горы,
А ў небе дрыжалі халодныя зоры.
Шалелі завеі, снягі бушавалі,
Шафёры да самай душы прамярзалі
І вецер і холад клялі акаянны,
А шлях прабівалі да акіяна.

Гляджу я сягоння з таго перавала,
Дзе замець са сцюжай вясной цiравала,

Гула, рагатала, свістала і кпіла,
Шляхі замятала і вочы сляпіла.

Гляджу, як на горад, блакітны і юны,
Сонца напяла праменні, як струны,
На мачты, на трубы, на ветразей крылле,
На светлыя дахі, на топкія шпілі,
На сопкі, прычалы, на вежы, і краны,
І на караблі, што ідуць з акіяна.

Спяшаюцца зранку мае аднагодкі —
Па сэрцу, па духу, па думках сябры,
Што лічаць шчаслівым юнацтвам Находку,
А самі сівеюць яшчэ без пары.
1963

**ДАЧКА**

Званкі і голас незнаёмы
Мяне трывожаць кожны раз,
І тое, што знікаеш з дому
І што вяртаешся не ў час.

А тут і дождж сячэ па шыбах,
Скуголіць вецер як знарок,
І за сцяной, нібыта выбух,
Грыміць па бруку кожны крок.

Усе спяшаюцца кудысьці
Праз вецер і праз дождж густы,
У шыбы стукаецца лісце,
А мне здаецца — гэта ты.

Калі ж ты вырасла, дачушка,
Калі паспела пасталець?
То ціха плачаш у падушку,
То пачынаеш раптам пець.

Чакаеш вечара ад рання,
Хапаеш плашчык на бягу,
Каб не спазніцца на спатканне,
І недзе мокнеш на рагу.

Што ж я цябе не сунімаю,
Адказваю на ўсе званкі
І ўсе часцей успамінаю,
Што сам калісьці быў такі,

Што не адважваўся спазніцца,
Калі мінула дваццаць год,
Што на спатканне ў навальніцу
Праз ручаіны бег уброд...

А вось трывожыўся заўсёды,
І неспакой душу дзяўбе,
Калі і ў добрую пагоду
Няма да поўначы цябе.

Мая трывога вочы засціць,
Душы спакою не дае,
Бо я трывожуся пра шчасце
І пра няшчасці ўсе твае.

То іней асыпаецца на скронь,
То хвошча лес ігліцаю і снегам,
А я, прадзьмуты сцюжаю наскрозь,
Далей спяшаюся за рэхам.

## ЛЫЖНЯ

*Міколу Лобану*

На досвітку і я праклаў лыжню
У снежаньскі празрысты морак.
А ўжо чуваць: «Дарогу! Даганю!»
І вылятаюць на круты узгорак.

Вось нехта падае ў іскрысты снег —
Клубіцца след і параю і пылам,
На віражах — галёканне і смех
Ляцяць услед за лыжнікам двухкрылым.

А я праз лес пракладваю лыжню —
Тугую звонкую дарогу —
І хлапчукоў і клічу і дражню,
Што адстаюць ад лыжніка старога.

Мільгаюць іскры белага агню,
У твар шугае вецер стылы,
Па цаліку пракладваю лыжню
Тым, што ляцяць і наступаюць з тылу.

## ПЛАЧА ЖАНЧЫНА

Жанчына плача на прыпынку,
А ёй не робіцца лягчэй,
Хоць і бягуць, бягуць слязінкі
З яе заплаканых вачэй.

Якая ж у яе прычына?
Што ёй спакою не дае?
Падумаў я, ці не мужчына
Пакрыўдзіў толькі што яе?

Не дапамог або абразіў,
Упёрся ў графік ці ў статут,
Ці нізашто заляпаў граззю
І столькі нарабіў пакут.

Жанатыя і халастыя,
Успамінайце кожны раз,
Што ўсе жанкі крыху святыя,
Што маці нарадзіла вас.
1963

**ХМЕЛЬ**

Гудзе у вербах жоўты чмель,
І млее ўсё ў ліпнёвым звоне,
Шуміць званец,
і горкі хмель
Хвалюе кроў і б'е у скроні.

З табою мы ў спякотны дзень
Прытулку лепшага не мелі,—
Забеглі пад шырокі цень
І тут ад шчасця анямелі.

На цёплай маладой траве
Мы прыпыніліся пад хмелем,
Шумеў званец, і ў галаве
Званочкі сінія звінелі.

Гады сплывалі ў забыццё,
І рэкі нашыя змялелі,
А мы з табой на ўсё жыццё
У летні поўдзень ахмялелі.
1963

**СНЕЖАНЬ**

І голыя ліпы,
І гулкія дахі
За ноч апранулі
Сівыя папахі.

А снег мітусіцца,
А снег не сціхае,
Блакітнай становіцца
Поўнач глухая.

Нідзе не відно
Ні сцяжынак, пі следу,
А мне ўсё здаецца,
Што некуды еду.

Праз гурбы і сцюжу,
Праз дзікую замець
На сцежку выводзіць
Трывожная памяць.

Сузор'і гараць,
Каб з дарогі не збіцца.
Завейнаю ноччу
Чаго не прысніцца.

На вуліцы ціха,
І светла, і свежа,

У шыбу галінкаю
Стукае снежань.

Напэўна, на нашыя
Зімы і леты
Глядзяць астраномы
З далёкай планеты,

Радзіруюць, клічуць,
А іх тэлеграмы,
Магчыма, да нас
Далятаюць грамамі,

Для нас падбіраюць
Надзейныя коды,
Ды зорка мяняе
Аблічча заўсёды.

То хмары яе
Закрываюць, як здапі,
То свеціцца зноў,
То зялёнаю стане.

У бездані космасу —
След чалавечы,
І ўжо недалёка
Да першай сустрэчы.

Сузор'і гараць,
Каб з дарогі не збіцца...
А снежаньскай ноччу
Чаго не прысніцца.
1963

## ЮНАЦТВА

Глядзяць у неба прагна вочы —
На адзінокі самалёт,
А сэрца радасна стукоча
І следам просіцца ў палёт.

Не ведаю, якія зоры
Мігцяць і свецяцца ўваччу,
Але напэўна знаю — скора
І я да зорак палячу.

Пакуль што ўзняцца немагчыма
І паляцець яшчэ не час...
Значок Асаавіяхіма
Здаваўся ордэнам для нас.

Нас невядомае чакала
І сотняй клікала дарог,
А ўжо з Масквы Валерый Чкалаў
Ляцеў над полюсам, як бог.

Надзейныя вычэрчваў дугі
Да новых светаў і планет

Настаўнік з горада Калугі
Для неіснуючых ракет.

І самалёты кожным святам
Над Краснай плошчаю гулі...
Бацькі славутых касманаўтаў
Яшчэ падлеткамі былі.
1963

**ВЕРАСЕНЬ**

І туманныя слівы і яблыкі — вось яны —
На саломе ляжаць у іскрынках расы,
Пахнуць мёдам і верасам сонечнай восені,
На дарогах машыны рыпяць і вазы.

Халадком задыміліся травы збуялыя.
З агародаў паўзуць праз платы гарбузы,
Шамаціць на іржэўніку лісце апалае,
На дарогах машыны рыпяць і вазы.

Аж, здаецца, зямля пацяжэла за верасень,
Падабрэла, прыціхла ў барвовай красе.
Чалавек ёй з маленства да скону
даверыўся,—
Пра зямлю і турботы, і клопаты ўсе.

І яна адарыла пладамі багатымі
Нетаропкіх, нястомных, шчаслівых людзей.
Чырванеюць рабіны над новымі хатамі,
Спелы верасень з хлебам і мёдам ідзе.

**ДАБРАТА**

Нялёгка быць даверлівым і шчырым,
Нялёгка крыўды даўнія забыць,
Нялёгка жыць з усімі ў міры
І кожнага аднолькава любіць.

Нялёгка добрым быць,
хоць нам не трэба
Ні лёгка запрацованага хлеба,
Ні танных поспехаў, ні скідак, ні удач,
Ні вырашаных іншымі задач,

Ні тых пахвал, што лёгка раздаюцца
Сябрамі за абедзенным сталом,
Ні плётак, што вужакамі віюцца
І патыхаюць зайздрасцю і злом.

Усё праходзіць, быццам дождж
няроўны,
І боль, і злосць, і дробная брыда,
А застаецца важны і галоўны
І самы светлы талент — дабрата.
1963

**АБРУЧ**

Я гнаў абруч,
А думаў: еду, еду
На край зямлі,
За сіпі небасхіл,
Дзе не відно
Ні каляін, пі следу,
Дзе толькі сонца
І ружовы пыл.
Я гнаў абруч
І бег за доўгім ценем
Праз палыны,
Каля размытых круч —
І пакаціўся
Ўслед за летуценнем
Па небе звонкі
Сонечны абруч.

За перыстыя
Лёгкія аблокі,
У ясную
Нямую цішыню
Абруч каціўся
Ад мяне далёка.
Я ведаў,
Што яго не даганю,

Што мне хадзіць
Па свеце пехатою,
Што век не адарвацца
Ад зямлі,
Што не падняцца
Сцежкаю крутою
Туды, дзе праплываюць
Жураўлі.

Усходзілі, заходзілі
Свяцілы,
Буялі травы,
Замеці мялі,
А мне тугія
Мроіліся крылы,
Што нас
Над белым светам
Паднялі.

Пульсуюць рэактыўныя
Маторы,
Плыве паволі
Жураўліны ключ,
І коціцца
За пушчы і за моры
Па небе звонкі
Сонечны абруч.
1964

## ГАНЧАР

Ганчарны круг без перадышкі
Гудзе, імчыцца з веку ў век,
З яго гарластыя гладышкі
Здымае добры чалавек.

Зажураны, а то шчаслівы,
Ён грэе гліну у руках
І сінім золатам палівы
Выводзіць зоры па гляках.

А потым у гарачай печы
Гаршкі, карчагі, гарлачы,
Падняўшы вогненныя плечы,
Гудуць, як тыя трубачы.

У зыркім полымі свіцяцца,
Як маладзіцы, гладышы,
Агонь шугае, каб дабрацца
Да кожнай звонкае душы,

Каб ад струменяў сырадою
Звінела залатое дно,
Каб хмельнай брагай маладою
У іх іскрылася віно.

Каб у спякоту пад снапамі,
Падняўшы гладышы з зямлі,
Дзяўчаты прагнымі губамі
Густы бярозавік пілі,

А на світанні па суніцы
Ішлі з гладышкамі ў гушчар,
Ім будзе мроіцца і сніцца
Вясёлы малады ганчар.

Ён зноў бярэцца за работу,
Агонь у печы не патух,
І коцяцца расінкі поту
На вечны і нястомны круг.
1964

## ЗЯМЛЯНІН Я

Няхай не зарубцоўваецца памяць,
Няхай і краваточыць, і баліць,
І смагай неўтаймованаю паліць,
Якой ніхто не можа наталіць.

Жыву нібыта тысячу стагоддзяў:
Пры мне, здаецца, маманты раўлі,
Гулі лясы па захадзе і ўсходзе
І не было ні сцежак, ні раллі.

То сыкалі раз’ятраныя пашчы,
То пагражаў пражорлівы павук,

І ўпершыню мой валасаты прашчур
Падняўся і сагнуў вялікі сук.

Не слухаліся скручаныя пальцы,
Не выпрастацца згорбленай спіне,
І ўсё ж перамаглі неандэртальцы
У бойцы за сябе і за мяне.

Я і цяпер яшчэ ад жаху стыну,
Хоць і не ўспомню у каторы век,
Ад зайздрасці разгневаны, дубіну
Падпяў на чалавека чалавек.

Гартае памяць новыя стагоддзі,
Хоць і не бачны, але ўжо жыву,
І за мяне кладзе пры ўсім народзе
На плаху Сценька Разін галаву.

Гудзе казённых барабанаў пошчак.
Я помню год і ведаю, калі
Грымелі залпы на Сенацкай плошчы
І пяцярых на кронверк павялі.

Успомніў я заплаканыя вёскі
(Апроч жыцця, усё было ў цане).
Тады з пятлёй на шыі Каліноўскі
Апошні ліст пісаў і да мяне.

Наўкол палалі панскія палацы.
Паміж лясоў і здратаваных ніў
Ішоў і я з паўстанцамі ў паўстанцы,
А герцанаўскі «Колокол» званіў…

Я помню барыкады Краснай Прэсні,
У Смольным — варанёныя штыкі
І крокі Ільіча па ўсходцах лесвіц
Мяне вялі ў наступныя вякі.

Як кроў у кроў, як пругкае дыханне,
Як вочы, бровы, як гарачы рот,
Удары сэрца, пачуццё кахання,
Так памяць пераходзіць з роду ў род.

Няхай свайго не ведаю пачатку,
Не ведаю апошняе мяжы,
Бо жыў у продку, бо жыву ў нашчадку
У чулым сэрцы і ў яго душы.

Я перадам святую праўду века,
Што ў промнях сонца, з поту і крыві
Да новых зор узнесла чалавека
Для шчасця, для дабра і для любві.

Паклічу ў сведкі спаленых, распятых,
Але заўсёды юных і жывых,
Каб нашы ўнукі ў будні і у святы
Не забываліся пра іх.

Я раскажу пра пекла ў Хірасіме
Прапраўнуку прапраўнука майго,
Калі ніхто ніколі не падніме
Смяротны смерч адзін на аднаго.

Зямля жыве: у бераг б'юць прылівы,
У вырай адлятаюць жураўлі...
Зямлянін я. І ад таго шчаслівы,
Што ўсім хапае месца на зямлі.

Мы не дадзім яе крывёй запляміць,
Жывое растаптаць і спапяліць!
Няхай не зарубцоўваецца памяць,
І не дае спакою, і баліць.

## ЛЕСНІЧОЎКА

Зіма заваліла снягамі лясы,
Усе бальшакі прыцярушаны сенам.
Ссівелыя сосны на ўсе галасы
Гудуць, і звіняць заінелыя сцены.

За вокнамі ноч і сумёты наўкол,
Галосіць завея і просіцца ў сенцы,
То белую шапку адзене на кол,
То з пражаю круціць свае вераценцы.

У печы гараць і гудуць смалякі,
Запахла смалой і адталай бярозай,
Чуваць, як здалёку рыпяць бальшакі,—
І ў хату ідуць лесарубы з марозу.

Сягоння да поўначы ім не заснуць:
Мігае экран, і, нібы над паводкай,
З далёкага выраю ціха плывуць,
І клічуць, і клічуць кагосьці лябёдкі.

Над хвалямі гукаў яны паплылі,
Лятаюць і кружацца ў пасмах туману,
То зноў прыпадаюць да самай зямлі,
Плывуць і паволі знікаюць з экрана.

Куды ж вы? Чакайце! Наўкол замяла
Завея гасцінцы, шляхі і дарожкі.
Пабудзьце яшчэ, не ўцякайце з цяпла,
Бо ў лесе застудзіце босыя ножкі.

Сядзяць каля гулкай настылай сцяны
І моўчкі глядзяць на экран лесарубы,
Ім чуецца ўзлёт лебядзінай вясны,
А ў лесе заходзяцца срэбныя трубы.
1964

**ПАЧАТАК**

За Глускам, у глухіх барах,
Яшчэ маё блукае рэха,
І дзень суніцамі працах,
Даспелі першыя арэхі,

І золкі золак на Пцічы
Мяне штодня дадому кліча,
Дзе расцвітаюць касачы
І дзе гады зязюля лічыць,

Дзе каля цёмнае вады,
На вузенькім пясчаным мысе,
Мае дзіцячыя сляды
Дасюль, магчыма, засталіся.

Я іх ніколі не знайду,
Не адшукаю хісткай кладкі,
А ўсё ж лячу к свайму гнязду,
К свайму адзінаму пачатку.
1964

**ВІШНІ**

На санцапёку даспяваюць вішні,
І на шчацэ густога соку след.
Нацяты павады, і толькі лішні
Цяжкі, халодны пісталет.

Па горнай сцежцы цокаюць падковы,
Гарачы конь кусае муштукі.
Здаецца ўсё трызненнем выпадковым,
Ды нехта ўпарта сочыць з-пад рукі

І гоніць, гоніць.
Страшна азірнуцца —
Ратунку не прасі і не чакай;
Здаецца, больш па сцежцы не вярнуцца,
Што круціцца, як росчырк «Николай».

А можа, гэта толькі так здаецца,
Магчыма, ўсё пустой трывогі груз.
Ён спрытна ловіць вішні і смяецца,
Што здаўся лёгкім ветразем Эльбрус,

Што цёплы вецер ясені калыша,
Што ён яшчэ усіх перажыве.
А каля сцежкі костачкі ад вішань
Крывінкамі мільгаюць у траве.

Ён і дагэтуль не прыйшоў дадому:
Ударыў стрэл, і пакаціўся гром…
Але яму, заўсёды маладому,
Зрабіўся родным домам кожны дом.

Праз буры, рэвалюцыі і войны

Ён дойдзе і ў наступныя вякі...
Шумяць, шумяць, як ветразь неспакойны,
На лермантаўскай сцежцы вішнякі.
1964

## ДУМКА ПРА ДУМКУ

*Архітэктару Г. В. Сысоеву*

Гавораць — думка колеру не мае,
Ні межаў, пі абрысаў, пі вагі.
Яна, спачатку кволая, нямая.
У вузялок завяжацца тугі

запульсуе жылкаю на скроні,
Дыктуе волю і правы свае;
Ты ўжо яе нявольнік, ты ў палоне,
Яна табе спакою не дае.

І вырвацца з палону немагчыма,
І нельга адпачыць ужо нідзе:
Ты пазіраеш яснымі вачыма,
А ўсім здаецца, што сляпы ідзе

Зарослымі глухімі пустырамі,
Дзе толькі друз і стылыя камы;
А мрояцца табе двары і брамы,
Праезды, скрыжаванні і дамы,

Якіх ніхто яшчэ нідзе не бачыў,
Дзе аніхто пакуль што не жыве.
З бязважкай думкі цяжкія заданы
І вуліцы растуць у галаве.

1м душна, цесна, ім няма прасторы,
Пад імі нетрывалыя пласты.
І пераходзяць сцены і апоры
На ватмана шурпатыя лісты...

На пустырах будуюць дом за домам,
Фарбуюць сцены колерам зары.
А думка зноў, не ведаючы стомы,
Нібы іскра, імкнецца да іскры

І набывае форму і аблічча,
Адценні, пахі, колеры, вагу,
Усім валодае, прыспешвае і кліча,
Нібыта кожны у яе ў даўгу.

Усё, што збудавалі нашы рукі,
Усё, што мы стварылі на зямлі, —
Атамаходы і сімфоній гукі
Спачатку толькі думкамі былі.
*1964 г.*

**ПАДАРОЖЖА**

Я не стаю на раздарожжы,
Мне пэўны шлях даўно відзён.
Усё жыццё я ў падарожжы —
Ад першых да апошніх дзён.

Бо мой рубеж яшчэ не блізка,
Хоць б'юць часамі перуны,
А я вандрую ад калыскі
І правандрую да труны.

Але шкада, што век кароткі,
А свету не відаць канца,
Што пехатою ад Находкі
Ужо не дайсці да Камянца,

Што легкадумныя раманы
Больш не паўторацца ў жыцці,
Што непраходныя урманы
Наўрад ці прыйдзецца прайсці.

Шкада. А каб усё спачатку
Зноў паўтарыць за кругам круг,
Хадзіць праз вузенькую кладку
Вясной з дзяўчатамі на луг.

І зноў навыперадкі лётаць
Цераз купальскія кастры,
Таптаць задымленую лотаць
І цалавацца да зары.

Шкада, што не з усімі стрэўся,
Каго калісьці мог сустрэць,
Што каля тых агнёў не грэўся,
Дзе мог і я душу сагрэць

Жывым, гарачым хваляваннем,
Любоўю, светлым пачуццём.
Таму цяпер усё дазвання
Хачу зрабіць сваім жыццём:

Паветрам дыхаць навальнічным,
Таптаць і лотаць, і мурог,
З акрайцам і з вадой крынічнай
Прайсці яшчэ мільён дарог,

Не ўслед, а поплеч з маладымі,
Каб смела марыць, прагна жыць,
Узняцца сцежкамі крутымі,
Дзе зорка ў бездані дрыжыць,

Дзе за ліловым небасхілам
Арбіты зорныя прайшлі,
Дзе самі вырастаюць крылы,
Каб зноў вярнуцца да Зямлі,
Дзе пахнуць першыя рамонкі,
Дрыжаць пад месяцам гаі

І свішчуць на світанні звонка
І традыцыйна салаўі.

Таму хвалюе і трывожыць
Усё, што стрэнецца ў жыцці,
Таму, прыйшоўшы з падарожжа,
Спяшаюся далей ісці.
*1964 г.*

## ЯК ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

На рошчыну маці лінула вады —
Дражджамі запахла,
І хлеб малады
Яна расчыніла ў дубовай дзяжы,
А сыну сказала:
— Па сіта бяжы.
Насыпала маці гарачай мукі,
Адсеяла вотруб'е
І асцюкі
І доўга яшчэ, не шкадуючы сілы,
Тугое і пахкае цеста
Мясіла.
Прынесла духмяны аер з азярыны
І боханы густа
Пасыпала кмінам,
Саджала ў гарачую печ на лапаце,
І хлебам запахла,
Нібыта на свяце...
Палёгкі і скідак, паэт, не прасі ты,—
А кожнае слова
Прасейвай праз сіта,
Што сказана іншымі, зноў не кажы,
А вершы замешвай,
Як цеста ў дзяжы,
Каб пахлі аерам і духам зямлі,
Каб хлебам надзённым
Заўсёды былі.
*1964*

## БЫЦЬ ПАЭТАМ

Нас прадзімае вецер свежы,
Мы ловім пырскі і дрыжым.

Давай пакінем узбярэжжа
І зорнай сцежкай пабяжым.

Чаму няёмка і нясціпла?
За што пашлюць услед дакор?

Глядзі,— блакітны месяц выплыў
І высыпаў мільёны зор.

Гарачым прысакам і срэбрам
Ён сцежку вымасціў ўдаль,

І паласатыя, як зебры,
Варочаюцца спіны хваль.

А сцежка вабіць, сцежка кліча
За небакрай, за небасхіл,

Дзе нават Чарнамор не злічыць
Усіх сузор'яў і свяціл.

Хадзем! Хоць сёння будзь паэтам,
Не ў кабінеце, а ў жыцці,

Каб не стаяць за парапетам,
А сцежкай месячнай прайсці.
1964

**БЕЛЫЯ ВЕРШЫ**

За ноч пабялелі маўклівыя сосны.
Нібыта званочкі, ільдзінкі вісяць.
Снуе завіруха кужэльныя кросны,
Аж хочацца белыя вершы пісаць.

Завеі стажкі за аселіцай вершаць,
Завеялі сцежкі, шляхі замялі.
Пішу ды хачу, каб і белыя вершы
Чырвонымі вершамі вечна былі.

* * *

Люблю зямлю, што пахне лесам,
Люблю густой жывіцы дух,
Вільготны водар свежых трэсак
І скрыпеня ружовы пух,

Зялёнае святло ігліцы
І пах сунічнае расы,
Што, як іскрынкі навальніцы,
Усе асыпала лясы.

Люблю сівых дубоў калоны,
І соснаў стромкія ствалы,
І мёду поўныя калоды,
І звон нястомнае пчалы.

Я сок бярозавы з падрэза
Губамі прагнымі лаўлю,
І рэкі, што прапахлі лесам,
І зрубы звонкія люблю.

Здавён зялёнаю, лясною
Завецца наша старана,
І пахнуць смольнаю сасною
Калыска, хата і труна.
1964

## РЭАКТЫЎНАЯ ЛЫЖНЯ

Куды ні глянеш,— снег і снег
І колкія іскрынкі пылу,
Блакітная лыжня мяне
Ізноў вядзе да небасхілу.

За пераездам паражняк
Грыміць і тоне ў белай пары,
А ў неба вузкая лыжня
Ўзвілася і бяжыць за хмары.

То вынырне, то прападзе,
То мільгане за паваротам.
Яна мяне услед вядзе
За рэактыўным самалётам.
1964

## СОН

*Міколу Аўрамчыку*

Ты рурскі пыл яшчэ не выдыхаў,
І часта сняцца па начах
Жывыя мошчы Янаў, Фрыдрыхаў
З адчаем у сухіх вачах.

І ваганеткі ў золкім змроку
Па штрэку, быццам па трубе,
Як прывіды з чырвоным вокам,
Паўзуць начамі на цябе.

Імчыцца клець, а канагонаў
Сякуць сырычныя бічы.
Ты рэжаш краты, а з палону
Ніяк не ўдасца уцячы.

І толькі, як у жменьцы вугалю,
Агеньчык у душы не згас,
І мроіцца табе, што цуглі
Грызе не Тойфель, а Пегас.

Вільготных стоек дух смаловы'
Дайшоў ад нашае зямлі,
І рыфма ў рыфму, слова ў слова,
Як куля ў кулю, увайшлі.

І сталі роўнымі радкамі
Іскрыцца, як бікфордаў шнур.
Завыў трывожнымі гудкамі
Яшчэ дзядамі кляты Рур...

А ранкам белыя аблокі
І журавоў нясе вясна...
Пякельны Рур даўно далёка.
Як снег, на скронях — сівізна.
1964

* * *

Іх доўга сэрца няньчыла, насіла,
Яны то стукаліся, то сціхалі зноў,
То нечакана з неадольнай сілай
У кожнай жылцы бушавала кроў.

І вось, нібы зубцы кардыяграмы,
Пабеглі на паперу з-пад рукі
Апаленыя сонцам і вятрамі
Зусім не геніяльныя радкі.

І боль прайшоў, нібыта дождж у маі,
І стала гэтак лёгка на душы,
І песню, быццам голуба, трымаю,
А сэрца просіць: новую пішы.

* * *

Каб пісаліся вершы,
Трэба быць закаханым
У жанчыну, у неба,
У добрых людзей.
І ад шчасця заўсёды
Быць крышачку п'яным
І ніколі, ніколі
Не траціць надзей.

Трэба быць закаханым
У гаманы бору,
У світанні над полем,
У дождж на сяўбе,
Трэба быць закаханым
У сінія зоры
І ніколі, ніколі —
У самога сябе.
1964

* * *

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе на свеце,
За глухімі лясамі,
За сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і,
А ў нас на планеце
Ты ў зялёным і ціхім
Завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,
За паўкроку адно
Аднаго абмінуць,
Разысціся,
Як сцежкі расходзяцца ў полі,
І не знаў бы,
За страту каго папракнуць.

Мабыць, трэба было
Праваліцца у пекла,

Траціць блізкіх,
Пакутаваць, мерзнуць, гарэць,
Ратавацца,
Каб лютая сцюя«а не ссекла,
Каб цябе
Пад Палярнаю зоркай
Сустрэць,
І пазнаць,
І адразу забыцца аб крыўдзе,
Каб убачыць праменьчыкі
Ў зрэнках тваіх,
Нарадзіцца ізноў
І паверыць, што прыйдзе
І збавенне, і шчасце
Адно на дваіх;

Падабрэць, памякчэць,
Назаўсёды скарыцца
Непадкупнай
Суровай тваёй чысціні,
Каб істоты тваёй адкрываць
Таямніцы,
Каб душу гартаваць
На высокім агні.

Час ляціць і ляціць,
Завіруха завеяла скроні,
Пакідаюць насечкі
Гады на ілбе.

Я гляджу на цябе,
Я дзіўлюся і сёння,
Чым я жыў без цябе,
Як я жыў без цябе?
1964

* * *

Я шчыра люблю
Неспакойных і смелых
І тых,
Што сабе не даруюць віну,
Люблю маладых
І люблю пасівелых,
Вясёлых люблю,
А кахаю адну.

Каханне не мае
Ні межаў, ні стажу,
Каханне прыносіць
Заўжды навіну.
І, мабыць, ніколі
Ніхто не адкажа,
За што ён кахае
На свеце адну.

* * *

Нас разлучалі вёрсты, і гады,
І цёмныя аснежаныя далі.
Мае дарогі і мае сляды
Сыпучыя снягі, пазамяталі.

На ломкі пласт лажыліся пласты,
Завеі скавыталі, як шакалы.
З усіх дарог вярталіся лісты,
А ты мяне гукала і шукала.

Ішла на поўнач, ехала на ўсход,
Мяняючы прыпынкі і вакзалы.
Міналі дні, ішоў за годам год,
І сэрца шлях адзіны падказала.

Нечпадзявана, як у снежні гром,
Як у глухую поўнач промень сонца,
Нібы жар-птушка з вогненным пяром,
Ты да мяне ляцела па трохтонцы.

Шчаслівыя, да самага відна
Сядзелі мы, пабраўшыся за рукі,
І верылі, што толькі смерць адна
Над намі мае права на разлукі.
1964

* * *

Мы з табою жылі
У бядзе і ў нястачы,
Ды ў суровыя даўнія
Тыя гады
Я не чуў ад цябе
Ні папрокаў, ні плачу,—
Ты сябе і мяне суцяшала заўжды,
Хоць не мелі прытулку,
Ні хлеба, ні к хлебу,
Ні спагадлівых блізкіх,
Ні чулай радні.
Толькі сонца было
І высокае неба,
Зоры грэлі начамі,
Нібыта агні.

А цяпер вось бядуеш,
Што нечага мала,
Што серванты старыя,
Што час памяняць дываны...
Знікла сонца,
Зязюля даўно адкувала,
І не чутна за вокнамі
Звону вясны.
Я ж на неба, на зоры
Хачу наглядзецца,
На зямлю, па сяброў,
Бо нішто не навек!

І пакуль не замоўкне
Гарачае сэрца,
Веру — толькі для шчасця
жыве чалавек.

**ПРАФЕСІЯ**

Мае сябры заслужанымі сталі
Майстрамі лесу, вугалю і сталі,
Ёсць дойліды, хірургі, педагогі,
Умельцы весці новыя дарогі,
І віртуозы шліфаваць алмазы.
А я?
  Непаслухмяныя шліфую сказы.
Чыноў не маю, званняў і пасад,
Мне нават не прысвоены разрад,
І не стаўляе АТК пячатку,
Бо кожны дзень усё раблю спачатку,
Бо пачынаю з нулявога цыкла,
Таму даўно сама рука прывыкла
Выкрэсліваць, сціраць і бракаваць.
Відаць, што мне ў падмайстрах звекаваць,
Не напісаць трылогію ці п’есу.
Таму зайздрошчу майстру лесу.
1964

* * *
Кароткі век у чалавека,
Але усё ж завецца век.
Адзін штодня прымае лекі,
Мажны, а трэцца між калек,

Штурмуе ўпарта медыцыну,
Да слёз даводзіць дактароў
І без ніякае прычыны
Псуе сабе і людзям кроў.

Другі збірае горы хлеба,
Шляхі пракладвае ў сусвет,
А падае, як зорка з неба,
І свеціцца нязгаслы след.
1964

**ІСЦІНА**

Я ўсё калісьці мудрасцю лічыў,
Хацеў дайсці да самае асновы,
Хацеў знайсці да ісціны ключы,
А паланілі формулы і словы.

І самы мудры пасміхаўся ў вус,
Вучыў, і павучаў, і быў пракорам,
Настаўнікам філосафаў і муз,
Адзіным і не адзінокім.

Ён часам сонца засланіць умеў,
Сабе грамы прысвоіць і праменні.
Мінула ўсё, і кожны зразумеў:
Было ўсяго няпоўнае зацьменне.

Для кожнага цяпер не навіна,
Што ёсць на свеце ісціна адна —
Ленін.
Бывае, што ў часіну адпачынку
Канькі і пада мною зазвіняць.

І хочацца цыбатую дзяўчынку
На віражы дагнаць і перагнаць.
Мільгае патэфоннаю пласцінкай
Блакітны затуманены каток,

І, як іголка, тонкая дзяўчынка
На лёдзе робіць за вітком віток.
Яна ў тумане іскаркай здаецца
Далёкага юначага агню,

Паблісквае канькамі і смяецца,
Што я яе ніяк не даганю.
Яна віецца, кружыцца, лятае.
Яшчэ рывок — і зноўку абміне,

Бялявая, высокая, як тая,
Што некалі адстала ад мяне.
Жанчына каля сіняга сумёту
Трымае шалік, паліто і боты.
Я паглядзеў у вочы і пазнаў:
Дык вось каго калісьці даганяў.
1964

## ВЯСНА

Цябе палохае і кліча
Зялёны красавіцкі дым,
І незнаёмае аблічча,
І бэз над берагам крутым.

Цябе трывожыць і гукае
Іскрысты шумны крыгаход
І той хлапчук, што сустракае
Цябе заўжды каля варот,

Бярэзнік у ліловым чадзе,
І рэчка ў ранішняй смузе,
І салаўі, што ў цёмным садзе
Пяюць аб шчасці і тузе.

Усё цябе кудысьці цягне,
Заснуць да рання не дае:
То ты ідзеш па топкай багне,
То сцежкі свецяцца твае,

То пралятаеш над ракою,

І ўсё пытаешся сама,
Чаму ранейшага спакою
Ні днём, ні вечарам няма.

Начамі побач навальніцы
Грымяць і б’юць за сіні лес,
На золку бліскаюць зарніцы
І ціха лопаецца бэз.

Мінаюць першыя трывогі —
І вось ты бачыш з-пад рукі,
Як разбягаюцца дарогі
На ўсе кірункі і бакі.

І ты становішся упарцей,
Нібы збіраешся ў палёт,
Нібы адна стаіш на старце,
А за спіной — семнаццаць год.

* * *

Будзь музаю маёй,
Маім натхненнем
І ласкаю;
І казкаю жывой,
Маёй надзеяй і маім сумленнем,
І толькі будзь заўжды
Сама сабой.

Няўмольнаю, спагадлівай,
Вясёлай,
Маўклівaю і надта гаваркой,
У дождж іскрыся
Чыстаю вясёлкай,
У спёку стань
Крынічнаю ракой,

Прымі мяне
У залатое лона,
Ад смагі дай
Гаючую ваду,
І я з твайго
Чароўнага палону
Ніколі сам нікуды не пайду.

Твайго святла
Ужо ніштo не засціць;
Ты для мяне,
Як зорка на зямлі;
Таму з табой
У горы і ў няшчасці
Заўсёды мы
Шчаслівымі былі.

Ты не даеш
Сабе і мне спакою,
Бо нам супроцьпаказаны спакой.
Свяці вясёлкай,

Стань жывой ракою,
Надзеяю
І музаю маёй.
1964

* * *

Праверыць можна нервы, склад крыві,
Убачыць мозг і сэрца на рэнтгене,
А па якіх зубцах, якіх крывых
Праверыць можна чысціню сумлення?

Як зазірнуць у глыбіню душы,
Дазнацца, што хвалюе і трывожыць?
І што тут ні кажы і ні пішы,
Да ісціны дайсці ніяк не зможаш.

Я зразумець сябе даўно хачу,
За ўсе агрэхі сам сябе караю,
Бо ўсё жыццё па Ільічу
Уласнае сумленне правяраю.
1964

* * *

Што я ў цябе даўно ў даўгу,
Заўсёды ведаю і помню,
А дазваніцца не магу
Табе па сонечнаму промню.

Ён ледзьве паміж нас вісіць,
Перанапружаны і дрогкі,
А я званю, каб папрасіць,
Калі не літасці,— палёгкі,

Прызнацца у сваёй віне,
Пакаяцца, а ты затое
Караеш кожны дзень мяне
Сваёю шчодрай дабратою.
1965

* * *

Мяняешся, нібы рака, ты:
То ледзянееш ад тугі,
То на крутыя перакаты
Імчышся ветразем тугім,

Іскрыліся сонечнай паводкай
Ці лашчышся, нібы прыбой,
Гарыш маланкаю кароткай
І не валодаеш сабой.

Пасля нялёгкае разлукі
Сінее дзень, і побач ты
Працягваеш насустрач рукі,
Нібы падзейныя масты,

Каб сумаваць і каб смяяцца,

Знікаць, іскрыцца і. любіць,—
Нібы рака, заўжды мяняцца
І, як рака, нязменнай быць.

**БАГАЦЦЕ**

Нічога мне ніколі не шкада,
На шчырасць і на ласку не скуплюся,
Калі ў твой дом пастукае бяда,
Апошняю скарынкай падзялюся.

Нічога не збіраю, не таю,
Не берагу на чорны дзень і свята,
А ўсё, што маю, аддаю,
І тым шчаслівы і багаты.
1965

**ЗЯЛЁНЫ ВЕТРАЗЬ**

Пралескі пахнуць талаю вадою
І сокам красавіцкае зямлі,
А коцікі на вербы чарадою
Садзяцца, як бухматыя чмялі.

Асіннікі яшчэ дрыжаць уранні,
Чарнеюць балаціны і груды,
Зялёнаю смугою красавання
Укрыліся празрыстыя сады.

А яблыні ў панчошках белых-белых
Пабеглі за далёкі небакрай,
На дыбачкі становяцца нясмела
І жураўліным крыкам клічуць май.

Вяртаюцца ружовыя світанні
У зіхатлівых пацерках расы,—
Уся зямля чакае красавання,
А соннай руні сняцца каласы,

Зажынкі, і ўмалот, і мліва,
І пах крутое свежае раллі,
І кожны дзень, і кожны год шчаслівы,
І вечны мір, і праўда на зямлі.

Гудзе вясна. Чаканы дзень настане,
Закаласее новы ураджай:
Уся Зямля ў вясновым красаванні,
Зялёны ветразь падымае май.
1965

**ЛЮБОЎ**

Мой даўні боль —
Любоў мая,
І радасці, і клопат

Растуць і множацца ўдвая,
Нібы на шчасце попыт.
З чаго прызнанне мне пачаць?
Як да цябе звярнуцца?
Бо пра любоў часцей маўчаць
Ці шэптам прызнаюцца.

Любоў мая —
Зямля мая,
Адзіная да болю,
На ўсё жыццё прыкуты я
К табе па ўласнай волі.
Твае узлёты —
Мой узлёт,
Пралік —
Мае пралікі,
Таму і сэрца з году ў год,
Нібыта звон вялікі,

У грудзі б’ецца і гудзе,
І спаць яго не ўкласці —
Яно пакутуе ў бядзе
І радуецца ў шчасці,
А хто «Люблю,
Люблю, люблю!»
На кожным кроку трубіць,
Асобу любячы сваю,
Нічога больш не любіць.
1966

* * *

Мне дзве каханыя спакою не даюць.
Адну люблю з маленства і да скону:
Яна пяе і разам з ёй пяюць
Дажджы і травы, воблакі і клёны.

Яна мяне ў наступны кліча век,
Дае тугія крылы для палёту,
У поўнач дакранаецца павек
І прымушае брацца за работу.

Мне без яе хвіліны не пражыць,
Бо перасохнуць і душа, і рэкі,
У пушчу, не азваўшыся, збяжыць
І змоўкне напалоханае рэха,

Ад шчасця не аглухнуўшы, глушцы
Забудуць пра шчаслівую хвіліну,
Затупяцца сталёвыя разцы,
Не ажывіўшы мармур або гліну.

Другая мне каханая штодня
Расказвае пра радасці і слёзы.
Яны абедзве — блізкая радня,
Адна паэзія, другая — проза.
1966

**НЯПІСАНЫЯ ЛІСТЫ**

Дзе ўзялі такую моду
Дарагія землякі —
Пасылаць мне слоік мёду
І паўторбачкі мукі?

Аглядаю ўсё дазвання
І дзіўлюся, што няма,
Як бывала, прывітання,
Ні запіскі, ні пісьма.

Што ж пісаць, калі і гэтак
Сам павінен зразумець,
Што за лета з нашых кветак
Можна тону мёду мець.

Паспытаў, здалося — ліпень
Увайшоў у мой пакой:
Пахне дзяцельнік і скрыпень,
Пахне мятай за ракой,

Вее спелымі лугамі,
Белай грэчкаю — здаля,
Жытам, просам, пірагамі
Пахне глуская зямля

І пшанічным пульхным хлебам,
Што падходзіць і расце.
Вось і прачытаў, што трэба,
Я ў няпісаным лісце.
1966

* * *

З гадамі маленства здаецца бліжэй —
І памяць зацягвае вузел тужэй,
Звязаўшы канец і пачатак.
Я ўсё прыгадаў і хачу, каб і ты
Пачуў, як на грэблях бубняць капыты,
Як ціха спяваюць дзяўчаты.
Хачу, каб успомніў начлежны касцёр,
І зорнага неба высокі шацёр,
І конскае ў змроку іржанне,
На выгане дымны заблытаны след,
І мокрыя травы, і ліпавы цвет,
І ядраны холад світання.
Напэўна б са светам расстаўся лягчэй,
Каб тых не прыпомніў кастроў і начэй,
Каб дзічкі вясной на мяжы не цвілі,
Каб песень купальскіх не чуў аніколі,
Каб жытам не пахла асенняе поле,
Каб так не любіў беларускай зямлі.

## ЭЛЕГІЯ

Мяцеліца ў завулках вые,
Заносіць снегам бальшакі,
Заледзянелі маставыя,
І ледзь паўзуць грузавікі.
Вязуць жалеза, бэлькі, блокі,
Асфальт гарачы, як агонь.
Відаць — у кузаве здалёку
Матляецца самотны конь,
Худы, калматы, заінелы,
Сагнуўшы шыю, з вышыні
Глядзіць трывожна і нясмела
На мітуслівыя агні.
Куды цябе вязуць, буланы?
Чаму замоўклі капыты?
Ці ў чорны графік не зарана
Ужо запісаны і ты?
Падковы ж для цябе кавалі
З найлепшай сталі кавалі,
І людзі помнікі стаўлялі
Табе амаль па ўсёй зямлі.
Ты ў бой ляцеў, прымаў парады,
Ты ў шахце за траіх рабіў
І кожнай бабскае брыгады
Адзінаю апорай быў.
І воз, і плуг цягаў да поту
Ты, ветэран другой вайны,
І вось знялі цябе з работы —
З палка, з абоза, з баразны.
Ты не апошні конь па свеце.
Цябе заменіць мalady.
І ўсё ж дапытваюцца дзеці:
«Куды яго вязуць? Куды?»

## ВЕНЕРА

Мяняюцца напрамкі і манеры
І новыя з'яўляюцца штодня,
Ды толькі не мяняецца Венеры
Святая прыгажосць і чысціня.

Яна спазнала забыццё і холад,
Яна перацярпела ўсё, што ёсць,
Ды не змаглі ні час, ні цяжкі молат
Ні засланіць, ні знішчыць прыгажосць.
1966

## ДРУГІ ПАРЫЖ

Парыж мне сніўся
І не раз прысніцца
З бульварамі,
З ухмылкамі хімер.
Грукоча у завулках калясніца
На плошчы

Памірае Рабесп’ер.

Парыж! Парыж! —
Заканадаўца моды.
Прыдуманы
Ці вычытаны мной:
Вось на званіцы
Плача Квазімода,
Эжэн Пацье
У апошні кліча бой.

Другі Парыж,
Другі і той жа самы:
Наўкол жывуць
Гісторыі сляды:
Стагодні пыл
Над вежамі Нотр-Дама,
Масты
І плошчы Згоды і Звязды.

Другі Парыж,
Не бачаны ніколі,
Ты ці не ты
Пад сонцам і дажджом?
Шумяць лістамі
Тонкія таполі,
Каханых атуліўшы,
Як плашчом.

Спяшаецца Парыж,
Смяецца, плача,
Радэнаўскі «Мысліцель»
Уначы
Прыпамінае страты і няўдачы,
Але нічым
Не можа памагчы.

Ён думае.
Яму даўно не спіцца,
Ён верыць
У загаданыя сны,
У «Чырвоны пояс»
Вечнае сталіцы,
У сілу праўды,
Міру і вясны.

Гляджу з вышыняў
Плошчы Тракадэра,
Як ты снуеш,
Іскрышся і гарыш.
Я пазнаю цябе
І цвёрда веру
У сённяшні
І ў заўтрашні Парыж.
1966

## РЭКЛАМНЫ БУСЕЛ

*Сержу Бярэжнінаву —*
*рускаму парыжаніну*

Стаіць самотны, у глыбокай скрусе,
У абшарпанай колішняй красе,
З чырвонай дзюбаю рэкламны бусел,
Пагойдваючыся на аднойназе.

Пад ім — кафэ, над ім — гатэль
прыгожы,
За парапетам плешчацца вада,
А ён спрабуе і ніяк не можа
Пакінуць бутафорскага гнязда.

Ляцяць буслы над Эйфелевай вежай,
І кружацца, і клічуць: «Паляцім
На ціхія азёры Белавежы»,
Але маўчыць маркотны пабрацім.

Яго даўно не слухаюцца крылы,
І пер'е пацямнела ад тугі,
Што не пабачыць сонечнага Ніла
І беларускіх рэчак берагі.

## ДЭЛЬФІНЫ, ЧАЙКІ І ПІЛОТ

І дзень і ноч — адна Марока:
Салёны вецер рэжа твар,
Спякотай дыхае Марока,
Аж закіпае Гібралтар.

Яшчэ ахутаны смугою
Вяршыні афрыканскіх скал,
Грывастай пенаю, тугою
У бераг б'е дзевяты вал.

Над хвалямі ільсняцца спіны,
То зноў у пене прападуць,—
Нібыта лоцманы, дэльфіны
Нас у фарватэры вядуць.

За цеплаходам — завіруха
Біскайскіх чаек, белых крыл,
Яны крычаць, і стогнуць глуха,
І ўслед ляцяць з апошніх сіл.

У прорву падаюць таропка
І гойдаюцца на вадзе…
А ў ясным небе кружыць кропка,
Расце, зніжаецца, гудзе.

То на крыло спакойна ляжа,
То дзюбу звесіць, як сава,

І на хвасце і фюзеляжы
Чарнеюць знакі «USA».

Здаецца, штормы заміраюць
І чаек болей не відно,
Дэльфіны стогнуць і ныраюць,
І скаты коцяцца на дно.

На лётчыка гляджу з папрокам:
Дэльфінаў не відно, ні рыб...
Смуга над горамі Марока
Ўсплывае, быццам белы грыб.

Скажы, пілот, чаго шукаеш?
Які табой кіруе страх?
Куды ляціш? Куды знікаеш,
Убачыўшы чырвоны сцяг?
1966

## ЭЙФЕЛЕВА ВЕЖА

> «З Эйфелевай вежы скінулася
> ўжо трыста самагубцаў».
> *(Паведамленне парыжскага гіда)*

Трывалыя сталёвыя мярэжы
Трымаюць рэстаран і павільён,
На трох паверхах Эйфелевай вежы —
Турысты ўсіх народаў і плямён.

Адны ніжэй, другія — аж пад хмарай
Спакойна п’юць «марціні» і віно,
На стол кідаюць франкі і даляры,
Нібы тасуюць карты ў казіно,

А дзеўчына з арабскага раёна
Пазычыла тры франкі на пад’ём...
«Бывай, бывай, Вапдомская калона,
Булонскі лес і мой бляшаны дом!»

Яна ніколі ўжо не верне доўгу,
Сябрам ніколі не працягне рук,—
Апошні крок, апошні крык, і доўга
Яна ляціць і падае на брук.

Буфетчык кажа: «Ўсякае бывае»,
А у мяне цямнее уваччу:
«Не, самагубцаў хтосьці забівае»,—
Я сытаму буфетчыку крычу.

Натоўп расходзіцца, паехала машына.
Струменямі іскрыстае вады
Маўклівы абыякавы мужчына
Змывае з бруку ліпкія сляды.
1966

## ГРЭШНЫ ГОРАД

Дажджынкі за акном закапалі,
Прымялі мокрую траву,
А мне здаецца, што ў Неапалі
І ў Рыме сонечным жыву.

Стаю пад парасонам пініі
Ля ватыканскае сцяны
І жмуруся на неба сіняе,
Дзе гулка бомкаюць званы.

Усе чатырыста касцёлаў
Склікаюць грэшных на імшу
І пераразвонам невясёлым
Трывожаць кожную душу.

Ідуць манахіні ў сутанах
І сыты ксёндз з капелюшом,
А ў кіяскёраў між іконак танных —
Паштоўкі грэшніц целяшом.

Усё, што трэба, прадаецца
Турыстам юным і старым.
Гудзе арган, а мне здаецца —
Найбольшы грэшнік — вечны Рым.

Граміла з крыжыкам на шыі
Зноў спавядальніка кране
Прызнаннем: «Сёння саграшыў я
І то не па сваёй віне».

Гандлюе, моліцца, гаруе
Набожны Рым і б'е ў званы,
Грахі нягоднікам даруе,
Каб паўтаралі іх яны.

Дзе больш грахоў,— найбольш касцёлаў,
Скалечаных і чорных душ...
За Ватыканам невясёлы
Рагоча рымскі Мулен Руж.
1966

## ЖОЛУД

Пад шэлест лісця, пад птушыны спеў,
Апалены пякельнай навальніцай,
Расой абмыты, вырас і даспеў
Тугі, каляны жолуд над крыніцай.

Ад ветру ён увосень трапятаў
Паміж лістоў пакручаных і шэрых,
Хапаўся за галінкі і... упаў
На заінелы вытаптаны бераг.

Яго вятры качалі па траве,
Дажджы хвасталі і пранізваў холад,

Дрыжаў, парэпаўся, а ўсё-такі жыве
Тугі, каляны пераспелы жолуд.

Ён парасткам схапіўся за зямлю,
Каб перасіліць і адолець згубу
І сілу перадаць таму галлю,
Што стане кронай будучага дуба.
1966

## АСЕННІ ДЗЕНЬ

Дзень па-асенняму кароткі
Губляе пер’е і луску,
І перавернутыя лодкі
Гудуць на стоптаным пяску.

Празрыста, пуста і сцюдзёна.
Бярэзнік, як манетны двор,
Чаканіць золата штодзённа
І шчодра кідае ў касцёр,

Што задыміўся верасамі,
Што тлее жарам журавін
І над знямелымі лясамі
Шугае полымем рабін.

Ляцяць лісты з няўлоўным рэхам,
Заносяць сцежкі і сляды,
І мне здаецца, пахнуць снегам
Мае наступныя гады.

## ПЦІЧ

Не гані гусей дахаты
І не кліч,
Глянь, зрабілася крылатай
Рэчка Пціч.

Крылы белыя лапочуць
На Пцічы,
І, здаецца, гусі хочуць
Уцячы
На шырокія азёры
З асакі,
Ды стаяць, як у дазоры,
Гусакі.

Перасохла, абмялела
Рэчка Пціч.
Не махай хусцінкай белай
І не кліч
Ні гусей, ні шызых качак
На лугі,
Бо рака без іх заплача
Ад тугі.
1966

**СЕЙБІТ**

Плыве, як човен, вузкая труна
Над полем, над пажоўклымі жытамі
Дзяды, кабеты і малыя дзеці
Хаваюць сейбіта, аратага, касца.

Хаваюць без аркестраў, без вянкоў,
Без ганаровай варты і прамоўцаў,
Без ордэнаў і гучных некралогаў,—
У полі толькі гнуцца каласы.

Ён пяцьдзесят разоў пасеяў жыта
І пяцьдзесят разоў абмалаціў,
Ён пяцьдзесят гадоў карміў уволю
Людзей, якіх ні разу не сустрэў.

Ніхто яму не дзякаваў ніколі,
Не ўспамінаў за шумнаю бяседай
Імя таго, хто малаціў і сеяў
І аддаваў усё, што мог аддаць.

Хаваюць сейбіта.
Маўчаць дзяды, а дзеці
Нясуць у жменьках звялыя рамонкі,
Яго праводзіць да пагосту сонца,
Якое ён заўсёды сустракаў.

Стаяць бярозы ў ганаровай варце,
Лятаюць ластаўкі над вузкаю труною,
Над пыльнаю дарогаю у жыце,
І журацца пры студнях жураўлі.

Ён першы раз патурбаваў вяскоўцаў,
І ўпершыню яго ўзнялі высока
Мужчыны над жытнёвымі палямі,
Дзе плачуць ластаўкі і гнуцца каласы.

**КРЫЛАТЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ**

*Герою Савецкага Саюза*
*Надзеі Васільеўне Паповай*

Пасля санбатаў на гарачым целе
Яшчэ смылелі раны і рубцы.
І зноў на «кукурузніках» ляцелі
Дзяўчаты на Растоў і на Клінцы.

Для іх былі бранёй камбінезоны,
Іх закрывалі хмары з галавой,
А ўнізе дагаралі гарнізоны
І захлынаўся шквал перадавой.

Гарэзлівыя грозныя дзяўчынкі,
Яшчэ не цалаваныя нікім,
Ляцелі ў пекла і без адпачынку
Бамбілі і ўзнімаліся над ім.

Здавалася, іх абмінаюць кулі
У бітвах за Дняпро і за Дзісну
Хоць кожнай з іх зеніткі, як зязюлі,
Прарочылі каханне і вясну.

Яны ж ляцелі жураўліным клінам
Насустрач перамозе і агню.
І, зняўшы шлемафоны пад Берлінам,
Заплакалі ад шчасця ўпершыню.
1966

**ПРАЎДА**

Жыўцом палілі праўду на лаўжах,
Свінцом гарачым залівалі глоткі,
За праўду распіналі на крыжах,
На катарзе закоўвалі ў калодкі.

Круцілі рукі, адымалі зрок,
Зірнуць у вочы праўдзе баючыся,
І, за спіною ўзводзячы курок,
Няскораным крычалі: «Адрачыся!»

Ішлі у душагубкі, на крыжы
Падпольшчыкі, матросы і радысты,
І грозна на апошнім рубяжы
За праўду паміралі камуністы.

Жыццём не паскупіліся яны,
Зямлю крывёй гарачай акрапілі,
Каб іх паплечнікі і верныя сыны
Заўсёды толькі праўду гаварылі.
1966

* * *

«Раскажыце пра свой творчы, шлях».
*(Запіска на літаратурным вечары)*

Што ж расказаць пра ўласны творчы шлях?
Які там шлях! — няроўная сцяжынка,
Што пачалася ў веснавых палях
І прывяла адразу на дажынкі.

На ёй былі драсён і колкі мох,
За ёю — пералескі і аблогі,
І я спачатку зразумець не мог,
Куды вядуць гасцінцы і дарогі.

Мне роўных бальшакоў не выбіраць
Ні восенню, ні летам, ні вясною.
Я навучыўся сеяць і араць
І распісаўся першай баразною.

Я ставіў даты вокнамі на ўсход,
Укладваў на таежных трасах шпалы
І ведаю, што будуць з году ў год
Яны служыць надзейна і трывала.

У сцюжу іх снягі не замялі,
Не разышліся вушакі і дзверы.
Я рад, што след пакінуў на зямлі,
А вершы — толькі на паперы.
І ў сэрцах...
1966

* * *

Ступаю вобмацкам па лесе,
Дзе ўсё заткалі павукі,—
У вочы то ігліца лезе,
То шчокі драпаюць сукі.
Мільгнуў агеньчык паміж вецця.
Бягу, спыняюся ля пня:
Свіціцца нешта, ды не свеціць,
А дакрануўся — парахня.

* * *

Іскрацца промні ў чыстых кроплях,
Курыцца парудзелы дах.
Вясна па леташніх каноплях,
На яблынях і правадах

З крышталю вешае званочкі,
Адкрыла ўзгоркі і груды,
Звіняць у трубах і у бочках
Струмені колкае вады.

Вадой булькоча поўны жолаб,
Над ім лятае мокры птах,
А на зямлі азімак-жолуд
Цяплом і вільгаццю прапах.

Булькочуць стромкія струмені...
На чорным лапіку грады
Грабуцца і склікаюць пеўні
На свята сонца і вады.
1966

* * *

Ушчэнт ступіліся парогі,
Валы прысталі на раллі,
Глядзяць зацята і на рогі
Барвовы месяц паднялі.

Стапталі леташняе сена
І ловяць ноздрамі вясну,
А трактары вядуць на змену
За баразною баразну...

Даўно ў музей здалі нарогі,
Ярмо, налыгач, пасталы,
І на спакой уздоўж дарогі
Ідуць рагатыя валы.
1966

## ДЗЕЦІ ПАМІРА

Пікі Паміра белыя-белыя,
Дзеці Паміра смелыя-смелыя.
Вецер калыша калыскі над кручамі,
След замятае снягамі сыпучымі,
Плечы ўкрывае сівымі аблокамі,
Поіць зямлю навальнічнымі сокамі.

Твары памірцаў чаканены з медзі,
Дзеці Паміра з арламі суседзі.
Звонкія песні і клёкат арліны
Бурныя хвалі нясуць у даліны,
Падаюць зоры ў імклівыя рэкі
І узыходзяць агнямі Нурэка.

Смелыя, гордыя, горныя дзеці
Першымі сонца страчаюць на свеце,
На перавале, накрыўшыся хмараю,
Мудрасць сівая ідзе за атараю
Сцежкай крутою — хай прорва, хай яма,
Песні складаюць унукі Хаяма.
Горда глядзяць, усміхаюцца шчыра
Добрыя, мудрыя дзеці Паміра.

## ГРАНАТЫ

Як песню юнацтва,
Як словы «Грэнады»
Мы ўсе паўтаралі: «Гранаты, гранаты».
Былы падрыўнік і ў запасе салдат
Прыпомнілі звязкі гарачых гранат...
Гранатамі пахне ў Гісарскай даліне,
Гранаты даспелі на кожнай галіне —
Нібыта сузор'і наўкол узышлі,
І грэюць, і свецяць, і ззяюць высока,
А лопнуць,— каменні апырскаюць сокам
І вернуць даспелыя зерні зямлі.

Куды ні зірнеш — каля кожнае хаты,
На ўзгорках, дарогах — гранаты, гранаты.
Пагодную восень прыносяць далінам
Гарачага сонца і хмар пасланцы,
Насустрач гранаты нясуць мудрацы,
І добрыя сэрцы яны аддалі нам.

Гаворыць сівы, у чалме Абдуло:
— Каб цёпла і светла на свеце было,
Каб пелі рубобы, ігралі барбаты,
Каб вусны ірдзелі ад соку ў дзяўчат,
Каб людзі забылі пра попел і чад,
Няхай асыпаюцца толькі гранаты
З рубінавым сокам і шротам зярнят.
1966

**АРГАННЫ КАНЦЭРТ**
**У КАСЦЁЛЕ**

Думаў я, жартаўнік дзеля смеху
Мне прыслаў запрашальны білет
У касцёл прасвятога Вайцеха
На вялікі арганны канцэрт.

У касцёле канцэрт, а не меса?!
Але зранку даводзяць і мне
І сябры, і мясцовая прэса,
І афішы на кожнай сцяне.

Бах, Чайкоўскі, Гуно, Маліп’ера
У Апаве пад ціхім дажджом,
Надвячоркам касцельныя дзверы
Адамкнулі скрыпічным ключом.

Задрыжалі скляпенні крутыя:
Гром змяняе мяцеліцы свіст,
І глядзяць, і зайздросцяць святыя,
Што ўладарыць душой арганіст.

Разгараюцца страсці і спрэчкі,
Запякаецца кроў на губах,
Бутафорскія ўсхліпваюць свечкі,
І калоны разгойдвае Бах.

З неадольнай журбой жураўлінай
Рэжа хмары запознены клін,
І ляцяць над завулкамі Кліна
Пераспелыя гронкі калін.

Растрывожыла дальняе рэха
Некранутыя тайны душы,
Да іiасцёла святога Вайцеха
Дакаціўшыся з волжскай глушы.

Спавядальні, крыжы і калоны
У касцёле дрыжаць і гудуць.
Змоўк арган.
У балоннях мадонны,
Як са споведзі, моўчкі ідуць.
1968

**ЧУЖАЯ ВЯСНА**

Іскрыліся па зломах крыгі,
Па плыні пасівелых вод
Павольна адыходзіў з Рыгі
Услед за сонцам цеплаход.

Ён рассякаў салёны вецер,
Туман і золкую імжу,
Ніхто адразу не прыкмеціў,
Як перасеклі мы мяжу.

Здалёк халоднае світанне,
Няпэўнае ў сваіх правах,
Крычала чайкамі ў тумане
На камяністых астравах.

І ад натугі ў кожнай хвалі
На грыве выступала соль,
І нечакана выплывалі
Прычалы, мачты і... Стакгольм,

Невымерны, непрыбраны,
Яшчэ заспаны і пусты,
Здалёку кланяліся краны
І выгіналіся масты.

Дзесяткі мытнікаў старанных
Як ні шукалі, не змаглі
Таго знайсці у чамаданах,
Што мы у сэрцах берaглі.

Цыбатыя сухія шведы
Па вуліцах з усіх бакоў
Іржавыя веласіпеды
Вялі, нібыта ганчакоў.

Па плітах цокалі абцасы,
Крычаў газетчык навіну,
А школьніцы гулялі ў «класы»
І клікалі сваю вясну.

Як бацяны на доўгіх лапках,
Шпацыравалі спакваля
Гвардзейцы ў медзвядзіных шапках
Уздоўж палаца караля.

Па плошчы галубы снавалі,
Ішоў пахмуры чалавек,
L.дзіўна: побач існавалі
Манархі і касмічны век.

Упершыню адчулі боль мы
І смутак па сваёй вясне,
Калі над плошчамі Стакгольма
Кружыўся мокры майскі снег.

**ІНГЕЛА**

Нічога не забыў, нішто не адбалела.
То лепіць снег, то дробны дождж імжыць,
У плашчык загарнуўшыся, Інгела
Па Каралеўскай вуліцы бяжыць.

Наўкол дрыжаць агні халодным бляскам,
Плывуць з далёкай казкі астравы,
Але Інгела больш не верыць казкам,
Што ёй Стакгольм расказвае сівы.

Сярэднявечча грозным напамінкам

Маўчыць палац старога караля,
А пад нагамі тоненькай дзяўчынкі,
Нібыта глобус, круціцца зямля.

І ўсё далей, усё далей ад казкі,
У цяжкі сон і ў непазбежны сум,
Бо ёй агідлі гіда абавязкі,
Штодня галоп і аднастайны тлум;

Турыстамі пратоптаныя сцежкі,
Тугія каркі, сінія насы,
Канторай спланаваныя усмешкі
І жарцікі адны на ўсе часы.

А ёй бы ўласнай радасці хоць трошкі,
Сапраўднай ласкі, добрай цеплыні.
Яна ж адна ў каморцы зноў панчошкі
І кофтачкі цыруе дзень пры дні.

Каб выглядаць бясклопатнай дзяўчынкай,
Спяшаючыся ў «Каралеўскі грот»,
Хавае мікрафончыкам маршчынкі,
Што павуцінкай аплятаюць рот.

На беразе Балтыйскае затокі
Мне і дагэтуль чуецца здаля,
Як цокаюць абцасікі у змроку
І пад нагамі круціцца Зямля.
1967—1969

**НЕПАГАДЗЬ**

Хоць непагадзь не навіна,
Нібы прывязаны на кордзе,
З відна таптаўся да відна
Ў Берлінскім я аэрапорце.

Плылі аблокі чарадой
Над полем і суседнім лесам,
І ўжо здавалася бядой,
Што адмяняўся рэйс за рэйсам.

Дождж то сціхаў, то церусіў,
А ў порт ішлі бесперапынна
І кадзілакі і таксі,
І ўсё з Заходняга Берліна.

Паважныя цывільныя чыны
Садзіліся, закурвалі цыгары,
І пільна углядаліся яны
На ўсё праз шкельцы акуляраў.

Мужчына, круглы, як камель,
Сядзеў надзьмуты і пахмуры,
А мне стары яго партфель
Здаваўся з чалавечай скуры.

Не, я з пытаннямі не лез,
Ледзь-ледзь валодаючы мовай,—

Пра ўсё мне расказаў пратэз
Суседа з выпраўкай вайсковай.

І ўспомніўся счарнелы снег,
І падарваныя на міне...
Магчыма, ён з паходняй бег
Да Рудабелкі і Хатыні,

Расстрэльваў, вешаў, распінаў
На плошчах і на раздарожжы.
І так цягнуўся, што спіна
Сагнуцца аж дасюль не можа.

І стала на душы нядобра,
Бо і дагэтуль па начах
Мне сняцца ў тым партфелі кобры
З боегалоўкамі ў вачах.

Я з порта выбег, хоць гулі
Халодны дождж і вецер колкі,
Ды раптам неба абнялі
Дзве каляровыя вясёлкі.

Я ўзрадваўся, як навічок,
Калі ўзнімаліся над лесам:
І тэльманаўскі свой значок
Мне падарыла сцюардэса.

**РАЗМОВА З МАЦІ**

Я ўсё шукаю матчыну магілу
І не магу знайсці пасля вайны.
Дзе бэз буяў і крыж стаяў пахілы,
Сівыя адцвітаюць палыны.

На могільніку бомбавыя ямы,
На соснах — абламаныя сукі,
Крышылі іх і «юнкерсы», і «рамы»,
Грамілі мерцвякоў штурмавікі.

Цяпер спакой і ціша на пагосце.
У добрую асеннюю пару
Прыходжу я сюды, да маці ў госці,
І ўсё, што набалела, гавару.

Яна жыве у памяці заўсёды,
Яна — ў крыві, у сэрцы і ў душы,
То жне, то сцеле лён у непагоду,
То месіць хлеб на досвітку ў дзяжы,

То абувае лапці на узмежку,
То ціхенька ўздыхае па начах,
І радасці, і гора, і усмешку
Я пазнаю ў зажураных вачах.

Яна мяне люляла і лячыла,
Збірала зёлкі, травы і кару,

Яна мяне з маленства навучыла
Так гаварыць, як сёння гавару.

Пакуль жыву, жыве са мною маці:
Ідзе жытнёвай сцежкай за сяло,
Збірае ў полі жыта да зярняці,
Каб кожнае сцяблінкай узышло.

У нівах, што красуюць і сягоння
І зіхацяць іскрынкамі расы,
Згінаюцца, калышуцца, гамоняць
І матчыны, напэўна, каласы.

Ты чуеш, мама, вось твае унукі;
З маленства ім цябе недастае;
У іх такія жылістыя рукі,
І валасы, і вочы, як твае.

Тваім унукам свет увесь адкрыты,
І мрояцца, напэўна, нездарма
Далёкія блакітныя арбіты...
Ідзе жыццё.
Жыццю канца няма.
1969

**РЭХА**

*Памяці Мікалая Рыленкава*

Я кажу: снежань,
Ты кажаш: сняжніца —
З чыстага слова бруіцца крыніца,
І адгукнецца журбой жураўлінай
Светлы ручай пад старою ялінай.
Свістам сініцы, хрустам ільдзінак
Сцюжа з вясной пачала паядынак:
Сыплецца іней з вільготнага голля,
Песня булькоча ў застуджаным горле.
З ранку адліжыць, а з вечара снежыцца.
Выблісне сонца — і песня праржэжацца,
Свістам ударыць, рассыплецца звонам,
Лес адгукнецца ёй рэхам зялёным.
І загрыміць, і па свеце пакоціцца —
З чыстай расінкі крыніца народзіцца.

Толькі не ўбачаць цябе пералескі
І не пачуюць узвышшы Смаленска.
1969

## ЯБЛЫКІ

На Беларусі яблыкі паспелі
І глуха асыпаюцца на дол,
А па дарогах коцяцца вяселлі,
Зямля гудзе, нібы святочны стол.

Праслаўленая подзвігам высокім,
Увітая вянкамі каласоў,
Зямля набракла загусцелым сокам
І мёдам пераспелых верасоў.

Сыходзяцца гаспадары і госці
У шчодрыя асеннія сады,
Глядзяць здалёк і маладым зайздросцяць
Бацькі і пасівелыя дзяды.

Схаваўся месяц за старыя дрэвы,
Асенні сад стаіўся і прыціх,
І толькі чутна, як Адам і Ева
Кусаюць спелы яблык удваіх.

## ЗВАНЫ

Не верыў ён ні ў д’ябла,
і ні ў бога,
Ні ў казкі заімшэлай даўніны,
Але былі адхланнем для глухога
Раскацістыя гулкія званы.

На самы верх па выбітых прыступках
Ён уцякаў ад смутку
і журбы,
Там на плячо садзіліся галубкі
І лапаталі крыллем галубы.

Ён углядаўся у лясныя нетры,
Глядзеў на луг
і хвалі ярыны
І ўсёй душою слухаў,
як ад ветру
Гулі і ледзь гайдаліся званы.

Часамі вочы поўніліся жалем,
Калі глядзеў наўкола з-пад рукі,
А на званіцы жаласна дрыжалі
Напятыя жывыя языкі.

Ён ведаў іх і мову, і натуру,
І голас, і настрой, і лад, і склад.
Калі вызвоньваў святы і хаўтуры
І калі звон разгойдваў
як набат.

Маланкі ў поўнач рассякалі хмары,
І шыліся ў падстрэшша кажаны.
Пра гора, пра паводкі і пажары

Гулі, стагналі, плакалі званы.

А скаланула неба навальніца
Раскатамі не грому, а вайны,
Хіснулася старэнькая званіца,
І змоўклі анямелыя званы.

Цягнула дымам з недаспелых ніў.
Па званары ніхто не пазваніў.
1969

* * *

Калі прыходзіць неспадзеўна сталасць,
Каб не губляцца між дабром і злом,
Прайдзі выпрабаванне на трываласць,
На непахіснасць, на разрыў, на злом.

На плыткай плыні, недзе ў самым нізе,
У вусці незнаёмае ракі
На хісткай кладцы ты не пахісніся,
Калі прайсці патрэбна напрасткі.

Адкінь нікчэмны і здрабнелы клопат
І не вагайся: «Быць або не быць».
У спадчыну ж табе дастаўся вопыт
Тварыць дабро, як дыхаць і любіць.

Застацца лепей сейбітам патомным,
І шчодрым і ашчадным назаўжды,
Не дробязным, а ў дабраце нястомным,
Як нашы продкі і дзяды.

**КАРШУН**

Доколе коршуну кружить?
*А. Блок*

Наўкол лясы,
Лясы, лясы,
За кожнай хвояй таямніцы,
І не змаўкаюць галасы
То гарыхвосткі, то сініцы.

Смалою заплываюць пні,
У жабурынні млеюць лужы,
А ў недасяжнай вышыні
Каршун злавесны плаўна кружыць.

То замірае ў віражы,
То долу падае з размаху:
Змаўкаюць птушкі,
а вужы
Хаваюцца ў лаўжы ад страху.

Каршун расправіў кіпцюры
І, як пракляцце, адзінокі
Ахвяру высачыў з гары

Крывёю набрынялым вокам.

А птушаняты у гняздзе
На дапамогу маці клічуць.
Згарнуўшы крылы, упадзе
Каршун на кволую здабычу.

Трашчаць сукі, а ў цішыні
Адчаю стогн і крык бяссілля…
І зноў у сіняй вышыні
Лапоча каршунова крылле…

Наўкол лясы, лясы, лясы,
А над лясамі хцівы, дужы,
Як і ў даўнейшыя часы,
Яшчэ каршун злавесна кружыць.

З трывогай пазіраю ў неба,
Хоць і не веру ў сілу зла,
І добра ведаю, што трэба
Часамі вострая страла!
1969

## ХВІЛІНА МАЎЧАННЯ

Хвіліна маўчання. Хвіліна маўчання,
І цішыня сцеражэ цішыню.
Толькі на ветры
Жывым хваляваннем
Б’ецца гарачае сэрца агню.

Вочы заплюшчы
І памаўчы —
Слухай
Святую хвіліну маўчання:
Спяць ленінградцы,
Спяць масквічы,
Сібіракі, украінцы,
Мінчане.

Разам палеглі яны маладымі,
Сейбіт і дойлід, каваль і паэт.
Неба звалілася ў хмарах і ў дыме,
Глеба асела, рассыпаўся свет.

Сейбіту свежай запахла раллёю,
Дойлід аслеп ад дзівоснай красы,
Выкаваў сонца каваль над зямлёю,
Песня скацілася кропляй расы.

І цішыня,
Цішыня,
Цішыня —
Кроўная спіць у абдымках радня.
Маці, не плачце,
Вашыя дзеці
Вечна жывымі сузор’ямі свецяць.

Вецер пялёсткі над плошчаю кружыць,
Косы завеяны чэрвеньскай сцюжай,
Сцюжай далёкага чорнага года,
Пылам паходаў
І соллю паходаў:
Муж не вярнуўся,
Сын не вярнуўся,
Плачуць прысады па ўсёй Беларусі.

Людзі, маўчыце толькі хвіліну!
Людзі па стратах і святах радня,
Думаць павінны, адказваць павінны
За сонца і стронцый наступнага дня.
Людзі, маўчыце. Не болей хвіліны!

**НА СІБІРСКІМ ТРАКЦЕ**

Коні захлынаюцца ад сцюжы,
Лейцы задубелі, аж трашчаць,
Завіруха над сумётам кружыць,
Сцішыцца, каб нанава пачаць.

Сыкае сухімі языкамі,
Засцілае снегам белы свет,
Дзень і ноч гудзе над бальшакамі,
Следам замятае свежы след.

Коні захлынаюцца ад ветру,
Грузнуць у сумётах, шыі гнуць,
Хоць бы чатырнаццаць кіламетраў
Завідна да вёскі дацягнуць.

...Кожная нягода прамінае.
Вось знаёмы пяцісценны дом
З шыльдаю кароткаю «Чайная»,
З песнямі, пельменямі, вінОм.

У зацішным нізенькім прыгоне
Ціха і глыбока, як праз сон,
Уздыхаюць зморaныя коні,
Хрумстаючы сенам і аўсом.

У чайной накурана і цесна,
Звалены ў парозе кажухі,
Хмельная прастуджаная песня
Крумкача сагнала са страхі.

Тут пяюць, ядзяць і п’юць не меней,
Бо на сотню вёрст усе свае,
Шклянкі і гарачыя пельмені
Статная дзяўчына падае.

Леснікі, шафёры, лесарубы
За яе здароўе п’юць да дна,
Сцюжаю апаленыя губы
Ціха шэпчуць: «Ты ў мяне адна».

Скачуць хлопцы каля дзеўкі,
Сыплюць частыя прыпеўкі:
«Вуллі знесены ў амшанік,
Дровы складзены ў двары.
Мне не трэба цёплых шанег,
Ты мне сэрца падары».

«Ой ты, Машка, ой ты, Машка,
Я цябе даўно прашу,
Каб замест густое бражкі
Аддала сваю душу».

«Вось твае пельмені з перцам,
І каціся ад стала,
Бо даўно душу і сэрца
Я другому аддала».

Павяла крутым плячом дзяўчына,
У вачах — усмешачка і злосць,
А з парога яснымі вачыма
Усміхаўся заінелы госць.

Можа, стала дзеўчыне няёмка,
Можа, зачакалася даўно…
Толькі ўсе пачулі, як пазёмка
Білася ў настылае акно.

Павітаўся хлопец для парадку,
Юшкі папрасіў і чабана…
А ў вачах Кучумавых нашчадкаў
Бліскалі іскрынкі Ярмака.

**РАЙБАЛЬНІЦА**

Хоць райбальніца і не рай,
Але заўжды пярэдні край:
Як на пазіцыі ляжы,
І боль, і смерць перамажы.

Паціху бразне аканіца,
Над студняй жораў зарыпіць,
Усё заснула, а бальніца
Трывожна стогне і не спіць.

У поўнач вецер аціхае,
А тут з-пад стомленых павек
Глядзіць у цемень і ўздыхае
Распяты болем чалавек.

Гараць патрэсканыя вусны,
І твар, і галава ў агні,
Здаецца, зараз сэрца хрусне
І захлынецца ў цішыні.

Аслаблыя звісаюць рукі,
У скроні стукаецца кроў,
Ды раптам ажываюць гукі
І крык далёкіх жураўоў.

У доўгі калідор бальніцы,
У растрывожаныя сны
Уварваўся грукат навальніцы
Раскатам ранняе вясны.

І шыба трэснула са звонам,
Прысады глуха загулі —
Бальніца дыхала азонам
І духам цёплае раллі.

Па бліскавіцы гром ударыў,
Дождж разышоўся па двары,
Мільгалі ў чорным полі фары
І ракаталі трактары.

Каб толькі зноў не стала ціха,
Каб звонка плакала дзіця,
І каб крычала парадзіха
Пра шчасце новага жыцця.
1969

## ПРАЛЕСКІ

Дурманілі ядловец і смала,
І на таполях клейкія пупышкі,
І ты набгом бярозавік піла
З халоднай запацелае гладышкі.

Па кроплі сок, салодкі і густы,
Сцякаў на мох і леташнія трэскі.
Ад радасці аж закрычала ты:
«Глядзі, пралескі! Першыя пралескі!»

Я з іх у росах, буйных, нібы ртуць,
Хацеў табе букецік скласці.
«Не трэба, не чапай. Няхай растуць
Другім на радасць, некаму на шчасце».

З таемнай красавіцкае глушы
Нас клікалі зязюлі ў пералескі,
А ў поўным запацелым гладышы
Твае сінелі вочы, як пралескі.

## ЧЫСЦІНЯ

Як тонкі клічнік на старонцы,
Стаіш на беразе адна,
І цень, аблямаваны сонцам,
Гайдаецца на гальцы дна.

Ты папрасіла адвярнуцца,
Заплюшчыцца я ледзьве змог.
Ты толькі хвалі дакрануцца
Дазволіла да босых ног.

Іскрыстыя тугія хвалі,

Нібы русалчыну радню,
Выносілі і зноў хавалі
Тваю святую чысціню.

На бераг выйшаўшы нясмела,
Ты пазірала, як дзіця,
І так не ўмеючы умела
Здзіўляць да самазабыцця.
1969

**КАЗКА**

Не верачы ні ў прымхі, ні ў прыкметы,
Ачуняю, толькі памажы:
Завары мне ліпавага цвету
І старую казку раскажы.

Задрамлю, і, можа, зноў прысніцца,
Што прынесла з Поплава сюды
Вечна маладая чараўніца
Прыгаршчы гаючае вады.

Смагаю апаленыя губы
Да яе далоняў прыкладу
І, сябе ратуючы ад згубы,
Вып'ю жыватворчую ваду.

Водар дзівасілу і жывіцы
Свежасцю дыханне апячэ.
Ачуняю. Толькі чараўніца
Ад мяне нікуды не ўцячэ.

З ёю будзем усміхацца краскам,
Пазбіраем росы на траве,
Каб аддаць таму, хто верыць казкам
І на свеце за дваіх жыве.

Расчыні акно насустрач лету,
Не хвалюйся і не варажы,—
Завары мне ліпавага цвету
І, як праўду, казку раскажы.
1969

* * *

Ты сёння зноў забыла рукавічкі,
Зойдзеш, забярэш, і ўсё міне...
Але зноў на досвітку сінічкі
Пастукаліся ў шыбу да мяне.

Я падслухаў іх усе сакрэты
І паверыў — будзе навіна,
І надзеяй кволаю сагрэты,
Стаў каля настылага акна.

На прыступках тупае завея.
Я чакаю і сабе хлушу,

Што цябе ніяк не разумею
І сваю не ведаю душу.

Вось і поўнач, але мне не спіцца.
Зноў ніхто не ўспомніць пра мяне,
Толькі за марознаю іглiцай
На світанні знічка прамільгне.
1969

## ЛЫЖНІЦА

Цябе, іскрыстую, як іней,
Ад сцюжы з ветрам засланю
І па шурпатай, колкай стыні
На ўзгорак пракладу лыжню.

Перад табой скідаюць шапкі
І вываратні, і карчы,
І елкі прыгінаюць лапкі,
Табе дарогу даючы.

Цераз сумёты з непрывычкі
Ляціш і падаеш з гары,
І чырванеюць рукавічкі,
Як на світанні снегіры.
1969

## ТРЫ СТАРОНКІ

### Экзамен

Сіберны вецер свішча на Вянцы,
І неба ў белым пер'і пасінела,
Шпакі, цяпла і сонца пасланцы,
Купаюцца і ціўкаюць нясмела.

Здаўна трывогі ў кожнага свае.
І вось пара экзаменаў настала:
Класічная гімназія здае
Апошнія экзамены на сталасць.

Сціскае шыю форменны каўнер,
І хмурыцца высокі лоб гарачы,—
Раней за ўсіх Ульянаў і цяпер
Рашыў алгебраічныя задачы.

Зірнуў у вокны. Неба заплялі
Засохлыя сукі, нібыта краты,
Між імі раптам вочы ажылі
Старэйшага — павешанага — брата.

Экзаменатары глядзелі, як сычы,
І аднакласнікі баяліся сустрэчы,
А ён маўчаў, і толькі уначы
Уздрыгвалі знясіленыя; плечы.

Цяпер чужых ён ведаў і сваіх,
Што пазнаюцца ў горы і ў няшчасці,
І плечы падужэлі, бо на іх
Яшчэ так многа давядзецца ўскласці.

З Вянца Ульянаў углядаўся ўдаль
І бачыў спіны з жоўтымі тузамі…
Ён здаў усе прадметы на медаль,
А вытрымаў на Леніна экзамен.

**Надзея**

> Убачыла я Уладзіміра Ільіча
> толькі на масленіцы. На Охце
> ў інжынера Класана, аднаго з
> відных піцерскіх марксістаў.
>
> *Н. К. Крупская*

Звінелі бомы. Білі капыты
Звільжэлы снег, прытоптаны і шэры —
Па Неўскім за каналы і масты
На ліхачах ляцелі афіцэры.

Над вуліцай клубіўся хмельны чад,
Мільгалі ківеры, пагоны і пятліцы,
З шамкамі, з песнямі, як сто гадоў назад,
Гуляла масленіцу шумная сталіца.

Куражыліся важныя чыны,
Купчыхі у абдымках проста млелі
І стус за стусам тлустыя бліны
Ад раніцы і да змяркання елі.

На Охту, пацішэлую даўно,
Ішоў юнак з іскрыстымі вачыма…
«Патрэбна тройчы стукнуць у акно,
І на парозе з'явіцца дзяўчына».

Пастукаўся. На ганку снег атрос,
Бародку ледзь прыкметную пагладзіў,
І дзеўчына з каронаю валос
Руку пацiснула і прашаптала: «Надзя».

— Надзея! Без надзеі нельга жыць,
Надзея — значыць, добрая прыкмета,—
Пальто — на цвік, і ён ужо бяжыць
У вузенькія дзверы кабінета.

Даносіцца гамонка з-за сцяны,
І самавар пабульквае са свістам,
Пякуць канспіратыўныя бліны
Для маладога волжскага марксіста.

Не больш дзесятка аднадумцаў тут
Сабралася, па охцінскай кватэры,
Каб вынесці імперыі прысуд
І абвясціць пачатак новай эры.

Сімбірскі госць даводзіў, як і дзе

Збіраць байцоў і не сысці з дарогі.
Паверыў кожны: «Вось хто прывядзе
Разгневаную Русь да перамогі».

Глядзелі ў цемень вокнамі муры,
І непрыкметна, вечарам імглістым,
Мінаючы філёраў, праз двары
Вяла Надзея волжскага марксіста.

**Вязень**

За дзвярыма бразнула завала,
Зазвінелі доўгія ключы.
Не пачуюць голасу з падвала,
Як ні лемантуй і ні крычы.

Вязень столік скрэмзаны пакратаў
(Можа, знак пакінулі сябры).
За калючым павуціннем кратаў
Стукаюцца ў шыбу снегіры.

Падцягнуўся, у акенца глянуў,—
Снег круціла лютая зіма...
Па настылых сценах: «Тут Ульянаў»,
Голасна выстуквала турма.

Паглядзеў у вочка люты прыстаў,—
І сціхалі, а ў другім канцы
Азбукай няхітрай дзекабрыстаў
Зноў пераклікаліся байцы.

За дзвярыма грукаталі боты.
Над сталом задумаўся марксіст
І, адклаўшы спешную работу,
Малаком пісаў на волю ліст.

Бомкалі званы — канчаўся тыдзень,
Строіліся стражнікі ў карэ...
Ён чакаў: Надзея зараз прыйдзе
І старыя кніжкі забярэ.

А назаўтра хлынуць забастоўкі,
Задрыжаць цагліны і граніт.
І ляцяць, ляцяць з турмы лістоўкі,
Што страшней за грозны дынаміт.
1969

## ВЫШЭЙШЫ ЧЫН

Калі акраец хлеба браў ты
Рукой шурпатай са стала,
Скарынка чэрствая, як праўда,
Тваім пасведчаннем была,

І атэстатам, і дыпломам,
Рэестрам радасцей і мук,
А ты нікому невядомай

Быў акадэміяй навук:

Зубіў сярпы, каваў нарогі,
Хадзіў світанні сустракаць,
Начамі сцежкі і дарогі
Умеў па зорках адшукаць.

Вясною размінаў у жмені
Зямлі вільготнае камок
І гаварыў: «Ужо насенне
На поле просіцца само».

Ты па заходах і па ўсходах,
Па лёце пчол, буслоў, стракоз
Дажджы прадбачыў і пагоду
І на жніво даваў прагноз.

Выходзіў дзень у дзень на поле,
Хоць і ўчарнеў і перапаў,
А досвітку яшчэ ніколі
У цёплай хаце не праспаў.

Араў і стагаваў гадамі,
Не для сябе, не для радні,—
Пасталі доўгімі радамі
Твае цяжкія працадні.

Не паддаваўся ты хваробам
І не прасіўся на спачын,
Таму, што шчасце хлебароба —
Твой вечны і вышэйшы чын.

Былі парады і загады,
Ты ж не спяшаўся іх прыняць,
Бо не маглі з твае пасады
Цябе ні вылучыць, ні зняць.

Табе другіх чыноў не трэба:
У градабой і ў недарод
Усю Дзяржаву свежым хлебам
Карміў і кормілі з году ў год.

Калі тарпы на полі склаў ты,
Нахмурыў зноў змакрэлы лоб,
Бо у імя вышэйшай праўды
Жыве на свеце хлебароб.
1969

**МАЦІ НЕ СПІЦЬ**

Двое дзяцей — двое вачэй,
Маці не знае спакойных начэй:
Вейкі зліпаюцца,
Раніца блізка,
Ціха плыве
У світанне калыска.
Маці не спіць.

Маці не спіць.
Просяць засмяглыя вусны папіць
Тупае босая маці
З ранку да ранку па хаце.

Дзеці трызняць у адзёры —
Матчыны слёзы,
Матчына гора.
Свету не бачыць, нібыта сляпая,
Ценем самотным нячутна ступае
Маці з тугой і надзеяй,
Сэрца і кроў халадзее.
Дзеці пабеглі зялёнаю сцежкай,
І засвяціліся вочы усмешкай —
Першая радасць у маці,
Першае свята на свяце.

Выраслі дзеці,
Пайшлі у дарогу,
Зноў запяклася на сэрцы трывога:
Дзе мае дзеці?
Як мае дзеці?
Хоць бы не крыўдзілі людзі па свеце.
Дзе яны спалі?
Што яны елі?
Як дачакацца наступнай нядзелі?
Тупае маці з сянец у камору:
Хоць бы адведаць прыехаў каторы!
Хукае ў шыбу, глядзіць у завею —
Маці чакае,
Маці сівее.

Хрусне з марозу за хатай прысада,
Маці здаецца — гудзе кананада.
А паштальёнка пастукае ў раму,
Страшна адразу узяць тэлеграму:
Што ў ёй?
Няшчасце?
Бяда?
Ці трывога?..
...Сын прыязджае з далёкай дарогі!

З раніцы тупае маці —
Радасць і свята на свяце.
Двое дзяцей — двое вачэй.
Многа яшчэ неспакойных начэй
Будзе у маці.

## АДКАЗ

«Ці быў паранены?
Ці меў узнагароды?» —
Дакладна ўсё ў анкеце запішы.
А дзе запісваць, што баляць заўсёды
Рубцы і раны на жывой душы?

Яны пякуць, як ні студзі старанна,

Яны здаўна у кожнага свае.
Не лечаць іх,
Не лічаць іх за раны,
За іх ніхто нашывак не дае.

Яны смыляць неадбалелым болем,
Іх толькі не вярэдзь, не варушы:
Ні ласкай, ні мікстураю ніколі
Не залячыць параненай душы.
1969

## ЗЯМЛЯ

Дзяды і продкі карчавалі ляды
На лапіку сасмяглае зямлі,
Засекі вымяталі на каляды,
Ад ветру гнуліся,
а ўсё-такі жылі.

Да новага жніва і умалоту
На праснаках з аўса і лебяды
Цягнулі моўчкі чорную работу
Падлеткі, маладзіцы і дзяды.

І вочы загараліся шчасліва
Усмешкаю нязвыклай і чужой,
Калі у хаце патыхала млівам
І кіслай перасохлаю дзяжой.

Круціліся і камяні, і жорны,
Стары млынар ад пылу ледзь не слеп,
А ў печы дыхаў наздраваты, чорны,
Замешаны на горкім поце хлеб.

І я карэнне выдзіраў на выспе,
Зграбаў іглiцу і сукі з раллі,
Каб ураджай закаласеў і выспеў,
І новыя зярняты прараслі.

У непагадзь і ў ясную пагоду
Да болю адчуваю кожны раз:
Мы ўсе з таго няскоранага роду,
Што чыстым хлебам шчодра корміць нас.

Мы з дому разыходзімся па свеце,
З тугіх далоняў злазяць мазалі...
Хоць не забылі б сейбітавы дзеці,
Што сіла ў сіле роднае зямлі.
1969

## БОЛЬ

Заплецены тугім яловым голлем
Расчынена у белы свет акно,
Але вясна ізноў сціскае болем
Мне сэрца набалелае даўно.

Гараць апёкі і рубцы на скронях,
Чуваць, як кроў сцякае на траву:
Страляюць недзе. Вось таму і сёння
Даўнейшымі трывогамі жыву.

Куды ні глянеш,— і сягоння страты,
І неба пачарнелае, як смоль:
Далёкі край закуты і распяты,
А блізка к сэрцу падступае боль.

Крывёй дымяцца бомбавыя ямы,
І курчыцца дзіця без рук і ног,
Па стратах незагойнага В'етнама
Не заціхае мой пякучы стогн.

Зайшлося сэрца несціханым болем,
І раны разбалеліся ізноў,
Што мацяркі ніколі ўжо, ніколі
Сваіх не дачакаюцца сыноў.

Вясна мінае. У разгары лета,
А недзе зноў камандуюць: «Агонь!»
І далятае куля рыкашэтам
Да сэрца набалелага майго.
1969

**ПОЗНЯЯ РАДАСЦЬ**

Марозам вытканыя ўзоры
Іскрыліся на тонкім шкле,
І сосны, як у сінім моры,
У месячным плылі святле.

Шумела вецце шорсткім снегам,
І месяц к поўначы даспеў…
Тугім патрушчаным арэхам
Лядок на ганку зарыпеў.

Ты тройчы стукалася ў дзверы,
А я адразу і не мог
Апамятацца і паверыць,
Што ты прыйшла на мой парог.

І кроў ударыла у скроні,
Не заціхаў у сэрцы стук,
Калі я хукаў на далоні
Тваіх пахаладзелых рук.

У прывідным марозным бляску,
У промнях сіняга святла
Мяне з дзівоснай казкі ў казку
Ты, як сляпога, павяла.

І забывалася пра ўсё ты,
А я адчуў, што зноў жыву,

І вусны цёплыя, як соты,
Кружылі хмелем галаву.

Я клічу зноў цябе: «Вярніся
Цераз сумёты і гады!
А не пачуеш, хоць прысніся
І стукні ў дзверы, як тады».

* * *

Ты — маё і шчасце, і пакута,
Радасць і шчымлівы даўні боль,
Горкі водар недаспелай руты,
Майскі мёд і на парэзах соль.

Я цябе чакаю і цікую
У дажджы, у спёку, ў халады
Не такую і заўжды такую,
Як адна бываеш толькі ты.
1969

## АШЧАДНАСЦЬ

Не па капейцы — па крупінцы,
Па каліву складаю я
Да слова слова, як гасцінцы,
І багацею удвая.

Свае няўдачы і нястачы
Адолеў я і перамог,
Але сябе ператачыць,
Як ні стараюся, не змог.

Няма ў мяне нястач і лішкі,
І добра, што баланс такі,
Што не радком ашчаднай кніжкі
Свае ацэньваю радкі.

## РОДНАЕ

Далёкія агні палескіх вёсак,
Настылыя блакітныя сады,
Дзявочай песні звонкі падгалосак
Мяне ізноў паклікалі сюды,

Дзе пасівелі верхавіны бору
І закурыўся пылам белы шлях,
Дзе ад марозу трэснутыя зоры
Іскрацца на прыцішаных палях.

Дзе тонкі маладзік, нібы калыска,
Гайдаецца да рання над сялом
І патыхае недзе блізка-блізка
Смаловым дымам, домам і цяплом.

На санках, у расхлістаным кажусе

Лячу ў сваё дзяцінства, як у сне,
І светлымі начамі ў Беларусі
Бярозавікам пахне позні снег.
1969

**ВОСЬ І РАДАСЦЬ**

Пацяплела. З мяккае ігліцы
Апаўзае завільжэлы снег,
Кроплі зіхацяць, як завушніцы,
На сагнутай замеццю сасне.

Памагчы хоць трошачкі хачу я,
Наледзь атрасаючы з сасны,
Вецце разгінаецца, і чую
Водгулле далёкае вясны.

Цёплы снег увесь у цёмных крапках,
Шорсткі, наздраваты і тугі,
Ціха асядае. Толькі ў шапках
Журацца зарэчныя стагі.

Пах вярбы саладкавата-горкі
Свежым хмелем кружыць галаву,
І бруснічнік выбіўся на ўзгорку —
Вось і радасць, шчасце, што жыву.
1969

**КЛІЧА ВЯСНА**

Мяне, як напрадвесні жураўля,
Дадому кліча родная зямля:

То сніцца сітаваты сіні лёд,
То качак над разводдзем пералёт,

То чуецца, як у лясной глушы
Бярозавік звініць у гладышы,

Паўзуць мурашкі па ружовым пні,
І сон-трава сінее ў цішыні,

І хвойка прабіваецца з зярняці,
Пушыстая, як рожкі ласяняці.

І зелена, і светла уваччу,
Калі дамоў над пушчамі лячу.

Хоць там няма ні дому, ні радні,
А сэрца замірае ў вышыні

Ад хвалявання, радасці і шчасця,
І хочацца да ручая прыпасці —

Напіцца чыстай ломкае вады,
Што з веку ў век і продкі, і дзяды

З далоні задубелае пілі,
Укленчыць і прыпасці да зямлі.
1969

**ПЕРШАЕ ІМЯ**

Спавівачамі скручаныя рукі.
Скуголіш і галосіш нема ты,
І бурбалкамі лопаюцца гукі,
І столь дрыжыць ад звычнай неміаты.

Пачатак слова плачам захлынецца
І задрыжыць, як зайчык на сцяне,
Падыдзе маці, ціха усміхнецца
І кофтачку таропка расплікне.

Ты жмурышся і цмокаеш губамі,
Прыслухваешся к ціхім галасам
І мокрымі губамі «ма-ма, ма-ма»
Пралепятаць ужо спрабуеш сам.

У першым слове і пакуль адзіным —
Твае жаданні, радасці і боль,
Яго ты лепіш цэлыя гадзіны,
З калыскі пазіраючы на столь.

Мінаюць ночы, вечары, і ранкі,
І слёзы, і бяссонніца, і сны,
І ты у словах першай калыханкі
Пачуеш радасць роднай стараны.

А вырасцеш, блакітны і зялёны
Цябе пакліча незнаёмы свет,
Адкрыеш незабыўныя імёны
Людзей, сталіц, сузор'яў і планет.

Калі ж табе прыцісне гора грудзі
І здасца, што і дня не пражывеш,
Усё, чым жыў, адкінеш і забудзеш
І, як маленькі, маму пазавеш.
1969

* * *

Снег ляціць у вузкія двары,
Замятае сцежкі і прыпынкі,
Толькі на сталах календары
Растаюць, як тонкія ільдзінкі.

Колькі дзён і колькі год сплыло,
Светлых і пакутлівых да болю,
Колькі першых радасцей было,
Што ужо не вернуцца ніколі.

Адлятаюць тонкія лісткі,
Быццам з крылаў аблятае пер'е.
Быў і я калісьці не такі,

І такі не буду, як цяпер я.

Рапа наступаюць вечары,
Стомленае сэрца глуха ные.
Новы ранак, зноў мне падары
Клопаты і радасці зямныя.
1969

* * *

У стылай месячнай сінечы
Я чую голас твой і смех,
І зоркі падаюць на плечы,
І замятае сцежкі снег.

На лапах цёмнае яліны
Гарацъ, як знічкі, ледзяшы,
І шчасця нашага хвіліны
Схаваныя на дне душы.

З тае пары штодня шукаю
Твае сцяжынкі і сляды,
Цябе чакаю і гукаю
Свае далёкія гады.
1969

* * *

Дзяліць і таленты і славу пры жыцці
Бяссэнсіца і марная работа.
Вось колас можа ўсіх перарасці,
Але не даць увосень умалоту.

Мы, грэшныя, спяшаемся заўжды
За поспехам і славай без аглядкі,
Забыўшыся, што прамінуць гады
І ўсё узважаць нашыя нашчадкі.
1969

* * *

Патухне сонца толькі для мяне,
Калючы снег па вуснах не растане,
І болей вострым болем не крапе
Ні жаль, ні плач апошняга расстання.

Да раніцы зазімак замяце
Вянкі і сцежкі снегам белым-белым,
Заледзянеюць кветкі на пліце
Над сэрцам назаўсёды адбалелым.

У цёмным небе зорка праляціць,
Паружавее неба на Усходзе,
І сонца будзе кожны дзень свяціць
І ўпершыню для некага ўзыходзіць.
1969

**ЗЕРНЕ**

Калі табе не давялося
Пачуць, як шэпчацца калоссе,
Ідзі у поле.

У спелым і высокім жыце
Чакае першае адкрыццё —
Бяссмерце зерня.

Яно ўзышло, закрасавала
І пакаціла вал за валам
У свет паволі.

Нальецца, сцішыцца, даспее
І тым, хто жне, арэ і сее,
Зноў сілу верне.

Умытае расой і потам,
Пальецца спорным умалотам
Па нашым краі.

Замоўкне перапёлчын голас,
А ў кожным зерні — новы колас
Вясны чакае.

# ВЕРАСОВЫ ЦВЕТ

**Вершы 1970-1977**

**ЖЫЦЦЁ**

Жыццё без узлётаў, пралікаў і спадаў,
Без спрэчак калючых, нібыта асцё,
Без спёкі, дажджоў і густых снегападаў
Пустая інструкцыя, а не жыццё.

Блукаць давядзецца, збівацца часамі,
Шукаючы сцежку,— дарогу знайсці,
І помніць заўсёды, што толькі мы самі
Найлепш разбяромся ў нялёгкім жыцці.

Без нудных парад і залішняй апекі —
Самому нягоды і шчасце прайсці:
Хвалу і папрокі, пашану і здзекі,
Якіх не бракуе у кожным жыцці.

Сябрам і ў прасторным чужым кабінеце
Заўсёды праўдзівае слова знайсці
І, кожнаму гледзячы ў вочы, па свеце
З вясёлай душой і усмешкай прайсці.

## ДНІ

Калі душу азмрочыць цень
Ці смутак затуманіць вочы,
Шкадуем мы ўчарашні дзень,
Вядомы з раніцы да ночы.

І цяжка зразумець, чаму
Мінулы цешыць, а не гэты,
Чаму улетку пра зіму,
Л ўзімку думаем пра лета

І спадзяемся кожны раз,
Што прыйдзе новы дзень, як свята,
Але усё часцей да нас
За стратаю прыходзіць страта.

Мы смех і ранішні прамень
Цаніць адразу не умеем
І што шчаслівы сёння дзень —
Назаўтра толькі зразумеем.
1970

## ЗЁЛКІ

На парозе — яловыя лапкі,
На падлозе — зялёны аер,
У святліцы сівенькая бабка
Зёлкі ўсім раздае напавер.

У кужэльным мяшэчку — рамонкі,
І карэньчыкі ўсе на падбор,
І каліны залеташняй гронкі,
Зверабой, буякі і чабор.

Каб спіна не балела, не слеп ты,
Каб не гнуліся плечы твае,
Бабка лекі свае і рэцэпты,
Не шкадуючы, ўсім раздае.

Асцярожна развязвае шворкі
На мяшэчку, што полем працах,
І бяссмертнікаў колкія зоркі
Шамацяць у сухенькіх руках.

На світанні выходзіць за вёску
Па іскрыстай халоднай расе,
Васількі, і трыпутнік, і слёзкі
У прыполе дадому нясе.

Раскладае званец на паперы,
Ніжа краскі, што ўжо адцвілі,
Бо на іх спадзяецца і верыць
У гаючую сілу зямлі.

Адзінокі вясковы правізар
Часам доўга не спіць па начах:

Не змаўкае стары тэлевізар,
І пабліскваюць зоркі ў вачах.
1970

* * *

Многа помнім, болей забываем,
Сілімся прыпомніць, што рабіць,
Светлае у памяці трымаем,
Горкае стараемся забыць.

За памылкі бліжняга караем,
Нечы грэх спакою не дае,
Промахі чужыя ўспамінаем,
Забываем промахі свае.

Вось таму няўстойлівую памяць
Буду, як гадзіннік, правяраць,
Каб сумленне толькі не запляміць
І памылак больш не паўтараць.
1970

**ЗАВІРУХА**

На дарогах у завею
Давядзецца гараваць,
І ад інею сівее
Паступова галава.

Пасмы белыя, як змеі,
Прапаўзаюць па шашы,
Я іду, хоць і дубею
Ад валёнак да душы.

Вецер колкаю іглiцай
Замятае белы свет,
Каб у замеці не збіцца,
Не згубіць адзіны след,

Што вядзе за павароты,
Што знікае на буі,
Дзе стаяць, нібы сумёты,
Адзінокія гаі.

Нечы след вядзе у замець,
Вецер свішча і гудзе.
А саб'юся, можа, памяць
На агеньчык прывядзе.

Каб хутчэй адолець стому,
Каб не ўпасці на хаду,
І аслепшы, я дадому
Сцежку вобмацкам знайду.
1970

**ХАДАКІ**

Калі ў сяброў здараліся няўдачы,
Знаходзілі яго ў дажджы і ў стынь,
Каб растлумачыў цяжкія задачы,
Праверыў пераклады на латынь.

Да вечара ў яго на антрэсолях
Стаяла гамана і шум такі,
Што часам з брата жартавала Оля:
«Ідуць тваё, Валодзя, хадакі».

Пасля за ім ішлі ужо не дзеці,
Паверыўшы у слова і ў запал,
І пры газоўцы ва ўніверсітэце
Чыталі патаемна «Капітал».

Калі ў Заволжы лютавалі каты,
Ураднікі, купцы і кулакі,
Ішлі да маладога адваката
У зрэбніках сівыя хадакі.

Сібіракі на заінелай Шушы,
У воласць на паклоны ідучы,
Адзін другому ўводзілі у вушы,
Што толькі ссыльны можа памагчы,

Бяспашпартны,
без званняў і без права,
Ён шчырым словам кожнага страчаў.
Пісаць прашэнні, скаргі і заявы
За дзесяць вёрст ішлі да Ільіча.

Ён гартаваўся і дужэў у бурах,
Ён думаў пра наступныя вякі,
І да яго у Ланжумо і ў Цюрых
Ішлі з усёй Еўропы хадакі.

Жывое слова іскры выкрасала
І клікала да новых барыкад.
За Леніным з Фінляндскага вакзала
Пайшоў увесь рабочы Петраград.

Расія адшукала пункт апоры,
Каб павярнуць паўсвета да святла.
І па сігналу грознае «Аўроры»
За ленінскаю праўдаю пайшла.

Прадбачлівы,
нястомны, неадольны
Праводзіў ён на подзвігі палкі,
І днём, і ноччу у бяссонны Смольны
Ішлі з усёй Расіі хадакі.

Святая праўда ў неспакойным свеце
Запальвала паходні і агні,
І Ленін у крамлёўскім кабінеце
Убачыў нашы сённяшнія дні.

…Завейны студзень.
Слёзы замярзалі,
Сляпіла зрок густая мітульга,
Калі ў жалобе да Калоннай залы
Ішла і не канчалася чарга.

Пасталі ўсе, нібыта па паверцы,
З тугою і жалобаю ў вачах,
І адчувалі, што у кожным сэрцы
Жывое б’ецца сэрца Ільіча.

Адна чарга не кончыцца ніколі,
І будуць у наступныя вякі
Да ленінскае мудрасці і волі
Ісці з усёй планеты хадакі.
1970

**ВАЕННЫЯ ФІЛЬМЫ**

Гудзе тэлевізар чагосьці,
Спявачка пяе і пяе,
Ды сумна: не ходзяць у госці
Чужыя і нават свае.

Пакрылася пылам люстэрка,
Прарочыць павук навіну,
Старэнькая пенсіянерка
Ўсе фільмы глядзіць пра вайну.

Не можа самотная маці
Ніяк хваляванні суняць
І ў кожным засмяглым салдаце
Стараецца сына пазнаць.

Не гоіцца даўняя рана,
І боль аніяк не міне…
Салдаты ў акенцы экрана
Бягуць і бягуць па вайне.

Бягуць і ніяк не старэюць
Салдаты ў бясконцым жыцці,
Хоць многім ад Віслы і Шпрэе
Ніколі дамоў не прыйсці.

Пад танкамі гнецца дарога,
Кіпіць ад разрываў рака…
Хаця б на хвілінку жывога
Здалёку пабачыць сынка.

Кабета гаворыць з сабою
І ўсё перачытвае зноў
Прапахлыя полымем бою
Пажоўклыя пісьмы сыноў.

Прыпомніць франты за франтамі,
Шляхі, дзе грымела вайна,
Дзе ў снах за сваімі сынамі
Па пекле хадзіла яна.

Вось гэтак, відаць, і звякуе,
Без ласкі, цяпла і абноў,
А радасць, што часта святкуе
Ўсе дні нараджэння сыноў.
1970

## ЛІТАСЦЬ

Крыніца захлынулася ў прадонні,
Пяскі забілі гарлавіны рэк,
На берагі Пцічы і ціхай Проні
Бязлітасна ступіў суровы век:

Жалезнымі шыпамі ператрушчыў
Сівых дубоў тугія карані,
І засталіся ад спрадвечнай пушчы
Ламачча і абпаленыя пні.

Крышылі пушчу рурскія снарады,
Траціпам выварочвала вайна,
А потым будаўнічыя брыгады,
Валілі бервяно да бервяна —

На падваліны, кроквы і на зрубы,
На ліштвы небывалае красы,
І падалі, і енчылі ад згубы
Шумлівыя зялёныя лясы.

Да восені гулі ў барах пажары
Ад вогнішча, маланкі, серніка,
Трашчалі перасохлыя імшары,
Пяскамі захлыналася рака.

Іду, нібы глухі і невідушчы,
Не пазнаю знаёмае ракі,
Бо не гамоняць на ўзбярэжжы пушчы
І не такуюць больш цецерукі.

Мурашкі точаць прэлыя калоды,
Крычыць перапалоханы бакас.
Мы ўжо не просім міласці ў прыроды,
Прырода моліць літасці у нас.

## ЛЯСЫ, ЛЯСЫ...

Падсочаны лес,
Як падсечаны лёс,
Моліць ратунку
Ў зямлі і ў нябёс,
Хоць і не верыць
Збавенню і цуду
І не чакае
Адмены прысуду.
Мечаны доўгімі
Шрамамі лес
Сцішыўся, сохне,

А кожны парэз,
Быццам крывёй,
Заплывае жывіцай,
Гоячы раны,
Каб зноў ажывіцца.
Але падпісан
Смяротны прысуд,
Хвоі гудуць,
Як парожні сасуд.
Горда смяротнікі
Ўзнялі галовы,
Быццам гавораць
Апошняе слова.
Тут не туманяцца
Росныя ранкі,
Чэзне чарнічнік
І сохнуць паганкі.
Капаюць слёзы
З глыбокай насечкі —
Сосны смалой
Аплываюць, як свечкі,
Хоць і парэзы
Не ўсе адбалелі,
Кроны ад смагі
І сонца збялелі,
Вецце пакрыла
Смяротная плесня.
Страшна і ўдзень
У асуджаным лесе.
Больш ён зялёным
Не ўкрыецца пылам —
Хутка свістаць тут
Сякерам і пілам,
Хутка лаўжы
Затрашчаць па агні,
Стануць, як помнікі,
Белыя пні.
Чуеце? Ноччу
На ўсе галасы
Стогнуць і просяць ратунку
Лясы.
1970

**АПОШНІ СНЕГ**

Сумуюць гнёзды па вясне,
А зранку заіскрыўся тонкі
Вільготны снег, апошні снег,
Нібыта чыстыя старонкі.

На ім пакуль што не відно
Ні следу, пі знаёмай сцежкі.
І раптам стукнулі ў акно
Маленькія тугія снежкі.

На вуліцы — дзіцячы смех,
І ціха прарыпелі сані:

Счарнеў пад палазамі снег,
Што толькі выпаў і растане.

Закапае з галін і стрэх,
Вясну пакліча свіст птушыны,
І пабяжыць набраклы снег
У раўчукі і каляіны.

...Бягу па снезе і смяюся,
Забыўшыся пра сівізну,
Бо зноў вясною спадзяюся
Сустрэць наступную вясну.
1970

**АДЗІНОТА**

Пад наледдзю звісае вецце,
Замглёны белым белы свет,
Галосіць за сцяною вецер,
Як надакучлівы сусед.

Пабразгаў заінелай клямкай,
Асыпаў з даху снег і знік,
А з воблака туманнай плямкай
Паволі выплыў маладзік.

Казалі, добра ў адзіноце
Пабыць хоць некалькі гадзін,
Але ў глушы, пры курным кноце
Не доўга выседзіш адзін.

Схаваўся маладзік, і вецер
Страсае наледзь у бары,
Адзін другому ўводзілі у вушы,
То на узгорак, то з гары,

У незабытае юнацтва,
Калі без радасцей і слёз,
Я без пратэкцый і сваяцтва
Пацеў удзень, а ноччу мёрз.

Трашчаць карчы ў зіркатай печы,
Мяце завея па двары,
А мне здаецца, што за плечы
Мяне катурхаюць сябры,

Што зноў паўзем па снезе грузкім,
Нібыта здані па вадзе,
На лесасеку, на пагрузку
Мяне нялёгкі лёс вядзе.

Мы гладкіх сцежак не шукалі,
Не выбіралі торны шлях,—
Мастамі нашы сосны сталі
І мачтамі па караблях.

Калі нікога з нас не будзе

І след прастыне на зямлі,
Убачаць будучыя людзі
Масты і нашы караблі.

А памяць зноў вядзе па свеце:
Чужой гаворкі чую гул,
Неонавай вясёлкай свецяць
Парыж, Афіны і Стамбул,

І ў гэтым электрычным «раі»,
Каля замшэлае сцяны,
На скрыпцы жаласна іграе
Калека ўчорашней вайны.

Каля яго удзень і ўранку
У порт праходзяць маракі,
І зрэдку звоняць у бляшанку
Маленечкія медзякі.

Не, не пражыць у адзіноце,
Не, не схавацца ў цішыні,
Калі у ссадзінах і ў поце
Спіна, а сэрца — у агні.

Калі работа пад рукою
І рупіць неспакойны час,
А адзіноты і спакою
Нам хопіць, як не будзе нас.

У наледзі туманны студзень,
Усё завея замяла,
А я іду туды, дзе людзі,
Да іх турбот, да іх святла.
1970

## ПЯРСЦЁНАК

Знічка ўпала — збудзецца жаданне,
Можа, не цяпер, а пакрысе
Наша неспакойнае каханне
Нам з табою радасць прынясе.

Глянь, упала знічка, і другая
Паляцела на рачное дно.
Хай жаданне кожны загадае
І няхай хоць збудзецца адно.

Заравее. І на небе тонкі
Маладзік растаў, і лес прыціх.
Над туманам залатым пярсцёнкам
Узыходзіць сонца на дваіх.
1970

## СЭРЦА

Не прыйдзе шчасце без прычыны,
Без мужнасці не выстаіць баец,
Без гора не прарэжуцца маршчыны,
Без веры не загоіцца рубец.

І сэрца не заные без трывогі,
Без дабраты не знойдзеш уначы
Няходжанай няроўнае дарогі,
Каб чалавеку ў горы памагчы.

Калі ты ўсё спазнаў па поўнай мерцы
І не паспеў душою ачарсцвець,
Не бойся, што баліць часамі сэрца,—
Яно ж таму і сэрца, каб балець.
1970

## БЯЛАРУЧЫ

Вербы вячыстыя ў Вячы
Белыя ручкі купалі,
З песняй тужлівай і плачам
Тлела кастрамі купалле.

Песня плыла за вянкамі,
Згасла за свечкаю свечка,
Бегла услед за вякамі
Ціхая белая рэчка.

Некалі ў прыцемках шэрых
І на туманным світанку
Часта выходзіў на бераг
Хлопчык зажураны Янка.

Тлелі кастры за ракою,
Вербы стаялі, як сведкі,
Ды не давала спакою
Хлопчыку папараць-кветка.

Рукі заламвалі вербы,
Сыпалі росы на плечы.
Хлопчык на золку паверыў —
Шчасце прызначыць сустрэчу.

Не варажыў, а прарочыў,
Верыў і клікаў з запалам
Тою купальскаю ноччу
Хлопчык зрабіўся Купалам.

Голас яго ў наваколлі
Мудры заўсёды і новы,
І не замоўкнуць ніколі
У свеце Купалавы словы.
1970

## ДЗЯКУЮ

І не хвалюся, і не «якаю»,
Што нешта важнае раблю,
А сам заўсёды першы дзякую
То сейбіту, то кавалю

За хлеб, за вострыя нарогі,
За стол, за сталь, і за святло,
І за шырокія дарогі,
Якіх дагэтуль не было.

За поўны слоік сырадою
І за шпалеры па сцяне,
Я шчыра дзякую за тое,
Што людзі дбаюць пра мяне.

Шкадую аднаго заўсёды,
Што сам у кожнага ў даўгу,
Што ніякое ўзнагароды
Нікому выдаць не магу.

Мая падзяка і спагада
Нікога надта не кране,
А сам заўжды бываю рады,
Калі падзякуюць і мне.
1970

## ТРЫВОЖНАЯ НОЧ

Часамі ў снах трывожных я жыву
У невядомым колішнім стагоддзі:
Кладуць маю на плаху галаву
На гулкай плошчы пры маім народзе.

Парвуцца жылы, затрашчыць хрыбет
Пад востраю цяжкой сякерай ката,
І стаў на сконе зразумелы свет,
А я зрабіўся прагны і зіркаты.

Здаецца, пасміхаюцца «свае»,
Дзіўлюся і ад крыўды халадзею,
Хоць і язык засмяглы не дае
Прызнацца, што жыве яшчэ надзея.

Мне блізкі скон адкрыў таемны зрок
І далеч недасяжную нікому:
Гляджу у вочы кожнаму знарок,
Бо знаю, што не кожнаму вядома.

Не баючыся, праўду гавару —
Князі і каты круцяцца, як чэрці,
Калі памерці трэба, дык памру,
Каб толькі горкай праўдзе не памерці.

Я чую, як гудуць па мне званы,
Як нехта прычытае: «Мой балесны!»

Я ведаю, што ўслед ідуць сыны
І што ў далёкім праўнуку ўваскрэсну.

...Я ўспомніў ноч трывожную сваю
У ясны дзень шчаслівы і вясновы,
І ў кожным з нас нашчадка пазнаю
То Каліноўскага, то Пугачова.

## БУСЛЫ

Буслы шукаюць на пагорку хату,
А там — варонкі, попел і вада,
На золку не клякочуць бусляняты,
Што не здалелі вылецець з гнязда.

Ляцяць буслы ад вёскі і да вёскі,
Мінаюць гарадкі і гарады,
Дзе і дасюль не змоўклі адгалоскі
Людской не адбалелае бяды.

Няма на ўзгорку студні каля хаты
І ліпы на развілку трох дарог.
Бядуе бусел, быццам вінаваты,
Што цёплую буслянку не збярог.

Ляцяць кругамі бусел і бусліха:
Наўкол гудуць пустыя каміны,
Раса з вярбы сцякае ціха-ціха,
І журацца хатынскія званы.
1971

## СЛЯДЫ НА ЗЯМЛІ

Усіх адна цікуе непазбежнасць —
Дарога карацейшая з дарог,
Дзе забяспечаны спакой і незалежнасць
Без мітусні, пакутаў і трывог.

Калі бяда зацісне туга-туга,
І белы свет ні ўбачыць, ні пачуць,
Дарогі той па званнях і заслугах
Не ўдасца анікому абмінуць.

Па ёй знікаюць, хочуць ці не хочуць,
Магнаты, жабракі і каралі,
А тыя, што услед за імі крочаць,
Сляды не ўсіх заўважаць на зямлі.
1971

## СЫН ПРЫСЯГАЕ

Малога сына засланяў ад сцюжы,
За пазухай хаваў, як птушаня,
У лівень пераносіў цераз лужы
І казкі прыдумляў яму штодня.

Шумелі вёсны, восені і зімы,
Цвілі і адцвіталі верасы.
Пара настала, і Радзіме
На вернасць прысягае сталы сын.

Яго шукаю. У страі адзіным
Плячо ў плячо стаяць, як з братам брат,
Салдаты ўсе, падобныя на сына,
Як сын падобны на усіх салдат.

Пазнаў яго здалёк. На аўтамаце
Празрыстая іскрыцца страказа,
А па шчацэ расхваляванай маці
Плыве ці то дажджынка, ці сляза.

...Не заціхаюць на планеце войны,
І болем азываюцца яны
У сэрцы набалелым, неспакойным,
Але маўчаць спакойныя сыны.

**ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ**

Паплавамі, сцежкамі бароў
У цёплыя туманныя світанні
І ў зорным змроку майскіх вечароў
Хадзіла песня з песняй на спатканне.

Гукалі песняй раннюю вясну,
Спявалі з гора ў будні і у святы,
Пад песню пракладалі баразну
І сеялі адборныя зярняты.

За песнямі купальскія вянкі
Па сініх рэках ціха адплывалі,
У дальнія і блізкія вякі
Кастрамі разгараліся купаллі.

Калі завее лютая мяла,
Стагнала над зямлёю непагода,
Гаючаю іскрынкаю жыла
У песні дума і душа народа.

У ёй гучалі боль, і смех, і гнеў,
Дзявочая журба у дзень заручын,
Каціўся полем адзінокі спеў
Слязінкаю салёнай і гаручай.

Пад спелым жытам залаціўся пыл,
Прапахлі свежай рошчынаю вёскі,
А над палямі голас плыў і плыў
І звонкія дрыжалі падгалоскі.

Гукала песня любую ў лугах,
Шукала ў росных травах да світанку,
І закаханым лепшы быў пасаг —
Над першаю калыскай калыханка.

Жыла, звінела песня з веку ў век
У спёку, халады і напрадвесні,
Бо ў радасці і ў горы чалавек
Ужо і дня не мог пражыць без песні.

Каб гора і бяду перамагчы,
Адчай і неадольную дарогу,
Склікалі у паходы трубачы
І песняй услаўлялі перамогу.

Ішлі байцы, за валам грозны вал,
Гатовыя на подзвігі і страты,
Каб песню песняў —
«Інтэрнацыянал»
Не заглушылі кулі і гарматы.

Праз полымя пякельнае вайны
І праз усе франты, як сцяг, пранеслі
Адважныя і мужныя сыны
Шчымлівыя і баявыя песні.

А ёсць адна, на ўсе вякі жывая,
Яе планеты слухаюць здаля,
І ўсе ўстаюць, калі спявае
Партыйны гімн Савецкая зямля.
1971

**ЗДЗІЎЛЕННЕ**

Здзіўляюся заўсёды ўсходу сонца,
Вясёлцы і дажджынцы на траве,
Здзіўляюся зачараванай слонцы
І ластаўцы, што пад страхой жыве.

Здзіўляюся усмешцы немаўляці,
Што цмокае губамі і гудзе,
І прыгажосці маладзенькай маці,
Што прытуліла сына да грудзей.

Здзіўляюся, калі ў асенні вечар
Лісты ляцяць у мокрую траву,
Здзіўляюся растанню і сустрэчы,
Хвалююся і рады, што жыву.

Здзіўленнем пачынаю новы тыдзень,
І кожны дзень у кропельках акрас,
Калі ж пара з усім расстацца прыйдзе,
Здзіўлюся, што прыйшла яна не ў час.
1971

## МАЛАДЗІК

Кіжы завaліла сумётамі снегу,
Ні сцежак, ні саннай дарогі няма,
Сухою кутаю скуголіць Анега —
Зіма.

Зямля ледзянее ад лютае сцюжы,
Ад ветру дрыжаць на званіцах крыжы,
Гудзе завіруха і стружа, і стружа —
Кіжы.

Мужык аланецкі не цэркву, а казку,
Прыдумаў і калісь паставіў навек,
Зірнуў, і сякеру сваю з апаяскай
Закінуў у вір чалавек.

Прайшоў, азірнуўся і доўгай лукою
Пабрыў, як жабрак, у чужое сяло,
Каб болей дзівоснае казкі такое
Нідзе не было.

Туляўся па свеце без родных, без дому,
Гібеў, бунтаваў і нясла віў цара,
А ўславіў свой род, хоць імя невядома
Таго цесляра.

Мінаюць гады, за гадамі стагоддзі,
Над купалам купал, як прывід, узнік.
Скуголіць куга, і сякерай на лёдзе
Блішчыць маладзік.
1971

## СІВЫ САЛАВЕЙ

Падбіўся ў дарозе сівы салавей,
Нядужыя крылы падрэзала стома,
Далёка ад майскіх вішнёвых завей,
Прыстаў на ўзбярэжжы далёка ад дому.

Яго навальніцы хрысцілі агнём,
З падкрылкаў ляцела крывавае пер’е,
Дарогу заслала густым тумаком,
Заблыталі сцежкі туга і нявер’е.

Падбіўся ў дарозе сівы салавей,
Расінку глынуў, і адхлынула стома,
Ачах у высокай звільжэлай траве,
Згубіўшы дарогу да роднага дому.

Як толькі душою крыху акрыяў,
Як толькі паверыў, што зноў уваскрэсне,
Забулькала ў горле у салаўя
Нідзе не забытая матчына песня.

Становіцца пер’е сівей і сівей.
Адзін на чужым узбярэжжы начуе

І вечна бядуе стары салавей,
Што маці ніколі яго не пачуе.
1971

**ВЫРАТАВАННЕ**

*Н. Гілевічу*

Сваю тугу
Сагні ў дугу,
А калі не,—
Яна сагне
І выб’е з рук
Надзейны круг —
Тваё выратаванне
Ў бязмежным акіяне.
І не кажы,
Што ўсё' адно
Плысці або пайсці на дно.
Выратавальны круг лаві
І сам плыві,
Плыві, плыві.
Хоць берага і не відно,
І не дастаць нікому дно,
А ты плыві з апошніх сіл,
І рукі, быццам пара крыл,
Аб хвалі б’юцца да зары,
Бо ёсць надзейныя сябры
На светлым беразе крутым,
І кожнаму патрэбен ты.
Калі ж ты
Галавой панік,
Яна, як цяжкі каласнік,
Цябе пацягне ў чорны вір,
Дзе рыфы вострыя
І жвір.
Адчай з тугою у душы
Ты без ваганняў патушы
І выйграеш нялёгкі бой,
Раней за ўсё з самім сабой.
І стане пруткаю рука,
Калі агеньчык маяка
Засвеціцца,
І даплывеш
Да берага,
Дзе ты жывеш.
1971

**ВЕЧАРЭЕ**

Асыпаліся астры на акне,
Асенні снег завеяў палісады,
І ты ўжо не пытаешся ў мяне,
Чаму я рады і чаму не рады.

Мы вечарамі доўгімі маўчым,
Хоць і не ўсё яшчэ сказаць паспелі,

І рукі, што ляжалі на плячы,
Як лебедзі, у вырай адляцелі.

Неспадзявана восень надышла,
А мне прызнацца цяжка, што старэю,
Што не стае ранейшага цяпла,
А можа, слаба грэюць батарэі?
1971

* * *

Вясну прыносяць цёплыя вятры,
І жаўрукі, і ластаўкі на крылах,
Вясну прыносяць добрыя сябры
У сэрцах, і ў завею не астылых.

Вясну прыносіць пурпуровы сцяг,
Даўно узняты над трывожным светам,
Вясна прыносіць завязі жыцця,
Каб стаць багатым умалотным летам.
1971

* * *

На вярбе з ліста на тонкі ліст
Коціцца расінка ціха-ціха,
А ў гаі на салаўіны свіст
Песняй адказала салаўіха.

Звонкі пошчак цішу раскалоў,
Задрыжаў ад песень сіні вечар.
Песня салаўіная — без слоў
Каля сэрца кожнага трапеча.

Вербы прыпадаюць да вады,
І гаі туманныя заснулі,
Толькі лічаць наглыя гады
На світанні шчодрыя зязюлі.
1971

**КЫЗ КУУ**
*(Дагані дзяўчыну)*

Засцілае стэпы хмарай
Пыл зялёны і густы:
Едзе пара ўслед за парай
Топчуць травы капыты.

Прагна бліскае вачыма,
Як царэўна, на кані
Чарнабровая дзяўчына
І гукае: «Дагані!

Дагані і пацалуеш,
Не дагоніш — адплачу,
Не абдымеш — пакаштуеш
Сырамятную камчу».
Ірванулі з месца коні —

Храпа ў храпу, бок у бок.
Хто дагоніць, перагоніць?
Хто адстане хоць на крок?

Расплятае вецер косы,
Свішча тонкая камча,
Цяжка дыхае раскосы
Аргамак каля пляча.

Пыл курыцца над зямлёю.
І адкуль бярэцца спрыт?
Аргамак ляціць стралою,
Але ўсё ж адстаў джыгіт.

Скоса глянула дзяўчына,
Апусціла павады
І пачула — за плячыма
Свішча хлопец малады.

Абхапіў рукой гарачай,
Вусны вуснамі апёк.
Коні скачуць, коні скачуць —
Храпа ў храпу, бок у бок.

Кавылі шумяць прыбоем,
Не сціхае ў стэпе гул.
У адным сядле абое
Паскакалі за аул.
1971

* * *

Як хочаца забыцца пра турботы,
Пра горкія складанасці жыцця,
Адкласці неадкладныя работы,
На свет зірнуць наіўна, як дзіця:

Пачуць у светлых вербах на світанні
Усплёскі затуманенай ракі
І як трывожна клічуць на спатканне
Цяцерак маладых цецерукі.

Лавіць губамі горкі і салодкі
Пылок мядункаў, траў і багуну.
Падслухаць песню з адзінокай лодкі
Пра першае каханне і вясну.

Глядзець і захлынацца ад здзіўлення,
Маўчаць, жывую слухаць цішыню
І сам сабе паверыць на імгненне,
Што ўбачыў гэты свет упершыню,

Што зноў гляджу наіўнымі вачыма,
Як у далёкі і забыты год,
Але нідзе пазбыцца немагчыма
Ні клопатаў, ні радасных турбот.
1972

* * *

Змяркаецца рана увосень,
На травах трымціць сівізна,
І як бы табе не жылося,
Спяшайся, шчыруй дацямна.

А ноч загалосіць вятрамі,
Лісты зашумяць па сцяне,
Ілбом прытуліся да рамы
І зорку нагледзь у акне.

А гэта ж далёкі агеньчык
У змроку за поўнач дрыжыць,
І хтосьці галосіць і енчыць
У гора на горкай мяжы.

Спяшайся праз вецер і кручы,
Праз топкую багну лагчын,
Каб справай і словам гаючым
У горы людскім памагчы.

І кожнага ў свеце дарога
Вядзе да апошняй вярсты,
Таму не шкадуй ні для кога
Сваёй дабраты.
1972

**ЖАНЧЫНА**

Жанчына — таямніца з таямніц:
Пачатак шчасця і трывогі.
Схіляюцца перад табою ніц
Мужчыны на парозе перамогі.

Растане сэрца, як вясновы воск,
Заззяюць вочы, падабрэюць рукі,
Зляцяць і пыха, і уяўны лоск
Ад прыгажосці і таемнай мукі.

У глыбіні жывога пачуцця
Аперыцца натхненне для узлёту,
І ўсё ж не хопіць аднаго жыцця,
Каб зразумець, якая ты і хто ты.

**НЕПАРАЗУМЕННІ**

Так і жыццё адгаравалі —
Ты па сабе, я па сабе.
Зязюлі нам адкукавалі
Даўно аб шчасці і журбе.

Я кожны раз пасля разлукі
У мітусні цябе шукаў.
Цягнуліся насустрач рукі,
Але ніхто не сустракаў.

А потым стрымана і посна
Ты мне казала:
«Прабачай.
Спяшаюся, вярнуся позна.
Там, на пліце, гарачы чай».

Не, я не скарджуся дарэмна
Ні самым блізкім, ні чужым,
Мне нават крышачку прыемна,
Што ты заўжды патрэбна ўсім,

Што не спазняешся ніколі,
Ні лічыш тыдняў і гадзін,
А нехта ж кпіць і вочы коле,
Што побач мы, а я адзін.

Нічога так і не змянілі,
А страціўшы, не здабылі,
Сініцу нават не злавілі,
І зніклі ў небе жураўлі.

## РУЖЫ

Нясуць зімою ружы да труны,
Аркестр жалобу сцішана іграе,
І, мабыць, кожны кропельку віны
Крадком, нібы слязінку, выцірае.

Сляза сплыве, але віны з душы
І праз гады не выплакаць, ні сцерці:
Мы ж кідалі знявагі ледзяшы
І папракалі друга аж да смерці.

Цяпер відзён выразней снег Валос,
На сцятых вуснах запяклася стома…
І я ж ніводнай кветкі не прынёс жывому!
1972

## ШЫПШЫНА

Праціналі яе навылёт халады,
Ледзяныя снягі замяталі на кручы,
То цяпла не ставала, то чыстай вады,
І з гадамі рабіўся шыпшыннік калючы.

Не хапала заўсёды чагосьці ў жыцці,
Толькі вечна жыла неадольная прага,
Хоць у познюю восень яшчэ расцвісці
На крутым узбярэжжы крывінкамі ягад…

Калі сцюжа астудзіць жывую душу,
Можа, каліва я па сабе не пакіну,
І пакуль не замоўк, аднаго папрашу:
На грудку ў галавах пасадзіце шыпшыну.

Камусьці здасца смешным, што улетку

Мне ў заказным лісце прыйшла
Прымятая пад штэмпелямі кветка
І на світанні ў шклянцы расцвіла.

Яе мне пасылала не дзяўчынка,
І я не памылюся, не схлушу,
Калі скажу, што першыя маршчынкі
Ужо кранулі і яе душу.

Яна сабе палёгкі не шукала,—
Уцехі ўсе абходзілі яе,
А сэрцу трошкі ласкі не ставала,
І ўсё дасюль чагосьці не стае:

Бяссоння, сноў, пакутлівае ласкі
І радасці трывожнае свае,
Таму яна і прыдумляе казкі
І кветкі шчодра людзям раздае.
1972

## СМАГА

Ты неабходна, як глыток вады,
Як паратунак ад пякельнай смагі,
Ды вінаваты позні гады,
Што не стае ранейшае адвагі,

Да чыстага жывога ручая
Губамі перасмяглымі прыпасці,
Каб смага захлынулася мая
Адным глытком пакутлівага шчасця.

* * *

Пакрыўдзіў, кажуць, чалавека лёс.
А дзе той лёс? Які ён быў і будзе?
Людзей заўсёды да бяды і слёз
Даводзяць абыякавыя людзі:

Святы запал астудзяць у душы,
Дзіця зняважаць, адштурхнуць калеку,
Аж пабягуць па скуры мурашы...
Пара быць Чалавекам чалавеку!
1972

* * *

Мы выраслі на хлебе і мякіне,
Зрубцамі на руках і на спіне,
Таму ніхто ў нас каменя не кіне
І ні за што підзе не папракне.

Таму не даражым утульным «раем»,
Не гнёмся ад няшчасця і бяды.
Жывём складана, проста паміраем,
Не скончыўшы галоўнага заўжды.
1972

## ЧАЙКІ

Аб заінелыя закрайкі
Прыбой разбіўся і аглух,
І растрывожаныя чайкі
Губляюць пасівелы пух.

Закутае марозам мора
Знямее, штормы замаўчаць,
А чайкі будуць склёўваць зоры
На слізкім лёдзе па начах

І, трацячы ў знямозе сілы,
На зломе смерці і жыцця
Аб крыгі пазбіваюць крылы,
Але на бераг прыляцяць.
1972

## ТАЙНА

Колькі вёсен
Яшчэ веславаць?
Колькі кросен
Яшчэ аснаваць,

І гады, як ніты,
Пасукаць удвая? —
Не адкажам ні ты
І ні я.

Гэта — мудрая тайна
Жыцця —
Жыць аддана
Да забыцця.

## СТРАТА

Мы трацім слова,
Мы нямеем
І хвалімся,
Што ўжо не ўмеем
Так гаварыць,
Як наша маці,
І дарагую песню
Трацім.
А з ёю цяжка
Разлучыцца —
Лягчэй забыць,
Як навучыцца.
1973

## ВЯСЁЛКА НА КРЫЛЕ

Ударылі кроплі па даху,
Вадой захлынулася гаць,

А чайкі ўзлятаюць з размаху
І ў бляску маланак ляцяць.

Хай лівень іскрысты і колкі
Апошнія кроплі пральe,
І ўспыхнуць над сонцам вясёлкі
У чайкі на мокрым крыле.

## КУПАЛЬСКІЯ ВЯНКІ

Дзе матчына сляза калісьці ўпала
І плачкаю-вярбою прарасла,
На стромкі бераг узышоў Купала,
І песня за вянкамі паплыла.

Ён верыў, што не быць ёй век нямою,
Што зерне па граніцы прарасце.
І дачакаўся: летам і зімою
Каля крыніцы папараць цвіце.

І небасхіл увесь у ясных зорах,
Па іх ідзе Купала праз вякі.
Па рэках, акіянах і па морах
Плывуць у свет купальскія вянкі.
1973

## РАЙНІСАВЫ СОСНЫ

Зламаныя сосны знямелі ад болю,
Карэнне падмылі струмені вады,
Ссівелі галіны ад пылу і солі,
Смалой заліліся сякеры сляды.

Зламаныя сосны звінелі, як струны,
Іх песню, іх крыўду падслухаў паэт,
А шторм навалíўся — упалі на дзюны,
І хвалі панеслі, змываючы след.

Прабілася хвойка з жывога зярняць
На стромкім адхоне пясчанай касы,
Зламаныя сосны ёй сняцца і сняцца,
Даходзяць з марской глыбіні галасы.

Гудуць крыгаломам блакітныя вёсны,
А хвойку не здолеюць штормы зламаць…
Не прыйдзе паэт.
                                А зламаныя сосны
Адвечную песню шумяць і шумяць.
1972

## ДАЛЁКАЯ

Пакуль мяне не зваліць змора,
Дзіўлюся я тваёй красе

І мару, можа, вецер з мора
Твой ціхі голас прынясе,

І ў сцюжу подых неастылы
Адчую я і ажыву,
Каб выраслі з надзеі крылы
І закружылі галаву.

Не спадзяюся, што сама ты
Мне скажаш той адзіны сказ,
Што ў будні нам прыносіць святы,
І лечыць, і натхняе нас.

Трывога ў сэрцы аціхае,
І шчасце кружыць галаву.
Далёка ты, а я кахаю,
І спадзяюся, і жыву.

* * *

З настылай восені вярніся
У нашу першую вясну,
Да сэрца сэрцам дакраніся
І не зважай на сівізну.

Яна прыйшла неспадзявана
Не ад дарог, а ад трывог,
І запяклася тая рана,
Якую залячыць не мог.

І не залечыш, як ні біся,
Якія не загадвай сны.
Каб не зачахнуць, зноў вярніся
У абдымкі першае вясны.

Няхай укрыюць жыта хвалі
Спакусы позняе сляды
І ўсё, што мы не дакахалі
У нашы даўнія гады.
1973

## ІВАН ДЫ МАР'Я

Прыйшла вясна у Запаляр'е,
І расцвілі івап-ды-мар'я,
Багун, марошка і рамонкі,
А камарыны голас тонкі
Чуцён з Хатангі да Дудзінкі,
Дзе ноччу хрустаюць ільдзінкі,
Хоць тут і сонечная ноч.
У поўнач за Палярным кругам
Сустрэўся я з харошым другам
У краі вечнай мерзлаты
І пазайздросціў: «Дужы ты».
— Адолеў я пургу і сцюжу,
Таму і малады і дужы.
Зайздросць, ды толькі не суроч!
Я быў шахцёрам і каюрам,

Ішоў насустрач снежным бурам,
А вецер, д'ябал паласаты,
І днём і ноччу, як з гарматы,
Збівае з ног і слепіць вочы,
А мы яму насустрач крочым
Пад адзічэлы свіст і рык.
Ды не давалі зроду маху
Мы ні ў Нарыльску, ні ў Талнаху.
Яшчэ, прызнацца, ганаруся,
Што тут сустрэў сваю Марусю,
Што днём і ноччу сонца свеціць,
Растуць палярнікамі дзеці.
Тут родны дом і мацярык.
Так і жывуць у Запаляр'і
Мае сябры Іван ды Мар'я.
1973

**САЛЬЕРЫ**

Мы думалі, што больш няма Сальеры,
І зайздрасць перакрэслена даўно.
Мы перад ёю зачынілі дзверы,
Яна ж крадком пралезла праз акно

І засмактала прагным саліцёрам,
Перакруціла ўсё наадварот:
Што сорамна было — ужо не сорам,
І як шчанюк звягае з-пад варот.

Змяніўся час, змяніўся і Сальеры,
І тактыка змянілася даўно:
Не сыпле ён з аптэкарскай паперы
Атруту непрыкметна у віно.

А зайздрасць сэрца здрадаю счарніла,
Душу даўно ператварыла ў лёд,
Атручаныя кропелькі чарніла
Заплямілі сумленне навылёт.

Паклёпы, ананімкі і абразы
Прасочваюцца плямамі здаля.
Цяпер Сальеры труціць не адразу,
А спакваля.
1973

**СПАТКАННЕ**

Бяжыць яна, натхнёная, як песня,
І рыфмамі абцасікі звіняць.
Здаецца, хоць зямля пад імі трэсне,
Нішто яе не здолее суняць.

Сама сабе ўсміхаецца ад шчасця,
Іскрацца вочы, аж займае дух,
І толькі белай мітульгою засціць
Крутую сцежку тапалёвы пух.

Празрысты вечар, радасны, як ранне.
Яна бяжыць, нібы ў дзівосны сон,
На першае таемнае спатканне,
Бо ёсць у цэлым свеце толькі ён,

Негаваркі, чубаты і няўклюдны,
Хоць голас і ламаецца на бас,
А ёй здаецца самым большым цудам,
Што па спатканне кліча першы раз.

Бяжыць дзяўчынка, ледзь не задыхнецца,
Злятае пух на завіткі валос.
Яны ідуць насустрач, і здаецца,
Што ім ідзе насустрач светлы лёс.
1973

## РАДЗІМА

«Люблю Радзіму я!»
А хто яе не любіць?
Няма тут перавагі нічыёй:
Яна, як сына, кожнага галубіць,
І кожны да канца адданы ёй.

Ніколі я ў любові не клянуся,
А так, як дыхаю, як думаю, люблю
Палі Расіі, пушчы Беларусі,
Каўказ і украінскую зямлю.

Як паслухмяны сын, як уладар я
Памірскіх пікаў і сібірскіх рэк,
Люблю Амур і тундру Запаляр'я,
І тытул свой — Савецкі чалавек.

Вытокі помнячы, у заўтрае глядзім мы,
Прыспешваем і абганяем час,
І так жывём, і любім так Радзіму,
Каб і Радзіма палюбіла нас.
1973

## РОДНЫ КУТ

Забыць цябе не маю сілы.
*Я. Колас*

Даўно ў мяне сталічная прапіска,
Утульны дом, і боль, і радасць тут,
А хатка, дзе гайдалася калыска,—
Адзіны мой і самы родны кут.

За пушчамі, за сінім небакраем —
Мая радня, равеснікі мае.
Іх песня то звініць, то замірае
І мне дасюль спакою не дае.

Ссівелымі за лета палынамі
Да ціхай затуманенай ракі
Ідуць на сцежках, вытаптаных намі,

Узяўшыся за рукі, юнакі.

Тут іх зямля, яны заўсёды дома,
Сыны і дочкі воінаў і ўдоў.
Камбайнеры, сяўцы і аграномы
Праславілі зямлю сваіх дзядоў,

Што некалі гібелі пры лучыне
І мералі абораю загон.
А ў нас прастор, што не абняць вачыма,
І болей Глускі не глухі раён.

Мой родны кут — вытока ўсіх вытокаў,
Перад табой схіляю галаву
І адчуваю сілу родных токаў,
Дзеля цябе працую і жыву.
1973

**УЗРОСТ**

Мне месца саступаюць у трамваі,
Я дзякую, але усё ж стаю:
Не толькі марку —
маладосць трымаю
Заўсёды неспакойную сваю.

Ні сцюжа не палохае, ні спёка,
Не гнуся ад нялёгкае хады,
Хоць і адсталі ад мяне далёка
Трывожныя юнацкія гады.

Гляджу на ўсё разважліва і проста,
Хоць страчанага болей не вярну,
І ўсё ж не веру пашпартнаму ўзросту,
Пакуль часамі ў люстра не зірну.
1973

**МАЯ ГЕАГРАФІЯ**

Я геаграфію вучыў не па канспектах,
Хоць і ўздыхаў начамі у тузе
Па экзатычных плошчах і праспектах,
Па акіянскіх штормах і тайзе.

Мне геаграфія адкрылася адразу
Выбоінамі палявых дарог,
За частаколам з нізкім пералазам
Чарнеў, як прывід, у тумане стог.

Асіннік, пад вятрамі парудзелы,
Здаваўся непраходным гушчаром,
За лазняком, сухім і парадзелым,
Гайдаўся каля берага паром.

З-за хмары сонца соннае глядзела,
Ракітнікі датлелі на кастры,

Ставок, каля закрайкаў заільдзелы,
Лістотаю завеялі вятры.

І ўсё такім у сэрцы засталося:
Узгоркі, пералескі, ветракі,
Патрушчанае коламі калоссе
І сумны матчын погляд з-пад рукі.

Я быў на Тэмзе, Тыбры і на Шпрэе,
Дзівіўся на Везувій з вышыні,
Шчарбатыя трыбуны Калізея
Тырчалі, як паточаныя пні.

Мільгалі шоўк, і рызманы, і штапель,
Фантаны і засмяглыя палі,
Рым хваляваў, а казачны Неапаль
Душу сваёй красою апаліў.

Над хвалямі Біскайскае затокі
Паблісквалі акулы серабром,
А ўспамінаўся ветразь адзінокі
І пачарнелы восеньскі паром.
1973

**РАЁННАЯ СТАЛІЦА**

Люблю спакой раённых гарадкоў,
З гародчыкамі, студнямі, дварамі,
На сінім золку цоканне падкоў
І хлебны дух ад новай крамы.

Язмін у пацерках расы,
Шпакоўні каля кожнай хаты,
Гарластых пеўняў галасы
На ганку райваенкамата,

Сцяжкі і дзераза трымцяць
На вільчыку ўрачыстай аркі,
А з Дошкі гонару глядзяць
Камбайнеры і ладныя даяркі.

Світанне пахне малаком,
Травою, кропам і аерам.
А з самай раніцы ў райком
Усе разнасцежаны дзверы.

У калідорах — халадок,
Гарачыня ва ўсіх пакоях:
Раённы ціхі гарадок
Ні дня не ведае спакою:

Зімой, увесну і ўпрыпар
Нікому не хапае часу,
І толькі ў поўнач сакратар
Пазвоніць з дальняга калгасу.

Спытае пра апоры ЛЭП,

Раскажа пра ўраджай пшаніцы;
То сее, то збірае хлеб
Мая раённая сталіца.

Сагнуцца яблыні ў садку,
Раскоціцца над полем навальніца,
А ў неспакойным ціхім гарадку
Не спіцца...
1973

## АПТЫМІЗМ

Бывае, ў дом пастукае бяда,
Пачнуцца крыўды, спрэчкі або звадкі,
Аж панядзелкам здасца серада,
А я кажу: «У нас усё ў парадку».

Калі хвароба часам прыгнянце,
Я не нахмуру у адчаі бровы,
А запрашу ў адведзіны гасцей
І буду пасміхацца, як здаровы.

А здарыцца — няўдача секане,
І нехта пацікавіцца зласліва,
Ці не сагнула гора і мяне,
А я скажу, што і цяпер шчаслівы,

Абы ніколі горай не было,
А гаркаты пазбудуся у працы.
Сабе на радасць, ворагам на зло
Не перастану весела ўсміхацца.

«Няшчыры!» — скажа крытык пра мяне.
Няхай сабе. Я нават не здзіўлюся,
Бо ведаю, што гора праміне,
А радасцю з сябрамі падзялюся.
1973

## АГОНЬ НА СЯБЕ

«Выклікаем агонь на сябе!»
Уяўляеце, што гэта значыць?
Пот бяжыць па гарачым ілбе,
Слых абвостраны, вочы пранізліва бачаць,
Думка б'ецца трывожна, як птушка ў сіле,
І шукае збавення і выйсця...
Застаецца апошні снарад у ствале,
І з агню ні прабіцца, ні выйсці.
Але іншыя пройдуць, дзе нам не прайсці,
І прыпыняцца тут пасля цяжкай дарогі.
Не на смерці — на нашым бясконцым жыцці
Узаўецца абпалены сцяг Перамогі.
Пацішэла.
Радыстка дзяўбе і дзяўбе:
«Выклікаем агонь
на сябе!..»

**САЛАСПІЛС**

За гэтымі варотамі стогне зямля.

*Надпіс на варотах былога лагера смерці Саласпілс*

Балючай памяццю прыкуты
Да тых гадоў, калі навіс
Пякельным прывідам пакуты
Над чалавецтвам Саласпілс.

Ад той бяды не адкаснуцца,
Не засланіцца, не ўцячы,
Ад горкіх думак не ачнуцца,
Сном не забыцца уначы.

На гулкіх саласпілскіх плітах
Мяне хістаюць гнеў і боль,
На іх, імёнамі забітых,
З крывёю праступае соль.

Гняце палон галюцынацый:
Нібыта ў даўнія часы
На дыбе ўсіх плямён і нацый
Жывыя чую галасы.

Гудуць знямелыя баракі,
На плошчы — шыбеніцы цень,
І паміраюць небаракі
За сотняй сотня дзень у дзень.

З-пад Рыгі, Вільнюса і Брэста
З ашклёным поглядам тугі
Чакаюць нечыя нявесты
Свае смяротнае чаргі.

Дзіця, пабітае струпамі,
З адчаем раскрывае рот,
Рукамі цягнецца да мамы,
А натыкаецца на дрот,

І курчыцца, і папялее,
Знікае ў парудзелі»! жвір,
Аўчарка дзікая шалее,
Рагоча сыты канваір.

Па кропельцы са свістам шпрыцы
З дзіцячых сэрцаў смокчуць кроў,
Каб ачунялі тыя фрыцы,
Што будуць бітыя ізноў.

У цішыні на плітах стылых
Душу пякельны гнеў пячэ,
Бо кроў дзяцей у сініх жылах
Былых эсэсаўцаў цячэ.

Яны склярознымі вачамі
Глядзяць, нібыта ведзьмакі,
А ў рэбры доўгімі начамі
Чыесь грукочуць кулакі.

Трызняцца раны на шкілеце
І пісягі удоўж спіны,
Крычаць нявырасшыя дзеці
З пялёнак вогненных вайны.

Чаму ж не вар'яцеюць каты?
Чаму жывуць сярод жывых?
Чаму за попел і за страты
Грамы не пакараюць іх?

— Чаму?
— Чаму? — крычаць каменні,
І стогне горкая зямля:
— Не, мы не сталі на калені.
— Не захліснула нас пятля.
— Не згрызлі нас клыкі крывыя.
— Мы не згарэлі на агні.
— Мы вечныя!
— Мы ўсе жывыя!
— Мы ў лёсе нашае радні.
— Мы ўсе адной пакуты дзеці.
— Мы ўсе ахвяры без віны,
Стаім і сёння, каб на свеце
Раслі спакойныя сыны…

Маўчыць, нібыта на паверцы,
Бетонны вязень, як тады,
І слухае удары сэрцаў
Сяброў з-пад чорнае пліты.

Становіцца да болю млосна,
Гудуць жалобныя вятры,
Людзьмі абгрызеныя сосны
Стаяць дагэтуль без кары.

На плітах зацвітае верас,
Губляе ластаўка пяро,
Але сляза не засціць веры
У справядлівасць і дабро.

## ПРАШУСЯ Ў ГОСЦІ ДА НАШЧАДКА

Мінуць гады, а мне і не знайсці
Масткоў, сцяжынак і трывалых кладак,
Каб да цябе няпрошаным дайсці,
Далёкі мой дасведчаны нашчадак.
Я ў сэрца не пастукаю крадком
І не здзіўлю разважлівы твой розум
Ні рыфмаю заточаным радком,
Ні ўсхваляванаю старонкай прозы.
А спадзяваўся ж расказаць як ёсць
Пра ўсё, чым жыў твой апантаны продак,
Як гартавалі нашу маладосць
Агні і сцюжы першых пяцігодак,
Як мы ішлі скрозь буры напралом,
Як быў з нас кожны муляр і араты,
Як тыя, што варочалі кайлом,
Сягнулі ў космас, расшчапілі атам,

Праклалі шлях у электронны век
І задалі табе мільён загадак,
Бо наша прага і ў табе жыве,
Шчаслівы і дасведчаны нашчадак.
Цябе маё прызнанне не кране,
А ўсё ж успамінай і слухай зрэдку
Не пра мяне і не мяне,
А нашых дзён удзельніка і сведку.
1974

**ЦВЯРОЗАСЦЬ**

Уранні думалася: ўсё перавярну.
Удзень гарбеў над цяжкаю работай,
Здавалася, адкрыю навіну,
Хоць сам часамі сумняваўся ўпотай.

А звечарэла, паглядзеў здаля
На ўласныя нікчэмныя набыткі:
Ад іх не ўзбагацілася зямля,
Таму і крыўдна, і на людзях брыдка.

Таму шчырую, хоць рубеж відзён,
І да змяркання — небагата дзён.
1974

* * *

Шыццё пражыць —
Не поле перайсці,
А трэба і жыццё
Прайсці, як поле,
І хоць адным
Зярняткам узысці,
А бур’янам
Не зарасці ніколі.
1974

* * *

Што след прастыў на змятай руце,
Што разышліся нашыя шляхі,
Каханыя, прабачце і даруйце,
І толькі не лічыце за грахі

Ўсё, што было і што не адбылося —
Трымценне рук, і сэрцаў, і душы,
Забылася даспелае калоссе,
Што колісь закалыхвала ў цішы.

Я ж не забыўся. Помню ўсе драбніцы:
Спякотны шэпт і ранішнюю млосць,
Таму так часта мроіцца і сніцца
На жытніх сцежках наша маладосць.
1974

## ГРУЗЧЫК
## СОРАК ПЕРШАГА ГОДА

Я засыпаў калісьці на хаду
І нават сніў знявечанае шчасце,
За пень чапляўся — думаў, упаду,
Але таварыш не даваў упасці.

Сузор'яў датлявалі светлякі,
На вогнішчах курылася карчэўе,
Я сонна пазіраў на ўсе бакі,
А бачыў старасвецкае качэўе:

Снавалі цені ў водблісках агню,
Сагнутыя пад смольнымі камлямі,
І хрусткую ламалі цішыню
Над густа заінелымі палямі.

Я адграбаў, як павуцінне, сон
І не даваў сабе самому спуску,
Хоць гулка зеўраў пустатой вагон,
Апоўначы прыгнаны на пагрузку.

Пад шпальнікам, у стрэмках і ў смале,
Кракталі мы і гнуліся не дарам,
І на плячы тугі рубец смылеў
Пад ватнікам, прапахлым шкіпінарам,

Трашчалі косці, але я прутчэў,
Наскрозь працяты неадольнай верай,
Што да світання загружу яшчэ
Бяздонны пульман авіяфанерай,

Ружэйнага балванкай, кругляком,
І ўсё зраблю, пакуль трываюць ногі,
Каб адышлі саставы з вецярком
І далучылі нас да Перамогі,

Нікому не вядомых, тылавых,
З вайсковага уліку рана знятых,
Хоць хісткіх, пасінелых, ды жывых
Падносчыкаў і грузчыкаў зацятых...

Я з тымі, хто грузіў, капаў руду,
Да Вечнага агню ў святочны ранак
Услед за пераможцамі іду,
Хоць не нашу ні ордэнаў, ні планак.

## НА АРЭЛЯХ ПАМЯЦІ

Кастры майго юнацтва дагарэлі,
На расцяробах выраслі лясы,
А успамінаў хісткія арэлі
Яшчэ плывуць у даўнія часы.

Гайдаюся то нізка, то высока
І бачу ўсё то зблізку, то здаля,

Калі паіла верасовым сокам
Мяне з крыніц настылая зямля.

Я захлынаўся прагнымі глыткамі
І за сасной усцяж валіў сасну,
Глядзелі пні дакорліва віткамі
Сваіх гадоў,
а я чакаў вясну.

Чакаў: растануць раннія сумёты,
Чакаў: зіма завейная міне,
І зноў вясёлак светлыя вароты
Разнасцежаць прасторы для мяне.

А да вясны яшчэ было далёка,
І завіруха дзень і ноч мяла,
Ды я не гнуўся, кажучы няўрокам,
Хоць гнула ў тры пагібелі піла.

Я лес валіў. Лістоўніцы і кедры
Зрываліся у розныя бакі
І падалі ў заснежаныя нетры,
Ламаючы падлесак і сукі.

А на змярканні вогнішчы палалі,
Гула тайга ад ветру і тугі,
І першых зорак буйныя каралі
Каціліся ў блакітныя снягі.

Глядзеў крумкач з галіны хіжым вокам,
Але свісталі пілы дацямна.
Я лес валіў.
За Эльбаю, далёка,
Канчалася апошняя вайна.
1974

**СУМ ПА СНЕЗЕ**

Зноў смала замярзае на зрэзе,
Пасівела зямля і, як бубен, гудзе,
І па снезе сумуе,
Сумуе па снезе:
Пачынаецца снежань, а снег не ідзе.

Змрок у вокны сляпіцаю лезе,
І калючыя зоркі туманіць зіма,
Рунь на снезе сумуе,
Сумуе па снезе —
Хутка студзень, а снегу няма і няма.

Іней шорсткай іголіцай блішчыць на жалезе,
Адзінокі снягір на бярозе знямеў.
Я па снезе сумую,
Сумую па снезе,
Па звычайнай, блакітнай і чыстай зіме.
1974

## ЗАЗІМАК

Пажоўклая галінка на бярозе —
Прыкмета нечаканай сівізны.
Прыпахла ўсё ў чаканні і ў трывозе:
Бліжэй зіма, далёка да вясны.

За ноч пясок на беразе астыне,
Замоўкне жураўліны пералёт,
Счарнеюць у гародчыку вяргіні,
І заіскрыцца ў лужах тонкі лёд,

Астынуць сонца кволыя праменні,
У хмарах затрымаецца зара,
Замоўкне ўсё ў глыбокім задуменні
Вось і настала мудрасці пара.

Нічога не мяняецца ў прыродзе:
То спёка, то снягі, то туманы,—
І з веку ў век усё у поўнай згодзе:
Зямля чакае новае вясны.
1973

## ДАВЕР

Празрыстая аж да прадоння
Мая палеская рака,
І я на беразе з далоні
Кармлю падбітага шпака.

Ён пазірае з недаверам
Трывожным вокам з-пад навек.
Няўжо яму каварным зверам
Здаецца кожны чалавек?

І брыдка робіцца, і горка,
Калі, убачыўшы мяне,
Як апантаная, вавёрка
На елку з хвоі сігане.

І нават спуджаныя коні
Бягуць у засень хмызняка.
А я шчаслівы, што з далоні
Кармлю маленькага шпака.
1974

* * *

Нялёгка пасівеламу паэту:
Ачах агонь і асядае дым.
А я вучуся ў Цютчава і ў Фета
І ў шэсцьдзесят застацца маладым.

Пры іх наскрозь дынастыя струхлела,
Жывыя душы завалакваў змрок,
А сэрца, хоць і ныла, але пела,
І з кожным днём вастрэй рабіўся зрок.

Мая ж зямля штодзённа маладзее,
Куды ні глянь — равеснікаў сляды,
А здзейсненыя мары і надзеі
Як сведчанне дабра і праваты.

Працуй, паэт, не ведаючы змогі,
Пакуль рука не выпусціць пяра.
Цябе яшчэ чакаюць перамогі
Для радасці, для шчасця і дабра.

## РАДНЯ

5 жніўня 1824 года па дарозе з Адэсы ў Міхайлаўскае ссыльны Пушкін спыніўся ў Магілёве. Тут з радасцю яго сустрэлі прыхільнікі.

Ад раніцы і да змяркання
Паміж лясоў, балот, пяскоў
З выгнання едзе у выгнанне
Паэт дарогаю на Пскоў.

На Беларусі спее лета,
Жывіцай дыхае з бароў,
І тут, здаецца, у паэта
Няма ні блізкіх, ні сяброў.

Ён ловіць кожны гук і слова
Жывой славянскай чысціні,
І замільгалі Магілёва
У змроку першыя агні.

Плывуць з Дняпра за хмарай хмары,
Гамоніць пастаялы двор,
І раптам статныя гусары
Яго здзівілі звонам шпор.

Пазналі, узнялі на рукі —
Не адкруціцца, не ўцячы.
І не змаўкаюць песень гукі
Да самай раніцы з начы.

Кіпяць і пеняцца бакалы,
Маланка б'е на ўсе бакі,
Грымяць вышэйшага напалу
Вольналюбівыя радкі,

І оду «Вольнасць» з хваляваннем
Чытаюць новыя сябры,
Пакуль малінавае ранне
Не занялося на Дняпры.

Пара выгнанніку ў дарогу:
Чакаюць коні і вазак,
Але гусары ля парога
Не развітаюцца ніяк.

Яго праводзяць да заставы

І пазіраюць доўга ўслед,
Здаецца шлях дарогай славы
І грозным волатам паэт.

А ён гайдаецца ў карэце
Пад песню жней насустрач дню
І знае, што на белым свеце
Ён мае блізкую радню.
1974

**НЯЗГАСЛЫ СЛЕД**

> Простите, верные дубравы!
> Проста, беспечный мир полей,
> И легкокрылые забавы
> Столь быстро улетевших дней!
> *А. Пушкін*

Над Сораццю спяваюць салаўі,
Чаромхаю туманіцца зарэчча,
І журацца дубровы і гаі,
Што з ім не дачакаюцца сустрэчы,

Што не пачуюць цокат капытоў
І строфы вершаў, і паэм пачаткі,
Што мяккімі далонямі лістоў
Не дакрануцца да яго крылаткі.

Замшэлы дуб каля трыгорскіх strom
Сумуе і ўглядаецца заўсёды,
Калі ў самотны апусцелы дом
Паэт прыедзе праз усе нягоды.

А ён ніводнай сцежкі не забыў,
Ён недзе тут, яго не моўкне голас
На той зямлі, якую так любіў,
Дзе лес шуміць і даспявае колас.

У кожным сэрцы ён пакінуў след,
Дабра з сябе не склаўшы абавязкі,
І куляю няскораны паэт
Жыве, смяецца, прыдумляе казкі.

...Чаму ж не едзе? Можа, з Чорнай рэчкі
Дарогі ўсе снягамі замяло?
На скразняку жыцця патухла свечка,
А над зямлёю сонца узышло.
1974
*Пушкінскія горы*

**ПЛАЧУ ДАЎГІ**

Мой шлях няроўны і даўгі,
На ім часцей правалы, чым удачы.
Таму за кожны дзень плачу даўгі
І не магу нічога перайначыць.

Плачу за сонца, за ваду і хлеб,
За летні дождж, за золакі і зоры,
Плачу, што не аглух і. не аслеп
Да чалавечых радасцей і гора.

Я вінаваты сейбіту заўжды,
Што не ўзышоў і не паспеў мой колас,
Што на барознах — не мае сляды,
А ў навальніцу мой асекся голас.

Расплачваюся я і зноў лічу,
Што у мяне даўгоў яшчэ багата.
Плачу даўгі.
А чым плачу?
Работаю, сумленнем і спагадай.
1974

**ПРАЗ ТРЫЦЦАЦЬ ГОД**

То снег, то дождж,
То вецер і слата,
Паўзуць начамі
Волкія туманы.
Няма ні тэлеграмы,
Ні ліста,
І не прыходзіць друг
Даўно чаканы.
Трызніць бальніца
У трывожных снах:
Камандуюць
Бязрукія камбаты,
Хоць і даўно
Забылі аб чынах,
Хоць і даўно
Па пенсіі салдаты.
А раны ныюць,
І смыляць рубцы
На непагадзь,
На дождж і навальніцу,
Зрываюцца ў атаку
Зноў байцы
З гарачых ложкаў
Гарадской бальніцы,
І клічуць так,
Як некалі сястрыцу,
І цягнуцца
Да цёплае рукі,
І толькі каб не здацца,
Не скарыцца,
Сціскаюць аж да хрусту
Кулакі.
У ваяўнічых снах
Трызніць бальніца,
Пакуль у вокны
Не зірне зара.
Начамі доктару
Не спіцца,

І да світання
Не засне сястра.

**БАЦЬКАЎШЧЫНЕ**

Табе я вечна вінаваты,
А расплаціцца не магу,
За хлеб, за соль, за боль, за святы
Я вечна у цябе ў даўгу.

За зорны вечар і дасвецці,
За чысціню тваіх крыніц,
За яблыняў тугое вецце,
За гул дажджоў і навальніц.

За светлую любоў і ласку,
За горы, рэкі і масты,—
За ўсё, што не па абавязку,
А проста аддаеш мне ты.

Ты у мяне адна, як маці,
Непадуладная гадам.
Таму за твой спакой і шчасце
Хоць і цяпер жыццё аддам.
1974

**ПРЫЗНАННЕ САБЕ**

Пара падвесці вынікі і рысу
Дабра і зла, памылак і трывог,
І мітусні, якою ганарыўся
І ад якой пазбавіцца не мог.
Дні папялелі ў непатрэбным тлуме
З разлікам па эфект і на наказ,
А глыбіні недаставала думе,
І часам быў пустой бразготкай сказ.
А колькі непабачаных світанняў,
Не сходжаных сцяжын і росных траў,
А колькі непасланых прывітанняў,
Што мог паслаць, ды так і не паслаў!
Часамі быў не па гадах бяздумны,
Наіўны і даверлівы прастак.
Таму цяпер успомніць нават сумна,
Што жыў не так і штосьці рабіў не так.
Цяжэй за ўсё судзіць сябе самога
І нават дробязь ставіць у дакор.
Калі відзён ужо канец дарогі,
Ты сам сабо — суддзя і пракурор.
І я суджу, суджу сябе без скідак,
Хоць выправіць нічога не змагу,
Я ведаю нязначны свой набытак
І што ў людзей заўсёды у даўгу.
1974

**ПОБАЧ**

Ад снегу светла па двары
І гулка ад мяцеліцы,
Нібыта срэбныя дары
Табе пад ногі сцелюцца.

Не пакаўзніся, не ўпадзі
У каляіны белыя,
Цвярдзей, упэўнена ідзі,
Як ходзяць толькі смелыя.

Наўкол і ямы, і яры,
Укрытыя завеямі,
І пад нагамі, і ўгары,
Віецца замець змеямі.

Не бойся:
                побач мы ідзем,—
Не пакаўзнёмся, не ўпадзем!
1974

СТРЭС

Мы людзи — нас легко обидеть.
*В. Фёдараў*

Усё часцей і медыкі і прэса
Засцерагаюць нас ад стрэсаў,
Але душу трасуць штодня
Благі начальнік і радня,
Часамі б’юць пад самы дых
І пажылых і маладых
Вымовай, з’едлівым папрокам,
Ці плёткаю, што ненарокам
Пусціў бяздумна лепшы друг,
І вось ужо замкнуўся круг:
Ты непрыкметны, ты ў апале,
Саслаблі рукі і апалі,
Не мілы нават белы свет,
І ўжо нікому не сакрэт,
Што ты не той, кім быў учора,
Што і цябе сагнула гора.
«Ага! — смяецца «дабрадзей»,—
Ён не падобен на людзей:
Яго ж нідзе не ўспамінаюць,
Сябры і тыя абмінаюць,
Маўчыць па тыдню тэлефон,
І з працы хочуць выгнаць вон».
Дасведчаныя «дабрадзеі»
Не пакідаюць нам надзеі,
І дзень у дзень, нібыта прэс,
Гняце душу і сэрца стрэс.
У слабых ледзянее кроў,
А ўранні — «Групаю сяброў»
Падпісан сціплы некралог.
А хто ў няшчасці дапамог?
Хто завітаў ну хоць бы ўчора,

Каб адхіліць бяду і гора?
І толькі сёння бачыш ты:
Як не стае нам дабраты.
1974

**СТАРЫЦА**

Занесла глеем ямы і віры,
І парудзеў чарот на узбярэжжы.
Тут шчупакі не вымечуць ікры
І не закінуць рыбакі мярэжы.

Патрушчаныя ракаўкі блішчаць
На сыпкім жвіры, збітым капытамі,
І датляваюць шчэлепы ляшча,
Дзе некалі былі віры і ямы.

Вясною віратлівая вада
Сабе другое рэчышча прабіла,
І вось на перакатах і брадах
Шуміць яе няўрымслівая сіла.

А старыцу пяскамі замяло,
На берагах сівее горкі блёкат,
Валяецца зламанае вясло,
І не чуцён буслоў вясёлы клёкат.

У новай рэчцы плешчуць шчупакі,
Віры падмылі тоўстае карэнне,
У дождж да паўнаводнае ракі
Бягуць з узгоркаў стромкія струмені.

І чалавек з гадамі, нібы старыца,
Мялее і патроху старыцца,
А побач, каля гулкага стаўка,
Бруіцца паўнаводная рака.
1974

**МАЕ ЗВАННІ**

«А якое ваша званне?» —
Запыталіся ў мяне.
Ведаў я, што хваляванне
Не адразу праміне.

«Меў я званне немаўляці,
Пастушком увосень мок,
І мяне часамі маці
Ціха клікала «сынок».

Зроду я не быў задзіра,
А вясёлы, малады
Лесарубам, брыгадзірам
Зваўся многія гады.

Я лічыў — мы толькі дружым,

Але з пэўнае пары
Любая назвала мужам,
(А цяпер заве «стары»).

І было вялікім святам,
Як ступіўшы першы крок,
І мяне выразна татам
Звалі дочка і сынок.

Два унукі ходзяць следам,
Або ездзяць на спіне,
І заўсёды клічуць дзедам
Тыя жэўжыкі мяне.

Я гляджу без хвалявання,
Як імкліва час бяжыць,
Бо хачу яшчэ дазвання
Хоць бы прадзеда дажыць».
1974

**ЗНІЧКІ**

Знікае ў полі лыжнік
За шэраю шашой,
А ён паэт і кніжнік
З дзіцячаю душой.

На строму крута лезе,
Ляціць уздоўж ракі,
І зничкамі на снезе
Пабліскваюць радкі,

То мільгануць на голлі,
То на сухім трысці,
І хочацца да болю
Хоць бы адзін знайсці,

Нячуты, непрапеты,
Не знойдзены нікім.
Каторы век паэты
Спяшаюцца за ім!

Іначай немагчыма
Пакутаваць і жыць…
Знік лыжнік за лагчынак
А знічка ўсё дрыжыць.
1974

**РАДАСЦЬ**

Яшчэ адзін пражыты дзень
Паволі знік, нібыта цень.
Ляжаць разгорнутыя сшыткі,
А ў іх — ні слова, ні радка,
Хоць думаў, значныя набыткі
Запіша ў іх мая рука.

Душа, здаецца, апусцела,
І ные зморанае цела.
Ды ўспомніў: сёння па світанні,
Калі шукаў патрэбных слоў,
Сляпога стрэў на скрыжаванні
І аж да доктара давёў.
Магчыма ён убачыць свет,
А слоў не шкода.
Усё як след.
1974

**МЯНЯЮ**

Хоць я з кійком яшчэ не швэндаю,
Пакуль што пэўны, цвёрды крок,
А пенсію мяняю па стыпендыю
І тры пакоі на адзін куток,

Сталовую — на гулкую сталоўку,
Прысмакі — на нішчымныя харчы:
На хлеб, кефір, на часнаку галоўку
І на бяссонне ўранні і ўначы.

Мяняю ўсё — і дываны і дачу
На той закутак, што ў студэнта ёсць,
А да ўсяго яшчэ прашу ў прыдачу
Зусім нямнога — толькі маладосць.
1974

**ВЕКАВУХА**

У роце солана і суха,
Усё заслаў туман густы,
Калі знянацку — «векавуха»,
Упершыню пачула ты.

А ты ж кахала, і кахалі
Цябе да енку у душы,
І вас надзеі калыхалі,
Як на ляшчыне спарышы.

У хаце блізкае вяселле
Запахла брагаю густой,
І прычакала ты нядзелі
У вяночку з белаю фатой.

А на світанні ў сельсавеце
Ўсіх аглушыла навіна,
Што дакацілася па свеце
Да нашай вуліцы вайна.

У полі жыта папялела,
Палала стромкая страха,
І ты ўжо болей не сустрэла
Сватоў, дружкоў і жаніха.

Гарэлі і зямля і неба,
Бой і дасюль гудзе ўвушшу.

Што ты сцярпела!
Лепш не трэба
Кранаць збалелую душу.

Яшчэ не раз хадзілі ў сваты
І бралі хлопцы у палон,
А ты свайго чакала свята
І жаніха з юначых дзён.

Адной пакут было нямала,
І мала радасці ў жыцці:
Без ласкі ў сорак год завяла
Ты, не паспеўшы расцвісці.

Гнятуць часамі боль і скруха,
А сэрца паўтарае: «Вер!»
«Ідуць гады.
А векавуха
Яго чакае і цяпер.
1975

**КОЛЕРЫ**

Увесну ўсе зялёныя сады,
Зялёныя гаі і пералескі,
І на траве — зялёныя сляды,
Пазелянелі на дрывотні трэскі.

Гукае нас зялёная вясна
Таемным шэптам і птушыным звонам,
У водарасцях бліскае блясна
Маладзічком то срэбным,
то зялёным.

І сонца між аблокаў на вадзе
Гайдаецца, як жоўценькі гарлачык,
А прыйдзе восень, з клёна упадзе
Чырвоны ліст, як вугалёк, гарачы.

Бярозы спелым воскам аплывуць,
За ноч асіннік прыбярэцца ў барвы,
Кашлаты дуб узніме галаву,
Каб зіхацелі ўсіх адценняў фарбы.

Асенні сад — у шале хараства,
Рабіна на сябе парчу адзела,
Пажоўк чарот, і на лугах трава
Пад шызаю расою парудзела.

Так і паэзія — зялёная вясной,
А восенню — ўсе колеры у ёй.
1975

**ПАХАВАННЕ БАРХАНАЎ**

Не толькі ружы ў Намангане,
І вінаград, і алыча,
Тут днём і ноччу — намаганні
Да болю з хрустам у плячах.

Да рання белая пустыня
Ад лютай спёкі не астыне.
Дымяцца боты на пяску,
І на зубах жарства скрыгоча,
З барханаў хрусткую луску
Здзірае вецер апаўночы.

Паўзуць бухматыя барханы,
Нібы распешчаныя ханы.

І асцярожныя сляды
Знікаюць у пясках зыбучых,
Здаецца прыганам рудым
Укрыты саксаул калючы.

А дзе канчаецца вада,
Там пачынаецца бяда:

Шыццё канчаецца з вадою.
Барханы — аж па небасхіл
Гарбы ўзнімаюць чарадою,
Нібыта тысячы магіл.

Ды па барханах цягачы
Паўзуць уранні і ўначы,
І экскаватар з доўгай шыяй
Глытае жорсткую жарству,
З глыбінь карэньчыкі жывыя
І перапрэлую траву.

Павываречваў і суглінак
З адбіткамі сухіх галінак.

Тут некалі гаі шумелі,
І вінаградзінаў саскі
Ад соку і ад сонца млелі,
Пакуль не напаўзлі пяскі.

Дыхнулі вільгаццю траншэі —
І дзень спякотны харашэе.

Бульдозеры пяскі зганяюць,
Скрыпача экскаватар зноў:
Барханы назаўжды хаваюць
У доўгі і глыбокі роў.

Бягуць арыкамі сюды
Струмені светлае вады.

Плыве, празрысты, як сляза,
Канал, па самы бераг поўны,
Каб вінаградная лаза

Прыкрыла кубачкі бавоўны.

Над Наманганам месяц стыне,
І зноў шуміць вясна ў пустыні.

## ПОШУКІ ДРУГА

На сонны горад
Ціхі снег ідзе,
Падбельвае карнізы
І прысады,
Праспект, нібы вясной,
Памаладзеў
Ад светлага
Начнога снегападу.
Снег
Ліхтары і дахі палудзіў,
Сады прыбраў
У белыя мярэжы,
Я на знаёмых вуліцах
Зблудзіў,
І не пускаў
Мяне з палону снежань.
Я не адзін.
Яшчэ блукае хтосьці,
Каб сэрцам
І душою не старэць,
І топча сцежку,
І дарогу месціць,
Каб друга
Незнаёмага сустрэць.
Пабліскваюць тралейбусы.
Світае.
На белы горад
Будзе снег ісці.
Вядзе надзея
Кожнага святая,
Каб толькі
Друга шчырага знайсці.
1975

## РУДАКІ

*«Дабру і міру кожны мудры рад*
*Трызніць вайной нягоднік і вар'ят».*

Пакінуў афарызм такі
Сваім нашчадкам Рудакі,

А сам усе гады ў чаканні
Радкі адточваў і чаканіў.

Іх памяталі ганчары,
Купцы, аратыя, цары.

Ад Бухары аж да Кітая

Яго паэзія святая

Натхняла ўсіх. Ды здраднік выдаў
Паэта гневу Саманідаў[2].

Паклёпнік кляўся на каране
І ўсё ж дамогся пакарання:

Дужэй за вершы стаў данос
І вырашыў паэтаў лёс.

Прысуд падпісан без вагання
На вечны голад і выгнанне.

Адзін-адным сляпы паэт
Пайшоў з кійком у цёмны свет.

Сярод відушчых самы зоркі,
Паэт для ўсіх запальваў зоркі.

На кірмашы, радзінах, свяце
Складаў газелі на барбаце[3],

Што будзе зло прыдворнай світы
І Саманідаў род забыты.

Праз гора, горы і вякі
Ідзе па свеце Рудакі.
1975

[2] Саманіды — таджыкская феадальная дынастыя IX—X ст.
[3] Барбат — музычны інструмент, накшталт лютні.

## ЧАМУ НЕ Я?

На друга нечаканае няшчасце
Звалілася, нібыта горы хмар,
А ён трываў, каб у адчай не ўпасці,
Пакуль не збіў яго другі удар.

Я часам спагадаў яму здалёку,
Трывожыўся, каб гора не звяло,
А мог прынесці хоць на дзень палёгку,
Але зайсці ўсё часу не было.

За мітуснёй, за непатрэбным тлумам
Не заўважаў ні тыдняў, пі гадзін,
І ўспамінаў радзей, і не падумаў,
Як ён з бядою справіцца адзін.

Калі ж спазніўся, мучыць і трывожыць
Сумленне, і баліць душа мая,
Бо спадзяваўся — нехта дапаможа,
І не падумаў: «А чаму не я?»
1975

* * *
Няўцерпныя, з сівымі валасамі,
Хоць мы даўным-даўно не дзецюкі,
Калючымі становімся часамі
І ўспыхваем, як тыя сернікі:

Абразім незнаёмага, зняславім
Таварыша, што посна паглядзіць,
І не спытаем: «А ці маем права
Без абаронцаў некага судзіць?»

Для дабраты патрэбна так нямнога.
Адну спасцігнуць ісціну ў жыцці,
Што найцяжэй судзіць сябе самога,
Чым у другога плямінку знайсці.
1975

* * *
Якое гора — сына пахаваць,
Бяда — не ведаць, дзе яго магіла.
Адкуль бяруцца толькі ў маці сілы
У адзіноце век свой векаваць?
1975

* * *
Не задаваліся, не ўпадзі ў адчай,
Калі бывае радасна ці горка,
А славу і папрок не прыкмячай
І ўспамінай, што нават гасне зорка.

Жыві, шукай, усё рабі як след,
Каб на Радзіме твой свяціўся след.
1975

## ПРЫБУДЗЕ ДЗЕНЬ

Я дзень люблю,
І сонца, і вясну,
Калі іскрыцца
Ранняе разводдзе,
Калі маланкі.
Хмару паласнуць,
І грымне гром
На захадзе і ўсходзе.

Праб’ецца з лужын
Кволая трава,
І сонца поплаў
Лотаццю засцеле,
Закружыцца
На золку галава
Ад веснавога
Водару і хмелю.

Ляцяць гусей

І качак касякі,
Шчаслівы шпак
Купаецца і свішча,
Чуваць здалёку,
Як цецерукі
Буркочуць на зарэчным
Такавішчы.
Ідзе па свеце
Светлая вясна,
Прыбудзе дзень,
І радасці прыбудзе,
Калі ніколі на Зямлі
«Вай-на!»
Не закрычаць
Знявечаныя людзі.
1975

**ПАРУШАНАЯ КЛЯТВА**

Вядуць жаніх з нявестаю радню
На плошчу Перамогі, да агню,
Кладуць букеты на граніце ў рад
Жаніх з нявестаю і сват.
Паблісквають у свата ордэны —
Ён быў салдатам праведнай вайны,
Дажыў да Перамогі, а сябры
Загінулі на Волзе і Дняпры.
Ён, іхні паўнамоцны прадстаўнік,
Цераз плячо перавязаў ручнік
І ціха кажа: «Прысягніце ім,
Аднапалчанам і сябрам маім».
На вернасць і адданасць назаўжды
Клянуцца з маладою малады.
Па люднай плошчы, каб глядзелі ўсе,
Жаніх нявесту на руках нясе.
Таксі знікаюць, разышоўся дым.
Усе жадаюць шчасця маладым.
А ці шчаслівы будзе кожны з іх?
...Мне праз паўгода стрэўся той жаніх.
Я запытаў:
— На Плошчы вы кляліся,
А ці стрымалі клятву?
— Раз-вялі-ся,
Бо памыліўся ўпершыню ў жыцці.
Цяпер на Плошчу сорамна ісці.
1975

**УЗОР**

Трашчала ноччу смольная лучына,
Ляцела ў комін плойма зыркіх зор,
Да раніцы самотная жанчына
На кроснах ткала,
ткала свой узор.

А за сцяною, тупаючы глуха,

Сукала пражу ў срэбныя ніты
І спрытна вышывала завіруха
На цёмных шыбах кветкі і лісты.

Пялёсткі, як жывыя, выплывалі
На тонкім ручніку з-пад чаўнака,
І не дрыжала ад знямогі ў ткаллі
Натхнёная ласкавая рука.

Яна шукала ўзоры з хваляваннем,
З юнацтва ткала да сівых валос,
І не згасалі ў сэрцы спадзяванні
На лепшы час, на светлы лёс.

Яна бяліла ручнікі на снезе,
На росах за аселіцай сяла,
Сушыла іх на яблынях і бэзе
І ў спадчыну нашчадкам аддала.

Дзівіліся з узораў тых суседкі
І доўгімі начамі, як маглі,
На ручнікі, абрусы і сурвэткі
Пялёсткі і зубцы перавялі.

Хавалі іх у куфрах і ў каморы,
Дарылі шчодра дочкам у пасаг.
А сёння непаўторныя узоры
Аздобілі наш палымяны сцяг.
1975

**СІВАЯ МАЛАДОСЦЬ**

На замаразкі вызарыла поўнач,
У шэрані апалыя лісты,
І злёгку затуманеная поўня
Убралася ў пярсцёнак залаты.

Курыцца ў небе замець Млечным Шляхам,
Іглістым лёдам бліскае вада,
Ляцяць начамі змораныя птахі
У белы свет з настылага гнязда.

А самыя адважныя зімуюць,
Хоць надышла суровая пара,
Ратуюцца і бліжняга ратуюць,
Каб не згубіць ніводнага пяра.

І ў нас увосень скроні заінелі,
Але ў душы яшчэ падзея ёсць
Зрабіць усё, што ўчора не паспелі,
Хоць і прыйшла сівая маладосць,

Бо верым — для натхнення і дабра
Настала зорнай восені пара.
1975

**У ЛАЗНІ**

Якая любата у лазні,
Калі па стомленай спіне
Дубовы венік хлёстка лясне
І цубкім лісцем секане.

Усе тут роўныя, як дзеці,
Тут — радасць разамлелых душ:
Распараны, ў старым берэце,
Таўстун выскаквае пад душ.

Другі — пялёскаецца ў шайцы.
Тут кожнаму што хочаш рэж,
Бо ні па лычках, ні па шапцы
Ніяк чыноў не разбярэш.

На ўсіх — адзіная апратка,
І кожны з гэтых Целяшоў,
У чым яго радзіла матка,
У тым і парыцца прыйшоў.

А ў некаторых ёсць прыкметы
І ёсць вышэйшыя чыны.
Іх палявыя лазарэты
Засведчылі ў агні вайны.

Бяспалаю рукою краны
Адкручвае былы баец:
На ім — залатаныя раны,
І на грудзях набрак рубец.

Другі — увесь у пенным мыле,
Такі, здаецца, як і ўсе,
Але падняўся і без мыліц
Патупаў на адной назе.

Ім кожны саступае лаву,
Шаруюць плечы, як сваім,
Бо маюць цвёрдую падставу
І ў лазні пакланіцца ім.
1975

**БАРАДАЧЫ**

Мы, абаронцы ісцін і асноў,
Прывыклі папракаць, вучыць і раіць
І часта дакараць сваіх сыноў,
Хоць нас яны суровей дакараюць.

Здаецца нам, што ясна ўсё, як дзень,
І зразумела да апошняй рысы.
Гаворыш сыну: «Гарнітур надзень»,
А ён пацягне куртачку і джынсы.

Злуёмся: «Сёння ж патлы абстрыжы
І будзь як чалавек, хоць бы на свята»,

А ён, не азірнуўшыся, бяжыць
Расхлістаны, няголены, кудлаты.

Мы ў прыклад ставім нашу маладосць,
Што з памяці ніколі не выходзіць,
А ён, стаіўшы за усмешкай злосць,
Адказвае: «Мінулае стагоддзе!»

Каторы раз расказваем, як мы
У кажушках і латаных валёнках
Вазілі дровы да канца зімы,
А ён пытае: «Дзе б дастаць дублёнку?»

Даводзіць, што старым не ацаніць
Ні густаў моладзі, ні стыль сучасны.
Паслухаеш — аж сэрца засмыліць,
Што многае і сапраўды не ясна.

Мільгне крадком у памяці той час,
Не вельмі значны і зусім кароткі,
Калі за гальштукі кляймілі нас
Прыхільнікі старой касавароткі.

Я ўспомніў: за Дудзінкаю ўначы,
Калі дажджом хвастала непагода,
Неакрыялыя яшчэ барадачы
Руду грузілі ў трумы парахода.

На запалярных трасах сустракаў
Я апантаных і на ўсё гатовых,
Што не прывыклі румзаць у рукаў,
Хлапцоў кудлатых дваццацігадовых.

І зразумеў — у кожным нешта ёсць,
Падобнае на нас галоўнай рыскай,
Што кожны з іх не выпадковы госць,
А гаспадар Талпаха і Нарыльска.

Няхай растуць кудлатыя сыны.
Праходзіць мода, і гнявіць не трэба.
Галоўнае, каб ведалі яны
Цану і смак салёнай лусты хлеба.
1975

**ПАДКОВА**

На жытнішчы знайшоў я выпадкова
Пагнутую стаптаную падкову:

Дзе некалі тырчалі вухналі,
Травінкі прабіваюцца з зямлі.

Магчыма, ратаваўся па кані
Таварыш мой ад воўчае ганні,

Ці, можа, невядомы партызан
Ляцеў у лес, канаючы ад ран.

Халодная падкова — на далоні,
А ёю ж іскры выкрасалі коні.

З якіх яны вярталіся дарог,
Ніхто сказаць і разгадаць не мог.

Пасля баёў цягалі цяжкі плуг
І адбіваліся ад аваднёў і мух.

Вадзіў і я падбітага каня
Калісьці да начлежнага агня.

Цяпер па той паляне, каля сцежкі,
Званцом пазарасталі галавешкі.

Ні конніцы няма, няма абоза —
Застаўся толькі конь у вадавоза.

Раней лічылі, што абавязкова
Каля дзвярэй павінна быць падкова.

Даўно ў старыя прымхі я не веру,
Бо шчасце ў нашы стукаецца дзверы,

Але як роднае зямлі удзячны сын
Бяру сабе падкову на ўспамін.
1975

**ЛЮБОЎ І КАХАННЕ**

Любоў з каханнем — кроўныя блізняты,
Хоць немагчыма пераблытаць іх.
Люблю жыццё у непагадзь і ў святы
І шчырасць суайчыннікаў маіх,

Смуглявых, сінявокіх і раскосых,
Што жнуць, і сеюць, і стрыгуць руно —
Сяброў шматмоўных і рознагалосых,
Што думаюць і дбаюць пра адно.

Люблю зямлю пад сонцам у блакіце,
Тайгу, і горы, і палёў прасцяг,
І шум дажджынак у зялёным жыце,
І ўсю складанасць нашага жыцця.

Сваю любоў, глыбокую, як мора,
Дзялю на ўсіх, каго даўно люблю,
Кахання толькі, што пранёс праз гора
І радасці, ні з кім не падзялю.
1975

**ЦІХА, ЦІХА...**

Гэтак ціха-ціха на Зямлі,
Маладзік у небе дагарае,
Бальшакі сумёты замялі,

І снягам няма канца і краю.

Цішыня заводзіць часта ў зман:
Толькі слухай сэрцам, а не вухам,
Як не ціхне Ціхі акіян,
Як далёкі востраў стогне глуха,

Сэрца,
Як дакладнейшы радар,
Задрыжыць ад болю і ад стомы,
Бо далёка бомбавы удар
Крышыць стрэхі з рысавай саломы,

Паміраюць недзе юнакі —
Маладзік у зрэнках дагарае.
Сталі сёння пеклам бальшакі,
Што здаліся ўчора светлым раем.

Каб пажары ў свеце патушыць,
Мы ідзём праз пекла і бураны,
Бо яшчэ на сэрцы і ў душы
І свае не запякліся раны.

А снягам няма канца і краю,
Завіруха замятае след...
У пакутах нехта памірае,
Нехта параджаецца на свет.
1975

**КАРДЫЯГРАМА**

*Ірыне Аляксандраўне Аляшкевіч*

Нібы на клінапіс, гляджу я
На поўны збор кардыяграм
І пэўны — лепш ніхто не расшыфруе,
Як расшыфрую кожны зубчык сам.

Гляджу на мітусню дрыготкіх рысак,
І раптам ажывае у вачах
Далёкага юнацтва сівы прысак,
Што на вятрах маіх нягод ачах.

Успомніліся страты, і пакуты,
І вера, што заўжды вяла мяне,
І вось адзін, без ланцугоў прыкуты,
Пластом ляжу на змулянай; спіне.

А неспакой відовішчам і гулам
Напамінае ўсё, што змог прайсці.
Але ці варта думаць аб мінулым,
Калі так мала зроблена ў жыцці?

Калі ўжо не сустрэчы, а разлукі
Не цешаць, а трывожаць кожны раз,
І мой агеньчык засланяюць рукі,
Каб ён дачасна па вятрах не згас.
1975

## РАЗМОВА З СЭРЦАМ

Паслухай, сэрца,
Трошкі супакойся,
Не біся так
І не хвалюйся так,
Лічы павольней
Кожны крок і такт,
І за сябе,
І за мяне не бойся.

Мы пажывём яшчэ
І папрацуем,
Яшчэ перахвалюемся
Не раз:
Пахваляць часам
Ці зняважаць нас —
Яшчэ ўсяго пабачым
І пачуем.

Як тая кропля,
Што валун дзяўбе,
Мае жаданні
І мае пакуты
І тыя дні, што абышліся
Крута,
Вярэдзяць
І вярэдзілі цябе.

Знямогшыся,
Я падаў з ног без сілы,
Не адчуваў —
Жывы ці не жывы,
А ты, як той
Нязменны вартавы,
Гарачым токам
Стукалася ў жылы.

І вось неспадзявана
Засмылела,
На паўдарозе
Збілася з нагі,
Перад вачамі
Паплылі кругі,
І цемраю мне
Свет заслала белы.

Я не паверыў,
Што змаглося ты,—
Прыпаў ізноў
Да пільнае работы.
І раптам,
Як з падбітым самалётам,
Закручваў боль
Мяне ў віраж круты.

Мы выйшлі, сэрца,
З віража і з бою

На пругкім,
Хоць параненым, крыле.
Не бойся, сэрца,
Стукайся смялей:
Яшчэ здавацца
Рана нам з табою!
1975

## НОВЫ КАЛЯНДАР

Нясу дадому новы каляндар
Узятыя авансам дні і тыдні.
Я іх і падуладны і ўладар,
Яны мае і радасці і злыдні.

Трывожная загадка — каляндар.
«Што дзень наступны мне рыхтуе?»
Ці суцяшэнне, ці удар,
А можа, рыбку залатую

Пашле нелітасцівы лёс,
Не дасць сарвацца і упасці,
Засцеражэ ад горкіх слёз
І незаслужанага шчасця,

Не ашукае гучным сказам,
А дасць найдаражэйшы дар —
Перагартаць з усімі разам
І гэты новы каляндар.
1976

## ВІРУС

Пратачыўся, непрыкметна вырас,
Смокча кроў, хапае за душу
Таямнічы і няўлоўны вірус
І спакойна шэпча:
«Задушу».

Прагны, ненажэрны, ашалелы
(У яго, відаць, вышэйшы сан),
Точыць ён няўзброенае цела
І сумленне, а не гіне сам.

Вірус грыпу, вірус недаверу,
Чэрствасці, спакою, глухаты,
Ты ідзеш, не стукаючы ў дзверы,
За сабою палячы масты.

Я з табой ужыцца не магу
І усё ж цябе перамагу.
1975

* * *

У студзені чэрвень мне сніцца
І птах залатога пяра,
Заплюшчу павекі — суніцы
На сонечным снезе гарацъ.
Калісьці юнацтва і сталасць
Чакаў, як жаданых гасцей,
А позняя восень настала,
Мне сніцца юнацтва часцей.
1976

## ПАСЛЯ ГРОМУ

Цішыня. Павуцінне трымціць на атаве,
Адспявалі над лугам журбу жураўлі,
І з надзеяй, што некалі вернецца травень,
Асыпаюць бярозы лісты на палі.
Жураўлі паплылі на спякотныя стромы
Над пажоўклаю пожняй, над лесам густым.
З першым громам яны завітаюць дадому,
І на веццi зялёныя ўспыхнуць лісты,

Ну, а тыя, што ўвосень апалі са свістам,
Затапталі вятры і прысыпаў пясок.
Першы гром загрыміць.
Будзе леташнім лістам
І пралескамі пахнуць бярозавы сок.
1976

## РАСКРЫЛІСЯ ПЯЛЁСТКІ

Плывуць насустрач сонечнай вясне
Па рэках крыгі з шоргатам і трэскам,
І сон-трава падміргвае у сне
Цнатлівым і разгубленым пралескам.

Ім хочацца зірнуць на белы свет
І боязна яшчэ раскрыць пялёсткі:
То шэрым снегам дыхае кювет,
То сіверу даходзяць адгалоскі,

То страшаць кроплі золкага дажджу
Ці позні іней на счарнелым лісці.
Раскрыцца ім — што перайсці мяжу,
Што басанож у завіруху выйсці.

У сінім дыме волкае галлё,
Пульсуюць сокам пругкія карэнні,
Раскрыліся пялёсткі: над зямлёй
Лятаюць залацінкі апылення.

Усё цвіце, але пралесак скон
Ні затрымаць не ўдасца, ні адкласці.
Спяшайцеся, пакуль жыцця закон
Дае правы па радасці і шчасце.
1976

## ПРАДВЕСНЕ

Хрупае за ноч настылы снег,
Але ўжо над заінелым садам
Паплыла смуга ліловым чадам
Да счарнелых зімнікаў і стрэх.

Шаргаціць яшчэ пастылы снег,
І рыпіць на раздарожжы полаз,
Але ў поўдзень акрыялы голас
Зазвінеў і раўчуком пабег,

Пратачыў зляжалыя сумёты
І панёс праменні і блакіт
Да зарэчных вербаў і ракіт
З першымі накрапінамі мёду.

А ў мяне каторая ж вясна?
Нават сам адразу не прыпомню.
Снег сыходзіць, узыходзіць поўня
Кожны раз, нібыта навіна.

Так усё, як і было калісьці,
І штодзённа ўсё зусім не так:
Булькае струменьчык у латак,
Што забіла леташняе лісце.

Не туды пабеглі раўчукі,
Вецце стала голымі сукамі,
І неспадзявана юнакамі
Ўчорашнія сталі хлапчукі.

Напрадвесні казачныя сны
Абяцаюць новыя сустрэчы.
Хоць нягоды і сагнулі плечы,
А чакаю новае вясны.

## СВЯТА ДУШЫ
***(Дыялог)***

— Я багаты, багаты.
— Ну, а што ў цябе ёсць?
— Ясакар каля хаты
І на покуце госць.
Я сягоння багаты,
Заўтра — быць багацей,
Бо склікаю на свята
Самых блізкіх гасцей.
Як заўсёды, пяшэчкам,
З рукзаком на спіне,
Прыйдзе ў госці з мястэчка
Даўні друг да мяне.
Прыляцяць на світанні
Пабрацім дарагі
З пасівелай Казані,
А з Нарыльска — другі.
Завітаюць суседзі,

З кім на ты, з кім на вы,
А пад вечар прыедзе
Мой таварыш з Масквы.
Пазіраю у высі,
Каб дажджу не было:
Едуць Шалва з Тбілісі,
З Душанбе — Файзуло.
— Што ў цябе за угодкі,
Што за свята, скажы?
— Век наш дужа кароткі.
Проста — свята душы.
— Чым яшчэ ты багаты,
Што ўстаеш да зары?
— Тым, што ў будні і ў святы
Не забылі сябры.

* * *

Калі жыццё было на валаску,
Калі пад лязгат заінелых тракаў
Я аддзіраў каросту, як луску,
Але ад болю так і не заплакаў.

Была маёй апорай маладосць
І вера ў справядлівасць, а не ў згубу,
У дабрату, у праўду, а не ў злосць,
Таму і жыў, да болю сцяўшы зубы.

Я здолеў беды ўсе перамагчы,
Сустрэць хоць невялікую удачу,
І вось цяпер ад шчасця уначы,
Калі ніхто не бачыць, часам плачу.
1976

**РУЖОВЫ ГАЙ**

Пахмурны дзень імжыў, імжыў
І пералескі затуманіў,
Вярба застыла на мяжы,
Як пасівелае наданне.

Дрыжалі пацеркі дажджу
На елках, быццам завушніцы,
І па настыламу плашчу
Хвастала мокраяігліца.

Матала кузаў у бакі —
Ад небяспекі да пагрозы,
І каля ціхае ракі
Нячутна плакалі бярозы.

І раптам, як у летні дзень,
Не з паднябесся, а з нізіны
Лагодны асвятліў прамень
Дарогу, вербы і машыны.

Ружовым водбліскам святла

Камлі свіціліся ў тумане,
І ад сяла і да сяла
Здавён каціласся паданне,

Што, завітаўшы ў гэты край,
Прыйшоў сюды, на бераг нізкі,
І пасадзіў ружовы гай
Настаўнік з горада Сімбірска.
1976

## ЗАЎСЁДЫ Ў СЭРЦЫ

З маленства ў сэрцы з Леніным жыву
І вырашаю цяжкія задачы,
У горы не схіляю галаву
І не лічу удачамі няўдачы.

Калі пакуты стрэнуцца ў жыцці
І слабасць апануе на імгненне,
Калі, здаецца, выйсця не знайсці,
Я думаю: «А што рабіў бы Ленін?»

Ніколі ён не ведаў пра адчай
І не цярпеў адчаю ў камунісце,
Ён мора пераходзіў, як ручай,
І з тупікоў заўжды знаходзіў выйсце.

Калі кажу не тое, што хачу,
І перад дужым задрыжаць калені,
Кусаю губы і сабе шапчу:
«А што б цяпер сказаў таварыш Ленін?»

Змірыцца ён з няпраўдаю не мог
І не губляўся у варожым гуле,
І непадкупнай праўдай перамог
Паклёпы і атручаныя кулі.

І я чужой бядой не бедаваў
І лепшы меў акраец на прыкмеце,
Ды ўспомніў раптам: Ленін аддаваў
Свае пайкі чужым галодным дзецям.

Мне свеціць скрозь святло яго вачэй,
Святы агонь у кожным з нас палае.
Спытаю ў Леніна — і робіцца лягчэй,
Параюся — і вера акрыяе.

Кажу сабе — заўжды дабрэйшы будзь,
Жыві з душою шчодраю і чыстай,
Так, як у сэрцы з Леніным жывуць
Мільёны беспартыйных камуністаў.
1976

## ВЫСОКІ ДУХ

Ні лекамі, ні зеллем прываротным
Ніхто цябе не зробіць бессмяротным,
Ніхто не пражыве адзін за двух.
Стаць несмяротным можа толькі дух,
Высокі, чысты, светлы і сумленны,
Без мітусні, без пахвальбы, без пены,
Што асядае плямкаю густой
На мутным дне пасудзіны пустой.
Высокі дух — парыў самааддачы —
Перад сабою ставіць звышзадачы,
А ўсё, што шчодра аддае другім,
Не лічыць за пазыкі і даўгі.
Калі ж няпраўда муляе ў душы,
Смялейшаму не шэпча: «Ты скажы».
Высокі дух і на крыжы распяты
Сабе не просіць літасці у ката.
Шыць, каб агонь у сэрцы не патух,
Дапамагае несмяротны дух.
Як сплаў адвагі, мудрасці, сумлення
Ён дойдзе да наступных пакаленняў.
1976

## ЦЮЛЬПАНЫ

Дыхнула холадам у маі,
Дажджы сцюдзёныя прайшлі,
Начамі градуснік трымае
Слупок чырвоны на нулі.

Але на плошчы нечакана,
Ледзь-ледзь прабіўшыся з зямлі,
Барвовым полымем цюльпаны
Ў Дзень Перамогі расцвілі.

Халодны дождж і вецер хлёсткі
Іх seклі некалькі гадзін,
Але трымаліся пялёсткі
І не зваліўся ні адзін.
1976

## ЗВЯНО

Кажу сабе: душою не крыві,
Бо чалавечы век усё ж кароткі,
І водгуллем у кожнага ў крыві
Азвацца могуць прашчуры і продкі.

Ці перад імі мне трымаць адказ
За кожны крок і сказ не надта гладкі,
Ці з думаю адзінаю пра вас
На свеце жыць, далёкія нашчадкі?

Не трэба продкам, а тым болей вам
Маіх бяссонніц непрыкметны вынік,

Як не патрэбен дождж сухім дрывам,
Як дужаму — стэрыльны клопат клінік.

Каб мог, здаецца б, многае забыў
З таго, што не ўдаецца перайначыць,
З таго, што шчыра некалі рабіў,
Л праз гады убачыў — мала значыць.

Здавалася, што зробленае мной
Адразу не патухне, не астыне,
Але, відаць, плаціў малой цаной,
Калі асела столькі шумавіння.

Не кожнаму ж сузор'і адкрываць,
Не кожны здатны выбіцца ў Калумбы,—
Павінен хтосьці ў спёку паліваць
І даглядаць, каб не здзічэлі, клумбы.

Вядома мне і кожнаму даўно,
Што патрабуе чыстае сумленне
Быць неабходным, хоць малым, звяном
Паміж сваім і новым пакаленнем.

**ПАЭТ**

Паэт павінен адкрываць,
Паэт павінен хваляваць,
Ісці сваёй дарогай,
Паэт павінен шчыраваць,
За ўсіх павінен гараваць,
Як за сябе самога.

Калі ж спакойна на душы,
Парожнім словам не грашы —
Не дам ніколі веры:
Што ні прыдумвай, ні пішы,
Радкі, нібыта ледзяшы,
Растануць на паперы.

Часамі голас ледзь чуваць,
А словы крэсівам іскраць,
Нібы перасцярога:
Паэт павінен адкрываць,
Паэт навінец гараваць,
Як за сябе самога.
1976

**СВЕТ ПАЭТА**

*Петрусю Броўку*

З маленства ў незвычайным свеце
Жыве паэт,
І раскрываецца ў паэце
Дзівосны свет.
То па-святочнаму стракаты,
А то ў смузе,—

Душою толькі ён багаты,
Бо ў свет нясе
Дабро, трывогі, навальніцы
Душы свае
І шчодра людзям да драбніцы
Ўсё аддае.
Не волат ён, а людзям свеціць
Ягоны след,
Бо вечна ў неспакойным свеце
Жыве паэт.
1976

**КАБ РАСКАЗАЛІ...**

Калі б зямля загаварыла
І расказаць пра ўсё маглі
І папялішчы і магілы,
Слёз не хапіла б па зямлі.

А мы б цішэй па ёй ступалі,
Дамоў і з дому ідучы,
І білі б асцярожней палі
На Нёмане і на Пцічы.

Бо колькі тут, на пераправах,
За нас і нашую радню
Гарачых і заўсёды правых
З вады не выйшла і з агню.

А колькі ў топкія балоты,
Ледзь абмінаючы сяло,
Упала зорных самалётаў
На перабітае крыло.

Крывёй набраклыя акопы
Успомняць і ў чужых краях
Тых, што прынеслі мір Еўропе,
Што спапялелі у баях.

Не абмінулі долі горкай
У дваццаць год і ў дваццаць пяць
Хлапцы, што пад бляшанай зоркай
І пад Палярнай зоркай спяць.

На Волзе, Вісле ці на Сене,
У спёку ці сярод зімы
Упаў неразгаданы геній,
Якога ўсе чакалі мы.

На бераг Буга на дасвецці
І на апошнім рубяжы
Пападалі чыесьці дзеці,
Бацькі, каханыя, мужы.

Чакалі іх у кожнай хаце,
Хадзілі ў поле сустракаць,
І слёзы выплакалі маці
Па тых, каго не прычакаць.

Іх шлях, дагэтуль неастылы,
Пяскі і снег не замялі…
Каб расказалі ўсё магілы,
Слёз не хапіла б на зямлі.
1976

**ПОДЫХ ЛЕТА**

Ужо і зімнікі расталі,
Разводдзе заліло палі,
Плывуць дамоў блакітнай хваляй
Над голым лесам жураўлі.

І хмара з пераспелым громам
Злавеснай сінькай заплыла
І трэснула, а за праломам —
Бяздонне сіняга святла.

Ударыў першы гром над светам,
Гудзе і коціцца здаля.
Дыхнула недалёкім летам
Дажджом абмытая зямля.
1976

**РЭЗЕДА**

Я заблудзіўся ў гушчары,
Дзе ўсё заплёў ядловец колкі,
Навіслі хмарай камары
І праціналі, як іголкі,
Дапамагалі ім сляпні
Буйнакалібернай пароды,
Ісці перашкаджалі пні
І сукаватыя калоды.
Лес шчабятаў на ўсе лады,
Аж заліваліся сініцы,
А завялі мяне сюды
Буйныя спелыя чарніцы.
Ніяк не выйду з гушчару,
Куды падацца — невядома,
Хаця даўно дамоў пара,
А сцежку не знайсці дадолу.
Званочкі сінія з травы
Паклоны білі зверабою,
І дзяцел стукаў да савы,
З дзвярэй збіваючы прабоі,
Здавалася, што, ледзь жывы,
Іду не так і не тудою,
І раптам ветрык палявы
Дыхнуў здзічэлай рэзедою.
Над галавою чмель звінеў,
Па пнях, па зарасніках глогу
Салодкі водар вёў мяне

І вывеў проста на дарогу.
Памаладзелаю хадой
Прыйшоў дамоў да навальніцы,
І доўга пахлі рэзедой
Штармоўка, кошык і чарніцы.
1976

**ЗАЧАРАВАНАСЦЬ**

І не надыхацца табою,
Не наглядзецца на цябе
Ў часы зялёнага прыбою
І ў ціхай восеньскай журбе,

Калі асіннік пазалоту
Рассыпле шчодра па зямлі,
Калі пачатак пералёту
Абвесцяць звонка жураўлі,

А раніцаю балаціны,
Чарнічнік,
верас,
буралом,
Мярэжы тонкай павуціны
Блішчаць халодным серабром.

Усё замерла і застыла,
Гараць брусніцы каля пня,
І не шумяць тугія крылы —
Трымціць у вецці цішыня.

А ў ранішняй туманнай стыні
Дрыжыць у сетцы павучок,
Зрываецца з галіны іней
І пад нагой трашчыць сучок.

Ударыць ноччу завіруха,
На пні сумёты намяце,
Ад сцюжы дуб застогне глуха,
І сціхне ўсё у немаце.

Яліны ў срэбраных шаломах
Застынуць у дзівосным сне,
А дзяцел у сваіх харомах
Зноў тэлеграму б’е вясне,

Каб абвясціла звонкім свістам
Канец зімы і свой прыход,
Каб маладым зялёным лістам
Шлях адкрывала з году ў год

Усім, хто з выраю вярнуўся,
Усім, хто дома гнёзды ўе,
Каб лёгка журавы і гусі
Знайшлі пристанішчы свае.

Зачараваны я разьбою

Лістоў на дубе і вярбе...
І не надыхацца табою,
Не наглядзецца на цябе,
1976

## ПРА ШЧАСЦЕ

...от счастья и славы
Безнадежно дряхлеют сердца.
*А. Ахматава*

Хто ж не жадае быць шчаслівы?
А шчасце ў кожнага сваё:
У цеплыні сядзіць ліслівы,
Дзівак шукае муміё..

Ён уздзіраецца на кручы,
Над чорнай прорваю паўзе,
Яго мароз і смага мучаць,
А ён надзею прынясе,

Каб адкаснуліся напасці,
І беды адступілі ўсе,
Дзівак сабе і людзям шчасце
Не думаючы прынясе.

Святлом і сонцам вецер свежы
Напоўніць ветразі гардзін.
А хто па свеце шчаслівейшы,
Не скажа, пэўна, ні адзін.

Добраудзячны не забудзе,
Як нельга ісціну забыць:
Прыносяць шчасце людзям людзі,
Бяды — за грошы не пазбыць.

Пустая слава вочы засціць,
Спакойны выдзяжыць даўжэй,
Але пакутлівае шчасце
За ўсё на свеце даражэй.
1976

## ЖНІВО

Даспелым жытам пахне цёплы вечар,
Расой і мёдам пырскае трава,
Ад хвалявання ніва горбіць плечы
У прадчуванні блізкага жніва.

На золку затуманеная ціша
Напнецца, затрымціць і задрыжыць:
Грымяць камбайны, а маланка піша
На сінім небе: «Жыту вечна жыць».

Ад Буга да Прымор'я ходзяць хваляй
Зажынкі і дажынкі з краю ў край,

І кожным ранкам над жытнёвай даллю
Усходзіць сонца хрусткі каравай.

Яшчэ шуміць жніво на Енісеі,
Радзеюць пералескі за Нявой,
А ў Беларусі рунню зелянее
Наступнае ўмалотнае жніво.

## МНЕ СНЯЦЦА СУНІЦЫ

Забытае раптам прысніцца
І ў памяці зноў ажыве:
Мы з колішнім другам суніцы
Збіраем у роснай траве.

Зязюляй заходзіцца ранне,
Крычыць адзінокі бакас,
Лупатыя совы, як здані,
З глушы пазіраюць на нас.

Мой друг і пяе і рагоча,
Аж рэха ў гладышцы звініць,
Блакітныя свецяцца вочы,
І вусны ў крывінках суніц.

Наперадзе столькі надзеяў,
Вышыняў і ціхіх віроў…
На-ва-ла! І раптам радзее
Надзейнае кола сяброў.

Туманам сплылі спадзяванні,
Упаў, як падстрэлены птах,
Мой друг у глухім катлаване
З крывінкай на сцятых губах.

На золку і ў поўдзень гарачы
Суніцы збіраю ў траве,
Сябе і другіх вінавачу,
Што гора на свеце жыве.

## ШПАКІ

Да самай ночы шпак заняты,
Яму яшчэ — лятаць, лятаць,
Каб кволенькія птушаняты
Усе змаглі шпакамі стаць

І выпырхнуць у сіпі ранак,
У зорны вечар прыляцець
І, сеўшы на высокі ганак,
Пра волю вольную запець.

Запець, што ім шляхі адкрыты,
Што крылы рвуцца у прастор,
Каб захлынуцца ад блакіту,
Каб шлях знайсці ад зор да зор.

Без падстрахоўкі, без апекі
Самім дужэць, самім расці,
Лятаць за горы і за рэкі,
Але сваё гняздо знайсці.
1976

Я з імі бачыўся на свяце
Гарачых сэрцаў, шчырых душ,
Калі ў партовым інтэрнаце
За вершы намігралі туш.
1976

**ДУДЗІНКА**

У тэлевізары Дудзінка
Курыцца сіваю імглой,
І месяц тонкаю ільдзінкай
Плыве пад белаю стралой.

Дамы, дымы над Енісеем,
Грыміць у порце мірны гром,
Электразварка зоры сее
Палярнай поўначчу і днём.

Мяне, здаецца, нехта кліча
Назад, у маладосць маю.
Сваіх знаёмых па абліччах
Я на экране пазнаю.

На мацярык з палярнай ночы,
Уважлівыя, з-пад рукі,
Яны глядзяць, і кожны хоча,
Каб іх пазналі землякі.

**БАГІ**

У цёмных пушчах шасталі звяры,
Грымелі перуны, стагналі буры,
Палалі адзінокія кастры,
Сушыліся набедраныя шкуры.

І тыгры раздзіралі цішыню,
Сквірчэла туша на пякельным жары,
Гарачыя ад прагі і агню,
Блішчалі воспай з’едзеныя твары.

Тубылец, учарнелы, як груган,
Лавіў трывожна шолахі і зыкі,
То кленчыў, то круціўся, як шаман,
Стары язычнік, ледзь не без’языкі.

Яго пужаў уласны цень даўгі,
Савіны крык, мядзведзева бярлога,—
Наўкол жылі, здавалася, багі,
І кожны сам сабе прыдумваў бога —

То грознага сівога Перуна,
То пакланяўся месяцу, то птаху,
То полымю, і не яго віна,
Што ўсе багі з'яўляліся ад страху.

Выстругваў продак бога на лужку
Каменнаю сякераю крывою
І, каб задобрыць, новаму бажку
Намазваў губы лоем і крывёю.

Яго нашчадак выпрастаў спіну,
Праславіўся за бацькавым парогам,
Пабачыў, як забойцы на вайну
Не з д'яблам выпраўляліся, а з богам.

З пячораў і здзічэлых берагоў
Ён вырваўся ў завоблачныя высі,
З нябёсаў паскідаў усіх багоў,
А на зямлі не ўсе бажкі звяліся.
1976

**РЭТУШ**

Падправіў картку рэтушор маю:
Маршчыны зніклі, сівізна прапала,
Я сам сябе зусім не пазнаю,
І нават маці б не пазнала.

З гадамі вочы засціць мітульга,
Усмешку часам перакрэсліць гора,
Але знікаюць смутак і туга
Пад спрытнаю рукою рэтушора:

Ён толькі трошкі паднавіў убор,
Пазакругляў завостраныя рысы,
І нават у пейзажы рэтушор
Перарабіў дубы на кіпарысы.

Я абураюся, даводжу так і сяк,
Што сапсавалі здымак мой дарэшты,
А рэтушор смяецца: «Вось дзівак!
Не разумее, што такое рэтуш».
1976

* * *

У той далёкай маладосці
Шумелі нашыя сады,
І мы, спыніўшыся на мосце,
Пазналі даўнія сляды.

Здалося — зорку зачарпнулі,
З далоняў Млечны Шлях пілі.
Схаваўся месяц, і заснулі
Дажджом прыбітыя палі.

Чакалі мы шчаслівай долі

І пачыналі свой узлёт,
Хоць не бывае так ніколі,
Як марыцца ў шаснаццаць год.

Нас разлучылі назаўсёды
Крутыя горкія шляхі.
Дзе прашумелі нашы воды,
Астаўся толькі жвір сухі.

Рака імклівая размыла
Пад вербамі круты абрыў.
Л ты нічога не забыла,
І я нічога не забыў.

Я пасівеў, і ты сівая.
Сышліся зноў каля вады,
І хваля на пяску змывае
Ужо і гэтыя сляды.
1976

## ПОЗНЯЯ РАЗМОВА

Вада ад сцюжы загусцела,
І пасівелі берагі,
А нам з табою закарцела
Успомніць даўнія даўгі,
І нашы шчырыя памылкі,
І перажытую бяду.
Каб крыўды кінуць, як абмылкі,
У пахаладзелую ваду.
Што адышло, таго не вернеш,
Не знойдзенага не згубіць,
А спрэчак і папрокаў церні
Пара адкінуць і забыць:
Душа душу не будзе мучыць,
І мы не будзем варажыць,
Калі жыццё і нас навучыць
Прасцей на ўсё глядзець і жыць,
І з глупства не рабіць трагедый,
Заціснуць боль і прамаўчаць,
Другім не павялічваць беды
І радасці не скарачаць.
Мы ўсё з табою зразумелі,
Бо логікі няма прасцей:
Чым багацейшы вопыт мелі,
Тым памыляліся часцей.
Здавалася — зраблю найлепей
І непрыемнасць абыду,
Ды натыкаўся, як аслеплы,
На непрыемнасць і бяду.
І часам ты неасцярожна
Пакрыўдзіць нехаця магла,
Але сказаць нарэшце можна,
Што дабрыня перамагла,
Што крыўды з болем адляцелі,
Няма ранейшае тугі…
Зірні, як Нарач загусцела

І пасівелі берагі.
1976

**ЛЯЦЯЦЬ ГАДЫ...**

Смыляць часамі, як старая ранка,
Пярэспа, Старажоўка, Серабранка.
У кожнай назве — пах і колер свой,
І разгарнуўся памяці сувой...
Сады ў завулках. На ігрушы ніцай
Вісяць, як залатыя завушніцы,
Даспелыя мядовыя фунтоўкі,
На зайздрасць садалазам з Камароўкі.
У дом вядзе паміж вяргіняў сцежка,
Пад вадастокам поўненькая дзежка,
А ў ёй, нібыта жоўценькі стручок,
Да рання плавае маладзічок.
Мне гэты дом у садзе часта сніцца:
Праз шчыліну ў блакітнай аканіцы
Праменьчык прабіваецца зялёны
На бэз і затуманеныя клёны.
У садзе яблыкі зрываюцца на дол,
Збірае іх на досвітку ў падол,
Запырсканы іскрыстаю расою,
Дзяўчына з незаплеценай касою,
Ружовая і цёплая спрасоння,
Трымае спелы яблык на далоні...
Цяпер на месцы саду і завулка
Гудзе праспект напружана і гулка,
З аблокамі гамоняць камяніцы,
Але завулак той і сёння сніцца
І дарагім здаецца мне ўдвая,
Бо ў ім жыла каханая мая.
Як галубоў залётных вуркатанне,
Прайшло і наша першае каханне.
Яна цяпер бывае часта ў скверы,
Дзе ходзяць талакой пенсіянеры,
Пасады ўспамінаючы да зморы,
Былыя прадаўцы і пракуроры.
Яна ж раман чытае у зацішку.
Каса пасеклася і пасівела крышку.
Я тут яе часамі сустракаю
І гавару: «А ты усё такая ж...»
«І ты здалёк здаешся малады.
О як ляцяць, о як ляцяць гады!»

**РАДАСНЫ ПЛАЧ**

Ніхто не ведае ні дня і ні гадзіны,
Калі навек яго замкнецца круг,
Калі завесяць люстры і карціны,
І служба неадкладнейшых паслуг
Усё збярэ ў далёкую дарогу,
Паспее скрозь, не спозніцца нідзе,
Паспешна маладога ці старога
З вянкамі і з аркестрам правядзе.

Ніколі не спыняецца канвеер:
Рыпіць рыдлёўка і грукоча лом,
А побач у спякоту і ў завею
У заўтрае глядзіць радзільны дом.
Не ведаючы, што ўсё гэта значыць,
У свет прыходзіць за дзіцём дзіця,
І радасным і бесклапотным плачам
Ужо вітае клопаты жыцця.
1976

## ПРАГА ДУШЫ

Душа заўсёды прагне ласкі,
Душа адкрытай хоча быць,
Часова скінуць абавязкі
І ўсе умоўнасці забыць.

Душа заўсёды просіць волі
З душой адзінаю ў жыцці,
Каб не расстацца з ёй ніколі,
Каб радасць і спакой знайсці.

Маркотна несці год ад году
Прыстойнасці нялёгкі груз,
Лічыць засведчаную згоду
За ідэальнейшы саюз,

Даводзіць і сабе, і людзям,
Што шчасце нас не абміне,
Хоць пэўны, што яго не будзе
У пас. як ісціны ў віне.

Душа заўсёды прагне ласкі,
Надзея кружыць галаву,
Таму без выдуманай казкі
Я і паўдня не пражыву.
1976

## У ЮРМАЛЕ ВОСЕНЬ

Узмор’е зарой зацялося,
Туман асядае густы.
У Юрмале ранняя восень
Зграбае і паліць лісты.

У вулачках ціха і пуста,
І толькі шуміць лістапад,
Рыпіць у разорах капуста,
Сівее абветраны сад.

На дзюнах зялёныя сосны,
Нібы на пачатку вясны,
У сон яшчэ вераць дзівосны,
Што вечныя толькі яны.

Іх будуць хвастаць навальніцы,

Карэнні падточаць вятры,
Л потым у жоўтай іглiцы
Яны упадуць без пары.

І дуб азірнецца пахмуры,
У золаце ўвесь і ў агні,
Яго не адолелі буры,
Бо ў глебу ўраслі карані.

На стромкім пясчаным адкосе
Ракітнік шуміць залаты...
У Юрмале
Ранняя восень
Зграбае і паліць лісты.
1976

**ПАВІНЕН ЛЮБІЦЬ**

Гняце заўсёды адзінота,
Не пакідаючы надзей,
Агоркне кожная работа,
Калі яна
не для людзей.

Спяшаюся зірнуць у вочы
Сябрам і шчыра прывітаць,
Не папракнуць і не сурочыць,
А першаю апорай стаць,

Каб часам і мяне сагрэлі
Далонямі пяшчотных рук,
Каб закалыхваў, як арэлі,
Суладных сэрцаў роўны стук.

Пакуль цяпло душы не стыне
І ў жылах кроў яшчэ кіпіць,
Я жыць для некага павінен,
Павінен некага любіць.
1976

**ВЕТРАЗЬ**

Пустынны прыбалтыйскі бераг
Завейвае сухі пясок,
На хвалях і па хмарах шэрых —
Зары чырвоны паясок.

Далёка адступіла мора,
У грудзі хваляў вецер б'е,
Галосіць і без дырыжора,
Не змаўкаючы, пяе.

Здаецца, не адолець ветра,
Што з бедных чаек пер'е рве,
Але далёкі хісткі ветразь
То знікне, то далей плыве.

Я ім даўно зачараваны,
Не адарваць ніяк вачэй…
А з хмары, як з глыбокай раны,
Зара барвовая цячэ.

І заліла паўнебакраю,
Гарыць над грабянцамі хваль,
А ветразь полымем палае
І кліча ў ранішнюю даль.

Хоць мора стогне і грукоча,
Галосіць вецер і раве,
Чакаю, каб зірнуць у вочы
Тым, хто на бераг прыплыве.
1976

**ХАЛАДЫ**

Сосны пасівелі на світанні,
Грукаюць у вокны халады,
І прыходзяць на ўспамін, як здані,
Светлыя юнацкія гады.

Недзе там была і засталася
Сіняя трывожная вясна
І ў далёкім пачатковым класе
Белая дзяўчынка ля акна.

Хваляваў спярша, а потым засціў
Наваколле гэты сілуэт:
Радасці змяняліся няшчасцем,
А няўдачы засланялі свет.

Дзеўчынка ж такой і засталася —
І цяпер сядзіць каля акна,
А ў мяне на скронях завілася
Інеем густая сівізна.

Іней атрасе на соснах вецер,
Пройдуць напрадвесні халады,
А мяне не грэюць, толькі свецяць
Даўнія юнацкія гады.
1976

**РЭКВІЕМ**

Душа зайшлася ад чужога гора,
З пакутамі яе не разлучыць:
Пад стромкай столлю Домскага сабора
Усхвалявана «Рэквіем» гучыць.

Пачуцці ўсе змяшаліся дашчэнту,
І пацягнула холадам ад пліт,
Калі, як шторм, кацілася крэшчэнда
І замірала, ўзняўшыся ў зеніт.

Адчай з жалобай нечуванай моцы
Жыццё і смерць паставілі на кон,
І ў кожным гуку ажывае Моцарт,
Бязлітасна асуджаны на скон.

Не моліць ён адвечнага спакою
Сваёй душы мяцежнай і касцям,
А прагна схаладнелаю рукою
Трымае ключ ад вечнага жыцця.

Ён ад трывог, натхнення і пяшчоты
Перагарэў, ачах і саслабеў
І зразумеў ужо ў разгар работы,
Што «Рэквіем» стварае сам сабе.

Грыміць і слоў і музыкі навала
І працінае сэрца, як страла,
Ды смерць жыццё раптоўна абарвала,
Бо «Рэквіем» даслухаць не магла.

Гусінае пяро з рукі упала...
Непадуладна толькі пачуццё,
Што не жалобай, а трывогай стала
За вечнае натхнёнае жыццё.
1976

**ПАД ЯВАРАМ**

Была такая прыгажосць,
А ноччу з шоргатам і свістам
Зрываў сіберны вецер злосць
І засцілаў дарогі лістам.

Падгрэблі лісце, замялі,
Спалілі залатую восень —
Ні следу болей на зямлі,
Ні попелу не засталося.

Адзін пад яварам стаю,
Нікога болей не чакаю
І восень познюю сваю,
Як непазбежнасць, сустракаю.
1976

**БЕЛАКРЫЛЫЯ КОНІ**

У поўнач скавытала і гуло,
Да рання нехта тупаў па балконе,
Па шыбах біла белае крыло,
І пралятаі ўзмыленыя коні.

Адзін, другі — ляцелі табуны
Над садам, над альтанкамі, платамі,
Храплі і задыхаліся яны

І грукалі па дахах капытамі.

Ліліся срэбрам грывы па спіне,
Дрыжалі заінелыя балясы…
Як ні стараўся, не ўдалося мне
Злавіць тады няўлоўнага Пегаса.

Напэўна, тут няма маёй віны,
А сэрца засмылела вострым болем,
Што белакрылых коней табуны
Назад ужо не вернуцца ніколі.

На золку ўсё заціхла за акном.
Світала і развіднела нясмела,
Дыхнула з саду маладым вінoм,
І ўсё наўкол было да болю бела.
1976

**РАБІНАВАЯ ЦІШЫНЯ**

Пахмурны дзень.
 І не праб’ецца сонца.
Калышацца рабіна на буі,
На пераспелай пурпуровай гронцы
Гайдаюцца сівыя вераб’і.

Кужэльны ўток з асноваю ў тумане
Рака пасуравелая снуе
І на атаве, заінелай зранне,
Палотны сцеле тонкія свае.

Якая цішыня на белым свеце
І ачышчэнне неспакойных душ!
У цішыні адна рабіна свеціць,
Глядзі, дзівіся,
 Толькі не паруш

Спакой і цішу надта гучным словам,
Рабіну не парань і не звалі,
Бо толькі ў шчодрай дабраце аснова
І шчасця і спакою на зямлі.
1976

**ЗАЎСЁДЫ РАЗАМ**

Я заглядзеўся на сутонні ў неба —
Малінавыя воблакі плылі —
І разумеў, што мне і сёння трэба
З вышыняў апусціцца да зямлі.

Шумелі ўнізе і лісты, і вецце,
А наш высотны дом, як карабель,
Здалося, разгайдаў шалёны вецер
І назаўсёды пасадзіў на мель.

У мора апускаўся шар чырвоны,

І хвалі закіпалі і раўлі,
Ды раптам побач, ледзь вышэй балкона,
На поўдзень праляцелі жураўлі.

Яны заўжды ляцяць ключом вялікім
Насустрач буры, галаве на злом,
І памагаюць слабаму не крыкам,
А дужым, хоць і стомленым, крылом.

## БЛАКІТНАЯ ПТУШКА

Мяне асенні дождж загушкаў,
Лісты прыбіў і прытаптаў,
Сон прыляцеў блакітнай птушкай
І столькі казак нашаптаў...

Павёў над ціхаю ракою
Пад белыя ясакары,
А ўжо адтуль падаць рукою
Да кармазынавай зары,

Што над зялёным небакраем
Усё ўздымаецца вышэй,
І мне зямля здалася раем,
А людзі сталі харашэй.

На плечы галубы садзяцца,
Я з імі ў белы свет іду,
Дзе зубр з ласіхаю глядзяцца
У паружавелую ваду.
Спяваюць перапёлкі ў жыце,
Жар-птушкі вылятаюць з траў,

А на пагорку дуб, як віцязь,
Бярозку белую абняў.
Сініца кланяецца слонцы
І ёй гаворыць,
летучы’
«Баюся толькі я аб сонца
На крылах пер’е апячы».

Пазбыўшы зайздрасць, злосць
і мукі
Да кармазынавай зары
Ідуць, пабраўшыся за рукі,
Усе найлепшыя сябры...

...Мяне асенні дождж загушкаў,
А новы ранак прывітаў,
Сон паляцеў блакітнай птушкай,
Што столькі казак нашаптаў.

У свет прасторны пазіраю,
Дзе ўсё шаную і люблю.
Каб захацелі людзі, раем
Зрабілі б нашую Зямлю.
1976

## БЕЛАВІК

Я пахвалы і крыўды не прывык
Хаваць у тайнікі сваіх напілак,
Таму хачу жыццё на белавік
Перапісаць без колішніх памылак.

Хачу закрэсліць або прапусціць
Той дзень, калі памог пралазе,
Калі да любай не паспеў зайсці
І некага пакрыўдзіў і абразіў.

Хачу забыць залішні свой запал,
З якім не верыў шчырым і адданым,
І легкадумнай маладосці шал,
Калі ў каханні кляўся некаханым,

Калі казаў не тое, што хацеў,
І не рабіў таго, што конча трэба,
А выбіраў дарогу карацей
Да самай тлустай лусты хлеба.

Я скараціў памылак пералік
(На іх ніхто не патрабуе зводкі),
Перапісаў жыццё,
і белавік,
Як некралог, стаў сумны і кароткі.

Пабачыўшы нямала на вяку,
Назад ужо не знойдзеш кладку,—
Як ні круціся, па белавіку
Сваё жыццё не пражывеш спачатку.
1976

## ЛІПЕНЬСКАЕ ПОЛЕ

Чаруе ліпеньскае поле
У жыце, кветках і расе,
«І спелы жнівень у прыполе
Дажынкі хмельныя нясе.

Звіняць заранак галасы,
І жніўнай раніцы аздоба:
Гарыць у кропельцы расы
Іскрынка поту хлебароба.

## СУЦЯШЭННЕ

Я зноў пакутую, што за паўгода
Не напісаў ні верша, ні радка.
Лічыў, што вінаватая пагода
Ці надта натамілася рука.

Здавалася, як скрыпку з футарала,
З душы жывую вынялі душу,—
Цяпла, відаць, было людскога мала,

Што ўжо амаль паўгода не пішу.
А можа, і зусім пісаць не трэба

Радок, які нікога не кране,
А слова, што важней за лусту хлеба,
Ужо знайшлі і знойдуць без мяне?
1976

* * *

Ты абяцала з ветрам прыляцець
І мне прынесці спелыя чарэшні.
Вятры даўно сарвалі з клёнаў медзь,
А я чакаю з ліпеня да снежня

І веру, што ў дарозе недзе ты,
Што, можа, затрымала навальніца.
Калі не сёння, дык цераз гады
Ты мусіш з дальняй далечы з'явіцца.

Заўсёды, як вясну, цябе гукаць
Са мною будзе завіруха ў полі.
Няхай не прычакаю, а чакаць
Цябе не перастану я ніколі.
1976

**ТУМАН**

Неспадзявана ўпаў туман на мора,
Усё ахутала імгла,
І толькі чутны трэск матора
І плёскат пругкага вясла.

Усё растала ў пасмах белых,
Аглух трывожных чаек крык,
Знікае пад нагамі бераг,
І карабель па рэйдзе знік.

Усё заслаў туман застойны —
І мол, і бляскі маяка.
Ідзі, не бойся, будзь спакойнай,
Калі ў маёй — твая рука.
1976

**КРУГІ**

Жыццё ідзе няроўнымі кругамі:
То разамкнецца,
то замкнецца круг,
То — вышыня,
то — бездань пад нагамі,
То падтрымае, то зняважыць друг.
І так было ад веку і да веку,
Так будзе і ў наступныя вякі,

А быць заўжды шчаслівым чалавеку —
Нялёгка і часамі —
не з рукі.
Няхай няшчасце, дробнае, малое,
Здараецца хоць зрэдку у жыцці,
Каб сэрца не счарсцвела
і каб лоем
Душа не паспявала зарасці.
1976

**БУРШТЫН**

Я і ў штормы на сівеы стыну,
Варушу вадаростаў пласты
І шукаю драбочкі бурштыну,
А знаходжу ракушнік пусты.

На ўзбярэжжы пунсовыя клёны
І суровыя сосны маўчаць.
Можа, плачуць, а можа, праклёны
Палахлівыя чайкі крычаць.

Толькі хвалі не маюць спачыну
У адвечнай нястомнай журбе.
Я шукаў пасля шторму бурштыну,
А знайшоў на ўзбярэжжы цябе.
1976

* * *

Служенье муз не терпит суеты.
*А Пушкін*

Не мітусіся, не мігай
У пераліках і ў эфіры.
Зірні — які спакойны гай
І неспакойныя куміры,

Што мітусяцца дзень пры дні
І сіляцца — аж ходка ў мыле,—
Каб не сапхнулі з вышыні,
Каб выпадкова не забылі.

Свяці і грэй, а не шугай,
Каб на святло ішоў сустрэчны,
Каб зелянеў вясною гай,
Празрысты, радасны і вечны.
1976

**КОЛІШНІЯ РЫНКІ**

Пахлі рынкі конскім потам,
Воскам, яблыкамі, мёдам,
Таранамі, і рагожай,
І замшэлай агарожай.
Пахлі рынкі горкім хрэнам
І салёным агурком,
Мокрым лыкам, свежым сенам,

Кропам, сырам, малаком.
Пахлі хусткай-канаплянкай
І капустай-шаткаванкай,
Сырамятнай і хромам
І жывым лупатым сомам.
Пахлі рынкі суравізнай
І кужэльным палатном.
Селядцамі і старызнай,
І вяндлінай, і вінам.
На трынозе сярод рынку
Дзед круціў сваю катрынку.
Пахлі рынкі ёлкім салам
І надпітым зазывалам,
Лоем, дзёгцем, шкіпінарам,
Клеем, дратваю і варам.
Пахлі бублікамі з макам,
Што пахрумсталі са смакам.
Смольным духам пахлі ражкі,
А саломаю — брылі.
Ніжні рынак і Суражскі,
Быццам рукі, паднялі
Ўсе аглоблі, і здаецца —
Рынак у палон здаецца.
Па аглоблях — то рашоты,
То кашэль свае работы.
Пахлі гумаю галёшы
І не пахлі толькі грошы.
Баба румзала ў хусцінку,
Што згубіўся конь на рынку.
Каб не ўкралі цыганы,
Не было б яму цаны.
...Зніклі рынкі і даўно
Нават духу не чутно.
1976

## ШУКАЮ СЯБРОЎ

*Алесю Пальчэўскаму*

З гадамі і ў мяне — ўсё менш сяброў,
І ўсё вузей знаёмстваў геаграфія,
Найбольш сяброў — пад соснамі бароў,
Пад плітамі з кароткай эпітафіяй.

Жывых сяброў гукаю ўсё часцей,
Калі бывае радасна і туга,
І запрашаю ў госці не гасцей,
А сэрца запрашае сэрца друга.

Сапраўдны друг прыходзіць і тады,
Калі ад грому трэскаецца неба,
Калі няма каму падаць вады,
Няма каму прынесці лусту хлеба.

Сапраўдны друг, гадамі гартаваны,
Гатовы засланіць і памагчы,
Прыходзіць у бядзе неспадзявана,
Як хлеб, як соль, як вогнішча ўначы.
1976

## ЕВА

Яна сама амаль яшчэ дзіця —
На тонкіх ножках, з вузкімі плячыма,
Хоць парасткам наступнага жыцця
У ёй ужо абуджана жанчына.

Яшчэ душою рвецца у палёт
З высокай кручы, аж трымцяць
закрылкі,
Хоць ведае, што ўсё наадварот
Павінна быць, каб не зрабіць памылкі.

Таму глядзіць і ходзіць спакайней,
Упасці і спалохацца баіцца.
Яна яшчэ такая, як даўней,
А ўжо душу трывожыць таямніца,

Вядомая пакуль што ёй адной,
Што ўпала, як біблейскі яблык з дрэва,
І сцвердзіла салодкай навіной,
Што несмяротнай застаецца Ева.

Яна — пачатак і працяг жыцця,
У горы — мудрая, вясёлая на свяце.
Яна для маці — вечнае дзіця,
А для дзяцей — адна па свеце Маці.
1977

## ПАКУТНІК

Мяне часамі друг мой ловіць
І ціха кажа:
— Я прашу,
Пастой і выслухай, як споведзь,
Маю збалелую душу.

Спрачаўся я ўначы з сабою,
Сціскаў да болю кулакі,
Атакаваў, выходзіў з бою,
Ламаў то дровы, то сукі,

А не суняў, не супакоіў
Сябе ў раз'юшаным віры:
Хадзіў да рання па пакоі,
Стагнаў, як хворы і стары.

Такую распачаўшы спрэчку,
Самога можна даканаць:
То аргумент даваў асечку,
Што меней трэба шчыраваць,

То зноў сумленне гаварыла:
«Сябе не вельмі беражы
І намятай — у праўдзе сіла
І толькі ёй адной служы,

Сябе не ашукай самога,

Ад гора не адводзь вачэй.
Нялёгка дасца перамога,
Ды сэрцу зробіцца лягчэй».

І ўсё ж не кончаны пакуты —
Гняце бяссонне — вось бяда:
То за сябе бяруся крута,
То раптам робіцца шкада.

І зноў пад'юджвае спакуса
І не дае закрыць павек,—
Я ж не падобен па Ісуса,
Я толькі грэшны чалавек.

Так і гайдаецца крывая —
То ўгору, то адразу ўніз —
Сумленне ўсё ж не дазваляе
Ісці на брыдкі кампраміс.

Вось і прашу ў цябе парады,
А на сябе самога злосць...
— Пакутуй, друг! Я вельмі рады:
Пакутуеш — сумленне ёсць.
1977

**ПЕРАСЦЯРОГА**

Адно з двух, або людзі зробяць так, што ў паветры стане меней дыму, або дым зробіць так, што на Зямлі стане меней людзей.

*«Кур'ер ЮНЕСКА»*

Прапахла паветра бензінам, саляркаю, газам,
Аж моташна ліпам, каштанам, бярозам і вязам.
Ад сіняга дыму ссыхае сасна за сасною,
Іх рэжуць па дровы і ў шуркі складаюць вясною.
Даўно пазнікалі з зялёнае паркавай зоны
Дразды, вераб'і, салаўі і вароны.
Закураны пылам прамытыя з раніцы шыбы,
Прапахлі мазутам злінялыя сонныя рыбы.
Пацягне ад комінаў ветрыкам слабым —
І ў сажалцы ўжо захлынаюцца жабы.
На яблынях веце увесну пасыпана густа
Забойнаю дозаіі атрутнага дусту,
І сад у зняменні глядзіць невясёлы,
Як з кветак на дол асыпаюцца пчолы.
Радзеюць гаі, пералескі, прысады і пушчы,
І толькі яшчэ чалавек застаецца трывушчы:
Ён дыхае дымам, аглушаны звонам і гудам,
І дзівіцца сам, што трымаецца цудам.
Ён б'е свідравіны, укладвае рэйкі і шпалы:
Што зранку здабыў, таго ўвечары мала.
Ён выграб дарэшты глыбокія нетры,
І чадам прапахлі вада і далёкія кедры.

Мы — людзі нашчадкам пакінуць павінны
Празрыстую рэчку і спеў салаўіны.
1977

**МАЯ РАДАСЛОЎНАЯ**

Сваіх не ведаю вытокаў
І радаслоўную забыў:
Назад зірну на пару крокаў —
І не скажу, кім прадзед быў.

Забыты прашчураў магілы,
Палеглі продкі ў курганы,
А лішку неадольнай сілы
Нашчадкам аддалі яны.

Іх сіла нашы крышыць горы,
Іх кроў спрадвеку ў пас цячэ,
І прашчуры глядзяць на зоры
Праз шчыліны маіх вачэй.

Маё здзіўленне — іх здзіўленне,
Іх неспакой — мой неспакой,
І ловяць прашчуры праменні
Маім паглядам і рукой.

А кім яны былі калісьці,
У той, непрыгаданы век?
І як яны шукалі выйсця
З лясоў, з дрыгвы, з таежных рэк

І з тупікоў чужой улады?
Як іх лавілі цівуны
І білі па законах здрады,
Але ўскрасалі зноў яны?

Не знаю, хто ў маёй аснове —
Вандроўнікі ці ўцекачы,
І хто ў маім азваўся слове —
Радзімічы ці крывічы.

А можа, ў грэнадзёрскай шапцы,
Ў мундзіры на заморскі лад,
Прыйшоўся да душы прабабцы
Напалеонаўскі салдат?

Магчыма, ёсць пачатак польскі?..
Аднойчы, мне зірнуўшы ў твар,
Віталі Фрыдрыхавіч Вольскі
Сцвярджаў, што быццам я з татар.

Усё магчыма, усё магчыма,
Калі згубіўся продкаў след,
Калі наіўнымі вачыма
Гляджу, як і яны, на свет

І тым заўсёды ганаруся,

Што ў шчаслівейшую пару
Я нарадзіўся ў Беларусі
І так, як маці, гавару.

## НА РУМЕ

На рум паглядзжу — г
І зарумзаць гатовы,
Што тут мерцвякамі
У штабель ляглі
Няспелы сасоннік
І свежыя дровы,
Што гонкімі дрэвамі
Ўчора былі.

У кожную пушчу
Даверліва дзверы
Адчынены насцеж
З далёкіх часоў,
А мы выразаем
Лясы на паперу
І пішам па ёй
Пра ахову лясоў.
1977

## БАЛЮЧА РОБІЦЦА ЧАСАМІ

Часамі я пакутліва злуюся,
Што нешта робіцца не так,
Што ў вырай не ўзляцелі гусі,
Што крылы абламаў вятрак,

Што зарасла травой крыніца,
Што рыбе моташна ў вадзе,
Што на машыне ўнук імчыцца,
А бабка пехатой ідзе.

Што на хаўтурах, як на свяце,
Прамову рэжа профдзеяч,
Ды так, нібы па гэтай страце
У ладкі пляскай, а не плач.

Балюча робіцца часамі,
Калі прамоўца штось вярзе,
Калі гадзінамі мы самі
Сябе трымаем у чарзе.

Балюча, калі ўспыхне сварка,
Калі, бывае, і цяпер
Няпэўна буркне сакратарка:
«Праз год заходзьце, у чацвер».

Пякуць агнём паклёп і здрада,
І хамства сытае мурло.

Таму крычу,
каб бюракрата
І хама болей не было.
1977

## ПАНАЦЭЯ

Здавалася, трымаю у руцэ я
Ад кожнае хваробы панацэю
І смерць цяпер перахітру.
Яе шчарбаты нос утру,
Бо я пражыць ужо гатоў
Не меней, як да ста гадоў.
Хаджу з аптэкі да аптэкі —
Купляю імпартныя лекі,
На лысага гамеапата
Я спадзяюся, як на брата,
Закінуў і радню і справы,
Бо да зімы збіраю травы —
Сушу, таўку, раблю настойкі,
А ледзьве дапаўзу да койкі.
Засну, пакрыўшыся газетай,
І так ад лета і да лета,
І клопат у мяне адзін —
Прымаць сустак, інтэнкардзін,
Бо жылка кожная дрыжыць:
«Яшчэ пражыць, яшчэ пражыць!»
Так дзень пры дні адным заняты,
Падобныя на будні святы:
Хадзіць не маю часу ў госці,
Ні ў аперэту, ні ў кіно,
Чым захапляўся ў маладосці,
Усё забылася даўно.
Вясной хаваюся ад сонца,
Зімой палохае мароз,
І бачу, што абрыдзеў жонцы
Ад суму мой абвіслы нос.

Ды пачала хістацца вера
Ў магчымасць сто гадоў пражыць,
Бо калі сам зрабіўся шэры,
Дык і няма чым даражыць.

Мільгнула думка па дасвецці
І закружыла галаву:
Не важна, колькі жыць па свеце,
А як і для чаго жыву.

І сто гадоў — кароткі век.
Таму жыву, як чалавек.

## ШЛЮБ

Не чулі мы пра шлюбныя палацы,
Не бачылі ні кветак, ні фаты,
Ты да мяне забегла пасля працы

І неабходнай стала назаўжды.

Я мітусіўся па пустым пакоі,
Пакуль стары імбрычак запяе,
Абветранай калючаю шчакою
Хацеў далоні адагрэць твае.

Казалі мы не тое, што хацелі
Сказаць у вечаровай цішыні.
А снежань так дарогі замяцеліў,
Што не даехаць блізкім і радні.

Ты выпырхнула з мокрай целагрэйкі
І да мяне нячутна падышла.
Сняжынкамі завеяныя вейкі
Здаваліся праменнямі святла.

Скацілася па небасхіле зорка,
Трымцела замарожанае шкло…
Нас не віталі, не крычалі: «Горка!»,
Бо нам і так нясоладка было.

І ўсё ж я быў шчаслівы, як ніколі.
З тае пары агеньчык не ачах,
Як ты мой цень убачыла на столі,
А я пазнаў сябе ў тваіх вачах.

З табою нас пярсцёнкі не звязалі,
Сваты не падлівалі нам віно,
А мы ад шчасця так і не сказалі,
Як неабходны аднаму адно.
1977

* * *

Палаюць гронкі, як рубіны,
Трымціць галінка угары,
У снезе спелую рабіну
Апанавалі снегіры.

І сцежку нашага расстання
Пазамятала, як на грэх,
Але я веру, што растане
І гэты нечаканы снег,

Ці гэты, ці наступны вечар
Усыпле зорнае святло,
І будзе новая сустрэча,
Якой дагэтуль не было.
1977

**ФАНТАЗІЯ**

Надыдзе дзень, і я ў зямлю з Зямлі
Сыду навек і болей не вярнуся.
А каб вяртацца і адтуль маглі,
Я апынуўся б зноў на Беларусі.
1975

ЗМЕСТ

Леснічоўка
Пачатак
Вішні
Думка пра думку
Падарожжа
Як хлеб надзённы
Быць паэтам
Белыя вершы
*** Люблю зямлю, што пахне лесам
Рэактыўная лыжня
Сон
*** Іх доўга сэрца няньчыла, насіла
*** Каб пісаліся вершы
*** Як я жыў без цябе?
*** Я шчыра люблю
*** Нас разлучалі вёрсты і гады
*** Мы з табою жылі
Прафесія
*** Кароткі век у чалавека
Ісціна
На катку
Вясна157
*** Будзь музаю маёй
*** Праверыць можна нервы, склад крыві
*** Што я ў цябе даўно ў даўгу...
*** Мяняешся, нібы рака, ты
Багацце
Зялёны ветразь
Любоў
*** ‘Мне дзве каханыя спакою не даюць
Няпісаныя лісты
*** З гадамі маленства здаецца бліжэй
Элегія
Венера
Другі Парыж
Рэкламны бусел
Дэльфіны, чайкі і пілот
Эйфелева вежа
Грэшны горад
Жолуд
Асенні дзень
Пціч
Сейбіт
Крылатыя дзяўчаты
Праўда
*** Што ж расказаць пра ўласны творчы шлях?
*** Ступаю вобмацкам па лесе
*** Іскрацца промні ў чыстых кроплях
*** Ушчэнт ступіліся парогі
Дзеці Паміра
Гранаты
Арганны канцэрт у касцёле
Чужая вясна
Інгела
Непагадзь
Размова з маці
Рэха

## Верасовы цвет

*** Вясну прыносяць цёплыя вятры
*** На вярбе з ліста на тонкі ліст
Кыз куу
*** Як хочацца забыцца пра турботы
*** Змяркаецца рапа увосень
Жанчына
Непаразуменні
Ружы
Шыпшына
*** Камусьці здасца смешным, што улетку...
Смага
*** Пакрыўдзіў, кажуць, чалавека лёс
*** Мы выраслі на хлебе і мякіне
Чайкі
Тайна
Страта
Вясёлка на крыле
Купальскія вянкі
Райнісавы сосны
Далёкая
*** З настылай восені вярніся
Іван ды Мар'я
Сальеры
Спатканне
Радзіма
Родны кут
Узрост
Мая геаграфія
Раённая сталіца
Аптымізм
Агонь на сябе
Саласпілс
Прашуся ў госці да нашчадка
Цвярозасць
*** Жыццё пражыць
*** Што след прастыў на змятай руце
Грузчык сорак першага года
На арэлях памяці
Сум па снезе
Зазімак
Давер
*** Нялёгка пасівеламу паэту
Радня
Нязгаслы след
Плачу даўгі
Праз трыццаць год
Бацькаўшчыне
Прызнанне сабе
Побач
Стрэс
Старыца
Мае званні
Знічкі
Радасць
Мяняю
Векавуха
Колеры
Пахаванне барханаў

Грахоўскі С.

Выбраныя творы. У 2-х т. Т. I. Вершы [Аўт. прадм. В. Вітка].— Мн.: Маст. літ., 1983.— 382 с.,

I л. партр.

У пер.: 1 р. 70 к.

Першы том выбраных твораў вядомага беларускага паэта склалі вершы 1929-1977 гадоў. У іх апяваецца прыгажосць роднага краю, рамантыка дарог, каханне, баявыя і працоўныя подзвігі савецкіх людзей.

Рэдактар
Хв. Д. Ж ы ч к а
Мастак
В.П. М а с ц е р а ў
Мастацкі рэдактар
Л. Я. Прагін
Франтыспіс
А. Каляды
Тэхнічны рэдактар
А. Б. Б а р а д з і н а
Карэктар
К. А. К р у к о ў с к а я